## ЗЬМЕСТ



### Бібліяграфія

ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

ШТОМЕСЯЧНАЯ ПАЛІТЫЧНАЯ, ПЭДАЛЁГА-ПЭДАГАГІЧНАЯ
І ПАЛІТЫКА-АСЬВЕТНАЯ ЧАСОПІСЬ



# КАМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ

ОРГАН НАРОДНАГА КАМІСАРЫЯТУ АСЬВЕТЫ
І САЮЗУ ПРАЦАЎНІКОЎ АСЬВЕТЫ









№ 3 САКАВІК № 3

МЕНСК БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА 1932

# Да бясклясавае сацыялістычнае грамады[1])

XVII партканфэрэнцыя УсеКП(б) адкрыла новую вялікую старонку ў гісторыі нашай краіны, у гісторыі чалавецтва. Яе пастановы прадстаўляюць буйнейшае значэньне для сусьветнага пралетарыяту, як вопыт барацьбы за сацыялізм, барацьбы за будучыню ўсяго чалавецтва. На XVII партканфэрэнцыі партыя бальшавікоў прыняла асноўныя дырэктывы да складаньня пляну 2-й пяцігодкі, пляну пабудовы бясклясавае сацыялістычнае грамады.

У выніку першай пяцігодкі, якая завяршаецца намі ў бягучым годзе за 4 гады, мы стварылі фундамант сацыялістычнай эканомікі. У наступнае пяцігодзьдзе, 33-37 г. на гэтым грунце мы пабудуем сацыялізм—як першую фазу камунізма. СССР пад кіраўніцтвам бальшавіцкай партыі ўпэўнена і сьмела ідзе да камунізму—канчатковай мэце нашай партыі.

„Сацыялізм ёсьць зьнішчэньне клясаў,"—казаў Ленін. І XVII канфэрэнцыя нашай партыі, паставіўшы ў якасьці практычнай задачы 2-й пяцігодкі пабудову сацыялізму, падкрэсьліла, што „асноўнай палітычнай задачай 2-й пяцігодкі зьяўляецца канчатковая ліквідацыя капіталістычных элемэнтаў і клясаў наогул, поўнае зьнішчэньне прычын, якія параджаюць клясавыя супярэчнасьці і эксплёатацыю, і перамаганьне перажыткаў капіталізму ў эканоміцы і сьвядомасьці людзей, ператварэньне ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў сьвядомых і актыўных будаўнікоў бесклясавае сацыялістычнае грамады".

Гэту палітычную задачу партыя ставіць перад сабою, і яна пасьпяхова выканае яе на грунце ўжо дасягнутых гіганцкіх посьпехаў у справе будаўніцтва сацыялізму і атрыманых пралетарыятам перамог у барацьбе за зьнішчэньне клясаў.

У выніку посьпехаў Кастрычніка былі нізрынуты паны і капіталісты, зьнішчана іх прыватная ўласнасьць на сродкі вытворчасьці.

У выніку посьпехаў сацыялістычнай індустрыялізацыі нашай краіны і на базе суцэльнай калектывізацыі ў асноўных збожжавых раёнах ужо зараз ліквідавана кулацтва як кляса і яго прыватная ўласнасьць на сродкі вытворчасьці. У 32-33 г. будзе закончана суцэльная калектывізацыя і ліквідацыя кулацтва, як клясы. Тым самым будзе зьнішчана ў нашай краіне апошняя апора капіталістычнай эксплёатацыі.

Партыя атрымала сусьветна-гістарычную перамогу, вырашыўшы на базе магутнага росту сацыялістычнай індустрыі самую цяжкую задачу пралетарскай рэвалюцыі, павярнуўшы бядняцка-серадняцкія гушчы вёскі да сацыялізму, на шлях разьвіцьця калектыўнага сацыялістычнага земляробства. На аснове ленінскай палітыкі нашай партыі пройдзена ўжо аграмадная частка шляху да поўнага зьнішчэньня прыватнай уласнасьці на сродкі вытворчасьці ў сельскай гаспадарцы: да пачатку 32 г. у калгасах аб'яднана 62 проц., амаль $^2/_3$ сялянскіх гаспадарак нашай краіны.

У выніку гэтых перамог пралетарыяту будзе пабудавана ў другой пяцігодцы бясклясавая сацыялістычная грамада, на базе далейшага аграмаднага росту вытворчых сіл, які дасьць нам магчымасьць ужо ў 2-й пяцігодцы выйсьці на першае месца ў Эўропе ў тэхнічных адносінах. Да канца другой пяцігодкі павінны быць і будуць створаны ўсе

[1]) Артыкул перакладзены з перадавіцы часопісу „Большевик", № 3 за 1932 г.

неабходныя ўмовы для канчатковага вырашэньня шэрагу складанейшых задач: поўнага зьнішчэньня супрацьлегласьці паміж горадам і вёскай, канчатковага зьнішчэньня культурнай і эканамічнай адсталаласьці прыгнечаных пры царызьме нацыянальнасьцяй, ўсё больш глыбокага выжываньня супрацьлегласьці паміж фізычнай і разумовай працай.

Пабудова сацыялізму, зьнішчэньне клясаў у другой пяцігодцы—справа напружанай клясавай барацьбы пралетарыяту. Каб гэту справу закончыць,—казаў Ленін,—„патрэбен вялізарны крок наперад у разьвіцьці вытворчых сіл, патрэбна перамагчы супраціўленьне (часта пасыўнае, якое асабліва ўпарта і асабліва цяжка паддаецца перамаганьню) мнагалікіх рэштак дробнае вытворчасьці, патрэбна перамагчы аграмадную сілу прывычкі і коснасьці, маючай сувязь з гэтымі рэшткамі".

У 2-ю пяцігодку партыя ў барацьбе з рэшткамі капіталізму, пры нямінучым абвастрэньні ў асобных раёнах і на асобных вучастках клясавай барацьбы, дабʼецца выключна высокага ўздыму вытворчых сіл краіны іператварэньня ўсіх працоўных у сьвядомых і актыўных будаўнікоў бяскласавае сацыялістычнае грамады.

У нашай краіне ёсьць усё неабходнае і дастатковае для пераможнага вырашэньня гэтых гістарычных задач.

Найвялікшыя прыродныя багацьці СССР, якія яшчэ ня зусім выведаны і якія дрымалі ў нетрах нашай аграмаднай краіны, пад магутным узьдзеяньнем творчых сіл пралетарыяту, ажываюць і ставяцца на службу будаўніцтва сацыялізму. Гэта новыя багацьці апалу, жалеза, каляровых і рэдкіх мэталяў, хэмічнай сыравіны. Гэта-аграмадныя багацьці вадзяной энэргіі, якія рэалізуюцца ў 2-й пяцігодцы. Гэта—найвялікшыя лясныя багацьці і зямельныя прасторы, размаітныя кліматычныя ўмовы аж да субтропікаў.

Нябачаныя тэмпы разьвіцьця сацыялістычнай гаспадаркі нашай краіны паказалі ўсе перавагі нашай сыстэмы. Калі Энгельс казаў аб аграмаднай здольнасьці капіталістычнай „прамысловасьці да пашырэньня, перад якой пашырэасьць газаў аказваецца дзіцячай дрындушкай",—дык сацыялістычная прамысловасьць у сваім бурным разьвіцьці пакідае далёка адзаду тэмпы капіталістычнага разьвіцьця.

Разгортваньне сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва сапраўды адчыніла „новую эпоху сацыялістычнага будаўніцтва". Усюды, на ўсіх вучастках будоўлі бʼе несьцякаемая крыніца творчай энэргіі і актыўнасьці мас, адчынены багатыя крыніцы новых арганізацыйных сіл і талентаў з рабочых і калгасьнікаў.

Ленінская палітыка партыі, кіраўніцтва ЦК, згрупаваньне канкрэтнасьці ў яго кіраўніцтве з высокай прынцыповасьцю—гэта галоўная ўмова пераможнага руху наперад, пасьпяховага пераадоленьня ўсіх цяжкасьцяй на шляху. Партыя, камсамол, шматмільённыя масы перадавых пралетараў і калгасьнікаў працуюць і вучацца, не пакладаючы рук, сьледуючы тым вялікім узорам, якія даў Ленін, давау і дае ЦК нашай партыі, правадыр партыі і рабочае клясы т. Сталін. Гэтая рэвалюцыйная вучоба, гэты палітычны вопыт усё больш уваходзіць „у культуру, у быт, у прывычкі", усё мацней ахапляе новыя кадры будаўнікоў сацыялізму.

На падставе ўсіх аграмадных пераваг нашага ладу і сацыялістычнай сыстэмы нашае гаспадаркі ў 2-ю пяцігодку будзе зроблены вялізарны крок наперад у разьвіцьці вытворчых сіл СССР. У 2-ю пяцігодку (у першыя гады яе) будзе ў асноўным закончаны цыкль пачатых у 30/31 г. найвялікшых у сьвеце камбінаваных прадпрыемстваў—Урала-Кузьнецкага Камбінату, Бярэзьнікоў, Бобрыкаў, рэканструяванага Данбаса, Днепракамбінату і інш. У 32/33 г. будзе закончана суцэльная калектывізацыя. Але гэта толькі частка вялікіх работ 2-й пяцігодкі. Да 32 году ўжо створана ў нашай краіне ўласная база для завяршэньня тэхнічнай рэканструкцыі ўсяе народнае гаспадаркі, база сацыялістычнай буйнай машыновай індустрыі. За першую пяцігодку будуць уведзены ў шэрагі сацыялістычнай індустрыі новыя прадпрыемствы з асноўным капіталам у 12 мільярдаў рублёў.

Гэтыя новыя прадпрыемствы, пабудаваныя па апошнім слове сусьветнай

тэхнікі, утвараюць магутную аснову рэканструкцыі ўсіх галін гаспадаркі ў 2-й пяцігодцы.

У справе гэтага вялізарнага ўздыму вытворчых сіл на базе завяршэньня тэхнічнай рэканструкцыі народнае гаспадаркі вядучая роля належыць машынабудаўніцтву.

Прадукцыя машынабудаўніцтва вырастае да канца пяцігодкі ў 3—3½ разы. Разьвіцьцё машынабудаўніцтва ідзе за апошнія гады вельмі высокімі тэмпамі: прадукцыя яго будзе складаць у 32 годзе да 6.800 млн. рублёў (пры 400 млн. руб. прадукцыі 1913 г.). Будаўніцтва варштатаў – важнейшае зьвяно машынабудаўніцтва вырасла да 32 году ў 7-8 разоў. Другая пяцігодка павінна дадаць прыкладна да 200 тысяч варштатаў, працуючых зараз,—ня менш 400 тысяч. Да 1937 г. СССР выходзіць па машынабудаўніцтве на першае-другое месца ў сьвеце.

Разьвіцьцё машынабудаўніцтва ідзе ў сувязі са стварэньнем навейшай энэргетычнай базы. У 1937 г. электрастанцыі СССР павінны даць ня менш 100 млр. кілёват-гадзін у дзень (пры 17 млр. у 1932 г.) Тым самым СССР па выпрацоўцы электраэнэргіі абгоніць Германію, Канаду, Ангельшчыну, Францыю, бадай дагоніць Паўночна-Амэрыканскія Злучаныя Штаты. 1937 г. дасьць нам 250 млн. тон вугля (пры 90 млр. тон у 32 г.),—тым самым СССР бадай прабяжыць адлегласьць, якая адлучае СССР цяпер ад Ангельшчыны, перагоніць усе іншыя краіны Эўропы, адстаючы толькі ад ПАЗШ. Здабываньне нафты да канца другой пяцігодкі будзе складаць ня менш 80-90 млн. тон, павялічыўшыся ня менш як у 2½ разы.

Машынабудаўніцтва і энэргетыка—аснова тэхнічнай рэканструкцыі сваім разьвіцьцём забясьпечвае высокі ўздым найважнейшых галін прамысловасьці, карэнную рэканструкцыю транспарту, завяршэньне сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі і яе яшчэ больш высокі ўздым.

Прадукцыя чорнай мэталюргіі павінна дасягнуць у 1937 г. ня менш 22 млн. тон чыгуна пры пляне 32 г. у 9 млн. тон (плюс 1 млн. тон па сустрэчным). Гэта будзе азначаць, што мы ў 1937 г. абгонім усе краіны Эўропы і будзем толькі ўступаць ПАЗШ (якія ў 29 г. далі 43 млн. тон чыгуна).

Каляровая мэталюргія і хэмічная прамысловасьць павінны будуць да 37 г. дайці да такога ўзроўню, каб цалкам задаволіць асноўныя патрэбы краіны.

Асабліва значным будзе ў 33-37 г. рост транспарту. У 2-ю пяцігодку будуць у асноўным закончаны работы па рэканструкцыі Волгі, як важнейшай вадзяной артэрыі па Беламорскім канале. Вялікі размах набывае разьвіцьцё паветраных зносін і аўтамабільнага транспарту.

Але галоўнае значэньне мае рост чыгуначнай сеткі, які павялічваецца за 2-ю пяцігодку на 25-30 тыс. кілёмэтраў, пры аднačасовай каранной рэканструкцыі чыгуначнага транспарту, асновы якой закладзены ўжо ў 31 г. пасьля вядомых пастаноў чэрвеньскага пленуму ЦК УсеКП(б).

Высокія тэмпы разьвіцьця цяжкай прамысловасьці ўжо да канца першай пяцігодкі далі магчымасьць разгортваньня хуткімі тэмпамі вытворчасьці лёгкай і харчовай прамысловасьці. Гэты рост лёгкай і харчовай індустрыі, а таксама павялічэньне прадукцыі сельскай гаспадаркі будуць яшчэ больш высокімі ў 2-й пяцігодцы. Тым самым да канца 2-й пяцігодкі можа і павінен быць ажыцьцёўлены „значна больш хуткі ўздым дабрабыту рабочых і сялянскіх мас і пры гэтым рашучае палепшаньне ўсяе жыльлёвае і камунальнае справы ў СССР“. Забесьпячэньне насельніцтва асноўнымі спажывецкімі таварамі да канца 2-й пяцігодкі павінна павялічыцца ня менш чым у 2—3 разы параўнальна з канцом першай пяцігодкі. Хуткі ўздым узроўня вытворчасьці СССР зьяўляецца і будзе зьяўляцца асновай для больш хуткага росту дабрабыту мас, у супрацьлегласьць капіталізму з яго няспынна абвостранымі супярэчнасьцямі, крызісамі з дзясяткамі мільёнаў галадаючых беспрацоўных, выкінутых на дно жабрацтва, галечы, з дзясяткамі мільёнаў разбураных сялян.

Вырашэньне задачы высокага ўздыму дабрабыту мас самым шчыльным чынам

зьвязана з далейшым разгортваньнем сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі і яе ўздымам.

Плян 2-й пяцігодкі па сельскай гаспадарцы ўключае вялікія вытворчыя заданьні. Прадукцыя збожжа павінна складаць ня менш 1 300 млн. цэнтнераў. Павінна быць у асноўным вырашана праблема жывёлагадоўлі. У галіне прадукцыі бавоўны і ільну яна павінна быць падвоена, па цукровых буракох—патроена.

Гэты аграмадны рост сельска-гаспадарчае вытворчасьці будзе дасягнуты на аснове завяршэньня сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі, яе мэханізацыі, а таксама шырокага ўжываньня ўсіх дасягненьняў агратэхнікі і зоатэхнікі.

СССР зьяўляецца ўжо цяпер краінай самага буйнага земляробства ў сьвеце. Наша краіна паказвае, што толькі сацыялістычная сыстэма гаспадаркі стварае ўмовы для выключна хуткага разьвіцьця сельскае гаспадаркі на моцнай базе навукі і тэхнікі. „На буржуазнай аснове яно (земляробства) адносна менш вытворча і павольней разьвівае вытворчыя сілы працы, чым прамысловасьць",—так азначаў Маркс каранную прычыну больш павольных тэмпаў у разьвіцьці капіталістычнага земляробства. А на сацыялістычнай аснове ў СССР буйная земляробская гаспадарка ў асобе саўгасаў, МТС, калгасаў бурнымі тэмпамі расьце і ідзе наперад. Сацыялістычная сыстэма гаспадаркі здымае капіталістычныя ланцугі з разьвіцьця вытворчых сіл у сельскай гаспадарцы. Менавіта, сацыялістычная рэканструкцыя гаспадаркі зьяўляецца магутнай базай для пераможнага аўладаньня стыхійнымі сіламі прыроды ў земляробстве, для ліквідацыі тае уласьцівай капіталізму супярэчнасьці, аб якой казаў яшчэ Энгельс: „у прамысловасьці панаваньне над прыродаю дасягнута ў непамерна большых памерах чым у земляробстве, якое да гэтых часоў знаходзіцца ў залежнасьці ад надвор'я, замест таго, каб над ім панаваць".

Да 32 г. у СССР утварылася буйная сацыялістычная гаспадарка, як пануючая форма ў земляробстве. Яе база-трактар, сельскагаспадарчая машына. Але ў саўгасе, МТС і калгасе да гэтых часоў новая тэхнічная база ствараецца і ўзмацняецца пераважна ў частцы мэханізацыі. Тым часам барацьба за павышэньне вытворчых сіл сельскае гаспадаркі, за высокую ўраджайнасьць дасьць поўны рэзультат пры аднэй умове, калі на базе мэханізацыі будуць шырока скарыстаны ўсе дасягненьні аграноміі. Трактар і сельскагаспадарчая машына не адмяняюць задачы шырокага ўнядрэньня ў сельскагаспадарчай вытворчасьці аграноміі, як гэта думаюць некаторыя прыхільнікі апартуністычнага самацёку ў справе аўладаньня тэхнікай сельскагаспадарчай вытворчасьці. Наадварот, машына і трактар зьяўляюцца магутнай асновай і рухальнай сілай нябачанага высока-эфэктыўнага ўжываньня ў сельскай гаспадарцы ўсіх дасягненьняў агранамічнай навукі.

Вялізарнае падвышэньне ўраджайнасьці ў 2-й пяцігодцы павінна быць і будзе дасягнута праз выжываньне гэтага рэзкага адставаньня ўзроўню агратэхнікі і зоатэхнікі ў калгасах, МТС і саўгасах, пры выкарыстаньні ўсіх аграмадных магчымасьцяй і пераваг буйнае сацыялістычнае гаспадаркі, пры ўзмацненьні саўгасаў, як узораў буйнае сацыялістычнае гаспадаркі.

Таксама непарыўнай часткай агульных задач 2-й пяцігодкі зьяўляецца поўнае пазбаўленьне ад нізкага ўзроўню арганізацыі працы ў гэтых гаспадарках, рэзка адстаючай ад патрэб і магчымасьцяй буйнае сацыялістычнае вытворчасьці ў земляробстве.

Аднэй з галоўнейшых умоў таго, „каб перамагчы, каб стварыць і замацаваць сацыялізм", Ленін лічыў стварэньне „новай грамадзкай сувязі, новай працоўнай дысцыпліны, новай арганізацыі працы, якая злучыла-б апошняе слова навукі і капіталістычнай тэхнікі з масавым аб'яднаньнем сьвядомых работнікаў, якія твораць буйную сацыялістычную вытворчасьць".

Ня толькі да фабрыкі і заводу, але і да сацыялістычнага земляробства маюць адносіны гэтыя словы Леніна, гэта задача, пастаўленая Леніным.

Менавіта таму арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў зьяўляецца

важнейшай задачай і ў бліжэйшыя гады, у 2-ю пяцігодку. У чым яго значэньне?

Арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў павінна павысіць арганізацыю і вытворчасьць працы ў калгасе да ўзроўню, адпавядаючага яго тыпу, як буйнае сацыялістычнае гаспадаркі; узьняць яе таварнасьць; моцна ўключыць калгас у плянавую сыстэму народнае гаспадаркі СССР; забясьпечыць поўнае выкананьне абавязкаў перад рабочай дзяржавай; вырасьціць калгасны актыў, забясьпечыўшы на гэтай аснове сацыялістычнае перавыхаваньне калгасьніка, ператварэньне яго ў сьвядомага працаўніка сацыялістычнае грамады.

У 1918 г. тав. Крыцман даў „схэму" пралетарскай рэвалюцыі, чаргаваньне яе 4-х фаз: ідэолёгічная рэвалюцыя, палітычная, эканамічная, тэхнічная; гэту схэму паўтарыў т. Бухарын у „эканоміцы пераходнага пэрыяду". Спатыкаюцца і зараз „ідэйкі" аб „чаргаваньні" у выкананьні палітычных, эканамічных, ідэолёгічных і тэхнічных задач у калгасным руху. Такая мэханістычная схэматызацыя рэвалюцыйнага працэсу прыгодна толькі для абгрунтаваньня апартуністычнай практыкі, замазваньня асобных форм клясавай барацьбы на вёсцы, барацьбы за зьнішчэньне клясаў, праз умацаваньне калгасаў. На падставе росту і ўмацаваньня калгасаў усе задачы павялічэньня вытворчасьці і таварнасьці калгаснае гаспадаркі і задачы сацыялістычнай пераробкі калгасьніка могуць быць і павінны быць вырашаны на працягу бліжэйшых год, як непарыўна зьвязаныя паміж сабою бакі аднэй вялікай задачы—ператварэньня многіх дзясяткаў, мільёнаў калгаснага сялянства ў сьвядомых, актыўных будаўнікоў бясклясавае сацыялістычнае грамады.

Завяршэньне рэканструкцыі сельскае гаспадаркі да канца пяцігодкі павінна прывесьці да ліквідацыі ў асноўным розьніцы паміж рабочым і селянінам-калгасьнікам, да ператварэньня сельскагаспадарчае працы ў адну з галін працы індустрыяльнай. А гэта азначае, што дасягаецца „арганізацыя земляробства і прамысловасьці тымі-ж самымі людзьмі, але не дзьвюма рознымі клясамі," як кажа Энгельс. Усё гэта азначае стварэньне ў 2-й пяцігодцы рашаючых умоў для зьнішчэньня супрацьлегласьцяй паміж горадам і вёскай.

На базе сацыялістычнай рэканструкцыі прамысловасьці, транспарту, сельскае гаспадаркі, будзе ажыцьцеўлена асноўная палітычная задача 2-й пяцігодкі—канчатковая ліквідацыя капіталістычных элемэнтаў і клясаў наогул. Гэта зьнішчэньне клясаў і усіх крыніц клясавых супярэчнасьцяй будзе дасягнута не самацёкам, а як вынік няўтомнага сацыялістычнага наступу рабочае клясы, няпрымірымай барацьбы супроць спробаў капіталістычных элемэнтаў шалёна супраціўляцца разгорнутаму сацыялістычнаму наступу.

„Зьнішчэньне клясаў шляхам абвостранай клясавай барацьбы пралетарыяту—такая формула Леніна",—кажа т. Сталін. Партыя адкідае ўсялякія запэўненьні аб мірным і „плаўным" разьвіцьці СССР у 2-й пяцігодцы, як запэўненьне наяўна права ухілісцкае.

У разгорнутым сацыялістычным наступе пралетарыяту па ўсім фронце ў аграмаднай меры ўзрасьце клясавая магутнасьць пралетарыяту, яго колькасьць. Рабочых у СССР налічвалася ў 23-24 г.—3, 3 млн. чал. (прамысловасьць, будаўніцтва, чыгуначны транспарт). Гэты лік узрос у 1930 г. да 7, 7 млн. чал. і да 10, 1 млн. у 1931 г.; у 1932 г. і ў 2-й пяцігодцы гэты рост пойдзе далей.

Яшчэ больш расьце рэвалюцыйная актыўнасьць і сьвядомасьць пралетарыяту. Каля 3 млн. членаў камуністычнай партыі, звыш 5 млн. камсамольцаў, 3, 5 млн. ударнікаў—такія красамоўныя лічбы сёньняшняга дню. Другая пяцігодка дасьць яшчэ большы рост магутнасьці, арганізаванасьці і рэвалюцыйнай актыўнасьці пралетарыяту. Сацыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва ў іх шматлікіх формах ахопяць усе бакі вытворчасьці, працы, культуры, грамадзкай работы. Уцягненьне ў сацыялістычнае спаборніцтва дзясяткаў мільёнаў калгаснай вёскі становіцца адным з важнейшых шляхоў сацыялістычнай пераробкі калгасьніка.

Шэрагі пралетарыяту ў бліжэйшыя гады будуць расьці за лік новых пластоў,

якія прыходзяць з гораду і вёскі, якія нядаўна зьвязаны былі з дробнай вытворчасьцю. Абвастрэньне клясавай барацьбы ў асобныя моманты і асабліва ў асобных раёнах і на асобных вучастках сацыялістычнай будоўлі патрабуе не паслабленьня, а ўзмацненьня барацьбы супроць чуждых пралетарыяту ўплываў у асяродзьдзі самае рабочае клясы. Пралетарыят, будуючы сацыялізм, няўтомна павінен змагацца супроць гэтых уплываў, уздымаючы свае больш адсталыя новыя папаўненьні да ўзроўню загартаваных і перадавых, прасякнутых рэвалюцыйнай актыўнасьцю і сьвядомых кадраў.

„Сіла прывычкі мільёнаў і дзесяткаў мільёнаў -- самая страшэнная сіла",— казаў Ленін. Супроць гэтай сілы прывычкі коснасьці, якая прадстаўляе „аграмадную стрымліваючую сілу," „сілу інэрцыі гісторыі" (Энгельс), супроць усіх аджыўшых, але ўпарта супраціўляючых рэштак дробнай вытворчасьці ў гаспадарцы і ўплыву яе на сьвядомых людзей—усё больш узмацняецца кіруючая і арганізатарская роля пралетарыяту (яго галоўная роля), найбольш поўна выяўляемая ў нашай партыі, як авангардзе рабочае клясы.

Барацьба за „новую грамадзкую сувязь, новую працоўную дысцыпліну, новую арганізацыю працы" прадстаўляе на бліжэйшыя гады важнейшую форму клясавай барацьбы пралетарыяту за сацыялізм, супроць рэштак і пэражыткаў капіталізму. Барацьба за сацыялістычную пераробку калгасьніка— важнейшы напрамак барацьбы за зьнішчэньне клясаў.

У сваіх пастановах ад 2 жніўня 1931 г. і 4 лютага 1932 г. аб арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў Цэнтральны камітэт партыі вызначыў канкрэтныя напрамкі гэтае барацьбы. Умацаваньне брыгады, як асноўнага зьвяна арганізацыі працы ў калгасе, адказнасьць кожнага калгасьніка за даручаную работу, за жывёлу і інвэнтар, ліквідацыя абязьлічкі; ліквідацыя ўраўнілаўкі, заахвочваньне правільна арганізаванай зьдзельшчынай; разьмеркаваньне прыбыткаў у калгасе па трудаднях, у поўнай адпаведнасьці з колькасьцю і якасьцю працы; далейшае абагульненьне сродкаў вытворчасьці, якія засталіся яшчэ ў аднаасобным карыстаньні, па меры росту грамадзкае калгаснае вытворчасьці; умацаваньне МТС, як галоўнага рычага калгаснага руху,— усё гэта рашаючыя зьвеньні калгаснага будаўніцтва.

Уся барацьба партыі за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў спатыкае шалёнае супраціўленьне кулацкіх элемэнтаў, упартае супраціўленьне з боку элемэнтаў дробна-буржуазнай стыхіі ў калгасах, а ў партыі—супраціўленьне апартуністых усіх колераў. Толькі праз напружаную клясавую барацьбу ў 2-ю пяцігодку будзе закончана рашучае ўмацаваньне калгасаў, як сацыялістычных гаспадарак, на аснове сацыялістычнага перавыхаваньня калгасных мас.

Праваапартуністычныя элементы, адбіваючы кулацкія тэндэнцыі, спрабуюць цягнуць на такі шлях „умацаваньня калгасаў", які ў сапраўднасьці варочае ізноў да дробнауласьніцкай гаспадаркі, да падзелу калгасаў.

„Левыя" апартуністы са свайго боку стараюцца цягнуць да такой „пераробкі" калгасьнікаў, якая будзе азначаць развал калгасаў. Гэта—пераскакваньне да камуны замест работы над умацаваньнем сельскагаспадарчай арцелі. Гэта—„саўгасізацыя" калгасаў, калгасьнікаў. Той і другі шлях несумяшчальны з ленінскай палітыкай партыі ў справе сацыялістычнай пераробкі калгасьнікаў. Шлях правых і „левых" апартуністых адбівае шалёнае супраціўленьне рэштак капіталістычных элемэнтаў, якія ідуць на дно пад зьнішчальнымі ўдарамі сацыялістычнага наступу.

Новыя, сацыялістычныя, адносіны ў краіне складаюцца і будуць складацца не ў абстаноўцы „мірнага ўрастаньня", а ў суровай абстаноўцы шалёнага супраціўленьня рэштак капіталістычных элемэнтаў, рэштак шкодніцкіх элемэнтаў, у абстаноўцы супраціўленьня перараджэнчых элемэнтаў у асобных зьвеньнях дзяржаўнага апарату. Гінучыя капіталістычныя элемэнты, нясумненна, разьлічваюць на падтрымку з боку сусьветнага імпэрыялізму, але гэтыя ча-

каньні будуць таксама нізрынуты далейшым пераможным ростам сацыялізму, як раней былі разьбіты ўшчэнт усялякія пляны шкодніцкіх інтэрвэнцкіх груп.

Партыя пераможна выканае задачу 2-й пяцігодкі. Але гэтай перамогі партыя дасягне ня шляхам самацёку, а шляхам „умацаваньня пралетарскай дыктатуры і далейшага разгортваньня барацьбы з апартунізмам, і асабліва з правым ухілам, як галоўнаю небясьпекаю на даным этапе“.

„Наша разьвіцьцё ідзе не ў парадку плаўнага, агульнага ўздыму ўверх. Не, таварышы, у нас ёсьць кляса, у нас ёсьць супярэчнасьці ўнутры краіны, у нас ёсьць мінулае, у нас ёсьць цяперашняе і будучае, у нас ёсьць супярэчнасьці паміж імі, і мы ня можам рухацца наперад у парадку плаўнага пакачваньня на хвалях жыцьця. Наша прасоўваньне праходзіць у парадку барацьбы, у парадку разьвіцьця супярэчнасьцяй, у парадку перадоленьня гэтых супярэчнасьцяй, у парадку выяўленьня і ліквідацыі гэтых супярэчнасьцяй. Ніколі ня можам мы, пакуль ёсьць клясы, мець такое становішча, калі льга будзе сказаць: ну, дзякуй богу, цяпер усё добра. Ніколі гэтага ня будзе ў нас, таварышы, заўсёды ў нас, што-кольвек адмірае ў жыцьці, але тое, што адмірае, ня хоча паміраць проста, а змагаецца за сваё існаваньне, адстойвае сваю аджыўшую справу. Заўсёды ў нас нараджаецца што-кольвек новае ў жыцьці. Але тое, што нараджаецца, нараджаецца нязвычайна, а пішчыць, крычыць, адстойваючы сваё права на існаваньне... Барацьба паміж старым і новым, паміж адміраючым і тым, якое нараджаецца,—вось аснова нашага разьвіцьця“.

Гэтыя словы сказаны т. Сталіным на XV зьезьдзе партыі ў канцы 1927 г., але яны ўсю сваю моц захоўваюць цяпер на ўвесь бліжэйшы пэрыяд.

XVII канфэрэнцыя з усёй рашучасьцю падкрэсьліла, што „і надалей яшчэ нямінуча абвастрэньне клясавай барацьбы ў асобныя моманты і асабліва ў асобных раёнах і на асобных вучастках сацыялістычнай будоўлі, што разам з тым падкрэсьлівае захаваньне, а ў некаторых выпадках і ўзмацненьне буржуазных уплываў на паасобныя пласты і групы працоўных, нямінучасьць яшчэ на працягу доўгага часу пранікнавеньня чуждых пралетарыяту клясавых уплываў у асяродзьдзе рабочых і нават у партыю. З прычыны гэтага перад партыяй стаіць задача ўмацаваньня пралетарскай дыктатуры і далейшае разгортваньне барацьбы з апартунізмам, і асабліва з правым ухілам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе.“

Клясавая база правага апартунізму—кулацтва, рэшткі капіталізму. І менавіта таму, што нямінуча шалёнае супраціўленьне сацыялістычнаму наступу з боку буржуазных элемэнтаў, якія абрачаны на пагібель, на даным этапе галоўнай небясьпекай партыі застаецца правы апартунізм.

Найбольш характэрнай праявай правага апартунізму зьяўляецца палітыка і практыка самацёку—замест упартай барацьбы, замест канкрэтнага бальшавіцкага кіраўніцтва, замест рэвалюцыйнай пільнасьці і мабілізаванасьці, замест творчай барацьбы за кожны расток новага, замест зьнішчальнай барацьбы супроць усялякай расхлябанасьці і абывацельшчыны.

З усёй рэзкасьцю т. Сталін бічаваў у дакладзе на XV зьезьдзе партыі тэорыю самацёку, „плаўнага разьвіцьця“, праваапартуністычную практыку тых камуністых, якія жадаюць „плысьці па плыні, плаўна і спакойна, без пэрспэктыў, без заглядваньня ў будучыню, так, каб вакол адчуваўся сьвяточны і ўрачысты настрой, каб кожны дзень былі ў нас урачыстыя пасяджэньні, ды каб усюды былі воплескі і каб кожны з нас пападаў па чарзе ў ганаровыя члены ўсякіх прэзыдыумаў... Вось гэта няўтрымнае жаданьне бачыць усюды сьвяточны настрой, гэта цяга к дэкарацыям, да ўсякіх юбілеяў, патрэбных і непатрэбных, гэта жаданьне плысьці пакуль плывецца, не аглядаючыся, куды-ж гэта нас нясе...—усё гэта і складае... аснову нашых недахопаў у нашым партыйным быце“.

Барацьба супроць правага апартунізму, як галоўнай небясьпекі, мысьліма

толькі пры адначасова няўтомнай барацьбе супроць „левай“ фразы, „левага“ апартунізму, зазнайства, галавакружэньня ад посьпехаў. Самы зьнішчальны адпор усёй партыі павінна спаткаць усялякае прымірэнцтва і гнілы лібэралізм.

Рэвалюцыйная пільнасьць супраць клясавага ворага і ўмацаваньне дыктатуры пралетарыяту, бальшавіцкая партыйная ваяўнічасьць і няпрымірымасьць у барацьбе з усімі рознакалёрнасьцямі апартунізму, з усімі скрыўленьнямі ленінскай палітыкі—такавы рашаючыя ўмовы нашай перамогі ў 2-й пяцігодцы.

Пасьпяховае завяршэньне першай пяцігодкі ў 4 гады, выкананьне народнагаспадарчага пляну на будучы 32 г., у першую чаргу па прамысловасьці, павінна падрыхтаваць пасьпяховае выкананьне пляну 2-й пяцігодкі, асабліва ў справе тэхнічнай рэканструкцыі ўсіх галін народнае гаспадаркі. У гэтым сэнсе рашэньні XVII канфэрэнцыі аб выніках работы прамысловасьці за 1931 г. і задачах яе на 32 г. непарыўна зьвязаны з дырэктывамі па 2-й пяцігодцы. Валавая прадукцыя прамысловасьці ў 1932г. павінна складаць суму ў 37,5 млр. р. (супроць 27 млр. у 31 г.). Сабекошт павінен быць зьніжаны на 7 проц. Капітальныя ўкладаньні ў прамысловасьць падымаюцца разам з апошнімі дадатковымі асыгнаваньнямі да 12 млр. руб. (у 31 г. было 5 млр. руб.).

Гэтыя аграмадныя задачы з посьпехам будуць выконвацца на аснове баявой праграмы перабудоўкі ўсёй гаспадарчай работы, дадзенай т. Сталіным у яго гістарычнай прамове на нарадзе гаспадарнікаў. Асаблівае значэньне пры гэтым мае выкананьне якасных паказальнікаў. Довад посьпехаў гэтай барацьбы—аўладаньне тэхнікай на ўсіх вучастках гаспадарчае работы.

Посьпехі першай пяцігодкі, барацьба за яе завяршэньне ў 32 г. і за плян 2-й пяцігодкі—гэта справа сусьветнагістарычнага значэньня. Барацьба двух сусьветных сыстэм, сацыялізму і капіталізму, спаборніцтва іх не на жыцьцё, а на сьмерць, разгортваецца з усёй яскравай відавочнасьцю для ўсё больш шырокіх мас працоўных капіталістычнага сьвету. Супярэчнасьці і язвы капіталізму, выяўленыя да канца ва ўмовах сусьветнага эканамічнага крызісу, дапамаглі самым шырокім масам зразумець праўду аб сацыялістычным будаўніцтве СССР. Усё больш рэвалюцыянізуючае значэньне ў масах рабочых і працоўных усяго сьвету маюць посьпехі сацыялізму ў СССР. Наша краіна дае хуткі рост па ўсіх паказальніках за ўсе апошнія гады, а эканоміка капіталістычных дзяржаў няспынна коціцца ўсё далей уніз.

Гэтыя факты буржуазіі і яе агентам цяжка захаваць, замаўчаць. Калі параўнаць прамысловую прадукцыю канца 31 г. з вышэйшым за апошнія гады пунктам у 29 г.,—прымаючы 1929 г. за 100—дык прамысловая прадукцыя налає па ПАЗШ да 58,7 проц., Германіі да 59,5 проц., Ангельшчыне 78,6 проц., Францыі—81,3 проц., Японіі —89,7 проц. Гэтыя факты б'юць штодзённа ў вочы кожнаму рабочаму, працоўнаму ўсіх краін. Шматлікія дзясяткі мільёнаў пакінуты на жабрацтва, недаяданьне, пагрозу галоднай сьмерці. Разгул фашысцкага тэрору, узмацненьне палітычнага прыгнечаньня буржуазных дзяржаў ня ў сілах задушыць узрастаючай рэвалюцыйнай актыўнасьці мас. Яшчэ ў два разы большы эканамічны і палітычны ўціск з боку капіталізму над працоўнымі каленій і паўкаленій.

Пралетарыят шукае выхаду з тупіка сусьветнага крызісу капіталізму ў рэвалюцыйнай барацьбе. Магутна растуць сілы новага рэвалюцыйнага ўздыму, сілы сусьветнай пралетарскай рэвалюцыі.

Імпэрыялізм шукае выхаду з тупіка крызісу ва ўзмацненьні эканамічнага прыгнечаньня і эксплёатацыі, тэроры, узброеньні. Ідзе шалёная падрыхтоўка да новай ўзброеннай барацьбы. Небясьпечнасьць вайны супраць СССР узрастае.

Падзеі на Далёкім Усходзе з усёй відавочнасьцю паказваюць, якую жудасьць новай крывавай бойкі рыхтуе імпэрыялізм, да якога разгулу сіл міліл-

тарызму, да якога зьнішчэньня вытворчых сіл вядзе капіталізм. Ї гэтыя-ж падзеі паказваюць, што замыслы імпэрыялістаў накіраваны ў першую чаргу супраць СССР. Гэтыя пляны і намеры лягеру імпэрыялістых выбалтала адна з буржуазных францускіх газэт „Лібэртэ“, якая яшчэ ўвосень 1931 г. пісала: „У аграмадным хаосе жоўтага Ўсходу адна Японія прадстаўляе арганізаваную дзяржаву, дзейную сілу цывілізацыі... Адзін толькі японскі салдат, салдат цывілізацыі здолен прыкончыць страшэнную савецкую дзяржаву, якая, стоючы аднэй нагой ў Эўропе і другой ў Азіі, зможа перавярнуць абудвы кантынэнты. Савецкая дзяржава „уязьвіма“ у Сібіры. Ї калі Эўропа зразумее свой абавязак перад цывілізацыяй, дык бяскрайнія стэпы Сібіры могуць стаць у бліжэйшы дзень полем бойкі, у якой і загіне бальшавізм“.

Хіба гэта выступленьне прадажнай газэты не выкрывае плянаў сусьветнага імпэрыялізму з усёй яснасьцю і вастратой?

У нашай партыі, у пралетарыяту СССР адзін адказ на гэтыя пляны: найвялікшай пільнасьцю, умацаваньнем абароназдольнасьці СССР забясьпечыць сваю палітыку міра.

„...Нам удалося адстаяць мір не даючы ворагам уцягнуць сябе ў канфлікты, ня гледзячы на шэраг правакацыйных актаў і авантурныя наскокі падпальшчыкаў вайны. Гэту палітыку міра будзем весьці надалей ўсімі сіламі, усімі сродкамі. Ні аднэй пядзі чужой зямлі ня хочам. Але і сваёй зямлі, ніводнага вяршка сваёй зямлі не аддамо нікому“. (Сталін).

Наша партыя пераходзіць да непасрэднага ажыцьцяўленьня найвялікшай мэты, якую навукова абгрунтавалі і паставілі перад чалавецтвам Маркс і Энгельс, за якую змагаўся геній пралетарыяту Ленін, барацьбой за якую кіруе цяпер правадыр нашай партыі т. Сталін.

14 год нашай гіганцкай барацьбы, вынікі першай пяцігодкі—яскравы довад гістарычнай нямінучасьці канчатковай перамогі сацыялізму, краху абрачонага на сьмерць капіталістычнага грамадзкага ладу.

Больш 50 год таму назад Энгельс пісаў. „Буйная прамысловасьць стварыла ў асобе буржуазіі клясу, якая ўладае манаполіяй ўсіх сродкаў вытворчасьці і жыцьцёвых сродкаў, але якая ў кожны пэрыяд спэкуляцыі і наступаючага за ім краху даводзіць, што яна стала няздольнай да далейшага панаваньня над сіламі вытворчасьці, якія перарасьлі яе ўладу, кляса, пад кіраўніцтвам якой грамада ідзе насустрач катастрофе, як лёкаматыў, для якога машыніст ня мае сіл адчыніць прадахраняльны клярпан. Другімі словамі... створаныя сучасным капіталістычным спосабам вытворчасьці вытворчыя сілы і выпрацаваная ім сыстэма разьмеркаваньня каштоўнасьцяй знаходзяцца ў вялікай супярэчнасьці з гэтым самым спосабам вытворчасьці, прытым у такой ступені, што ператварэньне спосабаў вытворчасьці і разьмеркаваньне, якое зьнішчае ўсе клясавыя супярэчнасьці, павінна адбыцца абавязкова пад пагрозай гібелі ўсяе грамады. У гэтым відавочным матар'яльным факце, які ў больш альбо менш яснай форме з непераможнай неабходнасьцю пранікае ў сьвядомасьць эксплёатуемых пралетараў,—у гэтым факце, а не ў прадстаўленьнях таго, альбо іншага габінэтнага мысьліцеля, аб праве ці беспраўі,—заключаецца ўпэўненасьць сучаснага сацыялізму ў яго будучым панаваньні“.

Гэта ўпэўненасьць у панаваньні сацыялізму ва ўсім сьвеце цалкам апраўдваецца цяпер. Справа сацыялізму перамагае

Справа сацыялізму пераможа ва ўсім сьвеце.

Довад гэтай перамогі—растучыя сілы сусьветнай непераможнай пралетарскай рэвалюцыі, адзінства, дысцыпліна, ідэёвая магутнасьць партыі бальшавікоў, вядучай партыі Камінтэрну, кіраўніцтва яе Ленінскага ЦК і яе правадыра тав. Сталіна.

# Аб культурным будаўніцтве БССР

*Пастанова аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б*

Рабочая кляса БССР, пад кіраўніцтвам КП(б)Б пасьлядоўна і няўхільна ажыцьцяўляючы генэральную лінію партыі, дабілася рашаючых посьпехаў ва ўсіх галінах сацыялістычнага будаўніцтва БССР.

З краіны прамыслова адсталай, з дробнай саматужнай і паўсаматужнай прамысловасьцю, з надзвычай адсталай дробнай і найдрабнейшай сельскай гаспадаркай, БССР, пры дыктатуры пралетарыяту, дзякуючы брацкай актыўнай дапамозе пралетарыяту ўсяго Савецкага Саюзу, перагварылася ў краіну са шпарка ўзрастаючай прамысловасьцю; адносная вага прамысловай прадукцыі ва ўсёй прадукцыі народнай гаспадаркі БССР узрасла з 38,7 проц. у 1929-30 г. да 50 проц. у 1931 г. Агуловая прадукцыя ўсёй прамысловасьці ў1931 г. складае каля 703,8 млн. руб. Пабудаваны і ўведзены ў эксплёатацыю рад буйных перадавых прадпрыемстваў (БелДРЭС, Гомсельмаш, Магвалакно, заводы будматэрыялаў, дрэваапрацоўчы камбінат і г. д.).

У сельскай гаспадарцы БССР, як ва ўсім Савецкім саюзе, адбыўся карэнны пералом, які выявіўся ў канчатковым павароце да сацыялізму бядняцка-серадняцкіх мас вёскі. Пануючае становішча ў сельскай гаспадарцы занялі сацыялістычныя формы (калгасы, саўгасы). Калектывізацыяй ахоплена каля 50 проц. усіх бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, адносная вага засеўнай плошчы саўгасаў узрасла за апошнія два з паловай гады ў тры разы, значна ўзрасла адносная вага тэхнічных культур—ільну і канапель у агульнай засеўнай плошчы; трактарны парк узрос да 2.000 трактараў, значна павялічылася колькасьць малочна-таварных і сьвінагадоўчых фэрм.

На аснове разгорнутага гаспадарчага будаўніцтва, цьвёрдага і няўхільнага правядзеньня ленінскай нацыянальнай палітыкі, БССР дабілася буйнейшых посьпехаў у галіне культурнага будаўніцтва.

З краіны да Кастрычніцкай рэвалюцыі нацыянальна прыгнечанай, адсталай, няпісьменнай, з 70 проц. няпісьменнага працоўнага насельніцтва, БССР ператвараецца ў краіну суцэльнай пісьменнасьці, з забясьпечаньнем культурных запатрабаваньняў працоўных мас усіх нацыянальнасьцяй на іх роднай мове. Праведзена вялікая работа па ліквідацыі няпісьменнасьці, і ёсьць усе рэальныя магчымасьці для таго, каб да 1 мая 1932 г. БССР стала краінай суцэльнай пісьменнасьці. Уведзена ўсеагульнае абавязковае навучаньне, праведзен рад мерапрыемстваў па падрыхтоўцы разгортваньня ўсеагульнага навучаньня на базе сямігодкі.

Рознымі зьвеньнямі першапачатковай школы ахоплена каля 650 тыс. дзяцей—97 проц. школьнага узросту; школамі другога канцэнтру (сямігодкай) ахоплена звыш 120 тыс. дзяцей; школамі граматы для дарослых няпісьменных і малапісьменных ахоплена 412 тыс. чал.

У той час, калі да Кастрычніцкай рэвалюцыі ў БССР ня было ні аднэй як вышэйшай навучальнай установы, так і навукова-дасьледчай установы, за гады савецкай улады ў БССР створана 27 вышэйшых навучальных устаноў, 94 тэхнікумы з агульнай колькасьцю студэнтаў 32 тысячы чалавек. У ФЗВ і прафтэхнічных школах навучаецца каля 20.000 чалавек. Разгорнута значная навукова - дасьледчая работа, створана 27 навукова-дасьледчых інстытутаў, вырасьлі кадры навуковых работнікаў і асьпірантуры (звыш 500 чалавек асьпірантаў рыхтуюцца да навуковай і пэдагагічнай работы).

Разгорнута вялікая работа па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы кадраў для прамысловасьці і сельскай гаспадаркі, падрыхтавана звыш 20 тысяч чалавек.

Шпарка расьце кніжная прадукцыя. У 1931 г. на беларускай мове выдана звыш 10 млн. кніг супроць 1 млн. 400 тыс. у 1924 г. і 33 тыс. у 1913 г. Значна

ўзрасло выданьне кніг на яўрэйскай, польскай, літоўскай і інш. мовах.

Растуць тыраж і сетка цэнтральных газэт БССР—з 284 тыс. у 1930 г. да 343 тыс. экзэмпляраў у 1931 г. Тыраж 64 раённых газэт узрос да 600 тыс. экзэмпляраў. Значна вырас тыраж газэт нацменшасьцяй (яўрэйскіх, польскіх, літоўскіх і інш.).

У галіне разьвіцьця беларускага мастацтва і літаратуры таксама дасягнуты буйныя посьпехі. За гады рэвалюцыі створаны беларускі тэатр, кіно. Значна павялічылася сетка мастацкіх устаноў (тэатры, кіно, музыка, выяўленчае мастацтва, выстаўкі, музэі і г. д.), значна вырасла беларуская пралетарская літаратура.

Вялізарнейшыя перамогі на фронце гаспадарчага і культурнага будаўніцтва БССР зьяўляюцца рэзультатам надзвычайнага росту актыўнасьці найшырэйшых рабочых, калгасных і бядняцка-серадняцкіх мас БССР, рэзультатам цьвёрдага і няўхільнага правядзеньня генэральнай лініі партыі, разгорнутага наступленьня на капіталістычныя элемэнты па ўсім фронце.

КП(б)Б дабілася гэтых рашаючых посьпехаў у бязьлітаснай барацьбе з контррэвалюцыйным трацкізмам, які ператварыўся зараз у перадавы атрад міжнароднай буржуазнай контррэвалюцыі, у бязьлітаснай барацьбе з правым апартунізмам—галоўнай небясьпекай на даным этапе, „левымі" загібамі, прымірэнцтвам, а таксама непрымірымай барацьбе з ухіламі ад ленінскай нацыянальнай палітыкі партыі, з ухілам у бок вялікадзяржаўнага шавінізму як галоўнай небясьпекай на даным этапе, а таксама з ухілам у бок мясцовага шавінізму, нацыянал-апартунізмам, контррэвалюцыйным нацдэмакратызмам.

* * *

Аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б лічыць, што ажыцьцяўленьне ў другой пяцігодцы сусьветна-гістарычных задач, пастаўленых XVII усесаюзнай партканфэрэнцыяй — „канчатковая ліквідацыя капіталістычных элемэнтаў і кляс наогул, поўнае зьнішчэньне прычын, якія параджаюць клясавую розьніцу і эксплёатацыю, і перамаганьне перажыткаў капіталізму ў эканоміцы і сьвядомасьці людзей, ператварэньне ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў сьвядомых і актыўных будаўнікоў бясклясавага сацыялістычнага грамадзтва"— патрабуюць бальшавіцкага разгортваньня і ажыцьцяўленьня задач культурнай рэвалюцыі.

„Аўладаньне тэхнікай, гаспадарчымі кадрамі, стварэньне шырокіх новых кадраў уласнай тэхнічнай інтэлігенцыі з рабочых і сялян, рашучае ўзьняцьце культурнага ўзроўню ўсёй масы працоўных... усямернае паскарэньне ажыцьцяўленьня ўсеагульнай пісьменнасьці насельніцтва, хутчэйшае ўзьняцьце ўсёй справы тэхнічнай асьветы і ўзмоцненае матэрыяльнае падтрыманьне дзяржавай разьвіцьця навукі ў СССР" (з рэзалюцыі XVII партканфэрэнцыі)— такавы важнейшыя задачы ў галіне культурнага будаўніцтва, рэалізацыя якіх патрабуе рашучага ўзмацненьня партыйнага кіраўніцтва, увагі і дапамогі з боку партыйных, савецкіх, прафэсіянальных, каапэрацыйных арганізацый да пытаньняў культурнага будаўніцтва БССР.

Будаўніцтва беларускай пралетарскай культуры праходзіць ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы. Абвастрэньне клясавай барацьбы на радзе вучасткаў сацыялістычнага будаўніцтва яскрава праяўляецца і на ідэалёгічным, культурным фронце як ў форме процідзеяньня разгортваньню нацыянальна-культурнага будаўніцтва, так і асабліва навакол ажыцьцяўленьня ленінскай нацыянальнай палітыкі.

Ухіл у бок вялікадзяржаўнага шавінізму, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, праяўляецца ў барацьбе супроць будаўніцтва нацыянальнай па форме і пралетарскай па зьмесьце беларускай культуры, у ігнараваньні яе нацыянальнай формы. Вялікадзяржаўныя ўхілісты (нацыянал-апартуністы таксама) разьвіваюць „тэорыю" аб нямінучасьці барацьбы „дзьвюх культур" (рускай і беларус-

кай), фармальна адносяцца да правядзеньня беларусізацыі, пашыраюць шавіністычныя, вялікадзяржаўныя погляды аб „штучнасьці“ беларусізацыі і г. д.

У апошні час вялікадзяржаўны шавінізм, у сувязі з абвастрэньнем клясавай барацьбы, значна актывізаваўся, у асабліваасьці на культурным і тэарытычным фронце БССР, што праяўляецца ў пагардлівых, гіранічных адносінах да асаблівасьцяй беларускай культуры, быту (Вольфсон, Выдра), у трактаваньні беларускай культуры як культуры „сялянскай“, адсталай, у процпастаўленьні нацыянальнай формы беларускай культуры яе пралетарскаму зьместу і г. д.

Аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б лічыць першачарговай задачай КП(б)Б павышэньне і ўзмацненьне пільнасьці да вылазак і праяўленьняў ухілу ў бок вялікадзяржаўнага шавінізму як галоўнай небясьпекі на даным этапе. Партыя павінна арганізаваць яшчэ больш актыўную барацьбу з вялікадзяржаўным шавінізмам, выкрываць перад шырокімі працоўнымі масамі ўсю яго рэакцыйнасьць, карэньні, гістарычнае паходжаньне і г. д., а таксама нанесьці рашучы ўдар апартуністычнаму прымірэнцтву да праяўленьняў вялікадзяржаўнага ўхілу.

Рашуча змагаючыся з вялікадзяржаўным вялікарасійскім шавінізмам, КП(б)Б павінна адначасова ўзмацніць барацьбу супроць беларускага шавінізму. Разьбіты і цалкам скампрамэтаваны ў вачох шырокіх працоўных мас контррэвалюцыйны нацыянал-дэмакратызм працягвае як у старых, так і ў новых, больш прыкрытых, замаскаваных формах выступаць супроць дыктатуры пралетарыяту.

Пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б адначасова адзначае актывізацыю беларускага шавінізму і патрабуе рашучага ўзмацненьня барацьбы і пільнасьці да ўсякіх праяўленьняў нацыянал-апортунізму і нацыянал-дэмакратызму, рашучай барацьбы з прымірэнчымі адносінамі да беларускага шавінізму.

Разам з тым пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б указвае на рад фактаў праяўленьня яўрэйскага, польскага і інш. шавінізмаў, з якімі таксама павінна весьціся рашучая і неаслабная барацьба.

Адзначаючы буйныя посьпехі ў галіне беларусізацыі партыйнага, савецкага, профэсіянальнага, каапэрацыйнага апаратаў, значныя дасягненьні ў справе вылучэньня падрастаючых беларускіх кадраў, пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б адзначае разам з тым наяўнасьць паасобных фактаў супраціўленьня беларусізацыі.

Пленум ЦК і ЦКК прапануе партарганізацыям падняць работу ў галіне беларусізацыі на больш высокую ступень, забясьпечыўшы вывучэньне ня толькі беларускай мовы, але і эканомікі, гісторыі, культуры, быту, літаратуры БССР шляхам арганізацыі гурткоў, сэмінараў, узмацненьня работы па беларусізацыі клюбаў, палацаў культуры, чырвоных куткоў, бібліятэк і г. д.

Прапанаваць Наркамасьветы і ўсім наркаматам, падведамам якіх знаходзяцца ВНУ, тэхнікумы, навучальныя ўстановы, павялічыць у навуковых плянах вывучэньне асноў нацыянальнай палітыкі.

Адзначаючы наяўнасьць раду фактаў, якія сьведчаць аб скажэньні нацыянальнай палітыкі ў адносінах да нацменшасьцяй (закрыцьцё школ, хат-чытальняў і г. д.), пленум прапануе партарганізацыям у корані зьнішчыць падобныя зьявішчы, узмацніць пралетарскае кіраўніцтва культурным будаўніцтвам сярод нацменшасьцяй і ўзмацніць матэрыяльную базу (памяшканьні, сталоўкі, інтэрнат, падручнікі і г. д.).

Адзначаючы значныя посьпехі ў галіне карэнізацыі апарату, падрыхтоўкі і вылучэньня пралетарскіх кадраў карэнных нацыянальнасьцяй (беларусаў, яўрэяў, палякаў і інш.),—пленум ставіць перад партарганізацыямі, прафсаюзамі і гаспапарчымі арганізацыямі задачу—яшчэ больш узмацніць работу па вылучэньні рабочых і калгаснікаў з карэнных нацыянальнасьцяй (беларусаў, яўрэяў, палякаў і інш.) на кіруючую гаспадарча-тэхнічную, культурна-асьветную, савецкую, каапэрацыйную, прафсаюзную работу. Зьвярнуць пры гэтым асаблівую ўвагу на вылучэньне беларускіх пралетарскіх кадраў.

Пленум ЦК і ЦКК падкрэсьлівае, што правільнае правядзеньне ленінскай нацыянальнай палітыкі партыі абавязковай сваёй умовай уключае ў сабе сыстэматычнае

і штодзённае інтэрнацыянальнае выхаваньне шырокіх працоўных мас.

Пленум ЦК і ЦКК указвае, што на даным этапе сацыялістычнага будаўніцтва асноўнай і першачарговай задачай усіх партыйных, культурна-асьветных арганізацый на фронце культурнай рэвалюцыі зьяўляецца барацьба за павышэньне якасьці культурнай работы, за рэалізацыю 6 указаньняў правадыра партыі таварыша Сталіна, за марксыцка-ленінскую мэтадалёгію. Пленум адзначае, што партарганізацыі і ў асаблівасьці органы Наркамасьветы, прафсаюзныя арганізацыі ўсё яшчэ не перабудаваліся на рэалізацыю гэтых важнейшых задач.

## 1. У галіне ўсеагульнага навучаньня

Адзначаючы буйнейшае палітычнае і народнагаспадарчае значэньне ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці, пленум ЦК і ЦКК прапануе партыйным, прафсаюзным, комсамольскім арганізацыям і органам Наркамасьветы заб сьпечыць выкананьне дырэктыў ЦК КП(б)Б аб ператварэньні БССР да 1/V 1932 г. у краіну суцэльнай пісьменнасьці.

Забясьпечыць у 1932—33 г. увядзеньне ўсеагульнай ліквідацыі малапісьменнасьці і ўсеагульнага навучаньня ў БССР на базе сямігодкі.

Пленум даручае бюро ЦК распрацаваць рад падрыхтоўчых мерапрыемстваў па ажыцьцяўленьні праграмы партыі аб палітэхнічнай асьвеце для ўсіх дзяцей да 17 год.

Адзначаючы некаторыя зрухі ў рабоце школы ў рэзультаце практычнага выкананьня пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб школе, пленум ЦК і ЦКК разам з тым лічыць, што наяўныя зрухі ў рабоце школы зусім невыстарчальны і тэмпы выкананьня пастановы ЦК аб школе застаюцца зусім нездавальняючымі.

Карэнныя недахопы школы—невыстарчальны аб'ём агульнаадукацыйных ведаў, у радзе выпадкаў фармальны характар правядзеньня палітэхнізацыі, невыстарчальная ўвязка тэорыі з практыкай— усё яшчэ не ліквідаваны. Ёсьць у практыцы работы школ праяўленьні як праваапортуністычнага характару— адрыў тэорыі ад практыкі, зьвядзеньне работы школ да слоўнай толькі вучобы, так і „левыя“ загібы і мэтадычнае прожэкцёрства і г. д.

Пленум заваострае ўвагу ўсіх партарганізацый і органаў народнай асьветы на задачах цьвёрдага і няўхільнага ажыцьцяўленьня пастаноў партыі аб школе, на барацьбе за палепшаньне якасьці пастаноўкі ўсёй работы школ, за павышэньне ўзроўню агульнаадукацыйных ведаў вучняў, за ўмацаваньне матэрыяльнай базы школ і ўзмацненьне палітэхнізацыі школ, палепшаньне мэтадычнага кіраўніцтва, узмацненьне сьвядомай дысцыпліны і адказнасьці за работу як з боку настаўнікаў, так і школьных арганізацый.

Пленум прапануе Наркамасьветы і Дзяржвыдавецтву БССР на працягу гэтага году выпусьціць у першую чаргу па грамадазнаўстве і грамадзкіх дысцыплінах ідэолёгічна-вытрыманыя падручнікі, для чаго мабілізаваць аўтарскія кадры з ліку марксысцка-вытрыманых навуковых работнікаў і настаўнікаў; марксыцкім т-вам, прафарганізацыям і ў першую чаргу ЦП саюзу асьветы аказаць у гэтай рабоце максымальную дапамогу Наркамасьветы і Дзяржвыдавецтву БССР.

Задача выкананьня пастановы ЦК УсеКП(б) аб пачатковай і сярэдняй школе патрабуе рашучага ўпарадкаваньня ўсёй навучальна-вытворчай і грамадзкай работы вучняў.

Пленум прапануе Наркамасьветы і Наркамахова здароўя неадкладна распрацаваць і правесьці ў жыцьцё мерапрыемствы, якія рэгулююць нагрузку вучняў, рацыяналізацыю ўсёй іх работы, узмацненьне фізычнага аздараўленьня дзяцей, а таксама ўзмацненьне гігіены і чыстаты ў дзіцячых і культурна-асьветных установах.

Пленум адзначае, што ва ўмовах практычнага ажыцьцяўленьня культурнай рэвалюцыі роля і значэньне настаўнікаў надзвычай ўзрасла, а работа сярод іх набывае асабліва важнае палітычнае значэньне. Пленум адзначае палепшаньне сацыяльнага складу настаўніцтва і актыўны ўдзел асноўнай яго масы ў сацыялістычным будаўніцтве.

Прапанаваць усім партыйным арганізацыям, Наркамасьветы і прафарганізацыям узмацніць работу па палітычным выхаваньні і ўзьняцьці вытворчай кваліфікацыі настаўнікаў, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на разгортваньне завочнага навучаньня. Забясьпечыць далейшае палепшаньне сацыяльнага складу настаўнікаў.

Пленум ЦК і ЦКК абавязвае ўсе партыйныя арганізацыі ўзмацніць барацьбу са скажэньнем лініі партыі ў адносінах да настаўнікаў, рашуча зьнішчаць усякія парушэньні праўнага і матэрыяльнага становішча настаўнікаў. Пленум падкрэсьлівае важнейшае значэньне поўнага і няўхільнага ажыцьцяўленьня дырэктыў ЦК УсеКП(б) і бюро ЦК КП(б)Б аб матэрыяльным забесьпячэньні настаўнікаў і даручае Калгасцэнтру, Белкаапсаюзу правесьці ў бліжэйшы час праверку забесьпячэньня настаўнікаў.

Аднэй з першачарговых задач парт-арганізацый і органаў Наркамасьветы зьяўляецца неадкладная і поўная ўкамплектаванасьць кадраў выкладчыкаў і палепшаньне іх матэрыяльнага становішча.

Пленум адзначае абсалютна нездавальняючы стан капітальнага будаўніцтва культурных устаноў, асабліва масавай школы, і прапануе бюро ЦК забясьпечыць выкананьне ў гэтым годзе ўсяго пляну будаўніцтва культурна-асьветных устаноў, а таксама скончыць ужо пачатыя будаўніцтвам масавыя школы.

Адначасова пленум катэгарычна пацьвярджае раней даныя дырэктывы аб аслабаненьні ўсіх школ і іншых культурна асьветных памяшканьняў, занятых іншымі ўстановамі, і катэгарычна прапануе ў далейшым спыніць займаньне і скарыстаньне для іншых мэт школ і культурна асьветных памяшканьняў.

Прапанаваць СНК распрацаваць пытаньне аб стварэньні арганізацыі, якая-б клапацілася аб забесьпячэньні навуковым і навукова-дасьледчым абсталяваньнем і школьнымі прыладамі школ і ўсіх культурна-асьветных устаноў.

## 2. У галіне падрыхтоўкі кадраў

Улічваючы, што „ажыцьцяўленьне задач поўнай тэхнічнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі непарыўна зьвязана са справай аўладаньня тэхнікай нашымі гаспадарчымі кадрамі, са стварэньнем шырокіх новых кадраў уласнай тэхнічнай інтэлігенцыі з рабочых і сялян",—пленум ЦК адзначае, што тэмпы і якасьць падрыхтоўкі кадраў не здавальняюць узросшых патрабаваньняў гаспадарчага і культурнага будаўніцтва БССР.

Пленум лічыць неабходным:

а) разгарнуць падрыхтоўку тэхнічных і культурных кадраў такімі тэмпамі, каб да канца другой пяцігодкі гаспадарчае і культурнае сацыялістычнае будаўніцтва было цалкам задаволена неабходнымі кадрамі спэцыялістаў. Абавязкова ўлічыць падрыхтоўку як тэхнічных, так і масавых кадраў нацменшасьцяй.

б) Палепшыць якасьць работы навучальных устаноў, якія падрыхтоўваюць кадры, ліквідаваць пануючую ў навучальных установах абязьлічку, Зьвярнуць асаблівую ўвагу на падрыхтоўку кадраў выкладчыкаў па лініі грамадазнаўства і аўладаньня навейшымі дасягненьнямі тэхнікі і навукі.

в) Арганізаваць у 1933 г. інстытуты па павышэньні кваліфікацыі, у першую чаргу, для тэхнічных кадраў прамысловасьці і сельскай гаспадаркі. Даручыць бюро ЦК прапрацаваць пытаньне аб адкрыцьці ў БССР аддзяленьня Ўсесаюзнай прамакадэміі.

г) Для падрыхтоўкі кадраў масавых прафэсій, уздыму агульнакультурнага і тэхнічнага ўзроўню працоўных мас перабудаваць зьмест работы ўсёй сыстэмы вячэрняга навучаньня для дарослых, пачынаючы са школы малапісьменных, у такім напрамку, каб побач з атрыманьнем агульнаадукацыйных і палітычных ведаў было забясьпечана павышэньне кваліфікацыі слухачоў.

Прапанаваць Наркамасьветы, гаспадарчым органам і прафарганізацыям разгарнуць работу па забясьпечаньні поўнага мінімуму агульнаадукацыйных і тэхнічных ведаў кадрам масавых прафэсій шляхам арганізацыі курсаў, гурткоў і г. д.

д) Надаючы выключнае значэньне падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы кадраў праз сыстэму завочнага навучаньня і адзначаючы нездавальняючую пастаноўку апошняй у БССР,—пленум прапануе

ўсім органам, якія праводзяць завочнае навучаньне, на працягу бліжэйшых двух год ахапіць сыстэмай завочнага навучаньня ўсе тэхнічныя кадры, якія ня маюць належнай падрыхтоўкі, адначасова разгарнуць работу па ўцягненьні ў сыстэму завочнага навучаньня шырокіх рабочых, калгасных мас.

Пленум з асаблівай катэгарычнасьцю падкрэсьлівае неабходнасьць ў найбліжэйшы час аўладаньня тэхнікай справы ўсімі кіруючымі работнікамі, у першую чаргу камуністамі.

е) У мэтах забясьпечаньня кадрамі выкладчыкаў для ўсіх зьвеньняў школы адкрыць не пазьней 1933 г. у БССР інстытут іншакраінных моваў.

У сувязі з вялізарным ростам сеткі польскіх і яўрэйскіх масавых навучальных і культасьветных устаноў і насьлеўшай неабходнасьцю павышэньня кваліфікацыі пэдагагічных кадраў, разгарнуць падрыхтоўчую работу да адкрыцьця ў 1933 г. польскага і яўрэйскага пэдагагічных інстытутаў.

## 3. У галіне работы сярод інтэлігенцыі

Пленум ЦК і ЦКК адзначае значныя дасягненьні ў справе падрыхтоўкі кадраў пралетарскай інтэлігенцыі з рабочых, калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, якія адыгрываюць ўжо значную ролю ва ўсім сацыялістычным будаўніцтве. Рашаючыя посьпехі ва ўсіх галінах сацыялістычнага будаўніцтва, выкрытыя і ўскрытыя шкодніцкія і нацдэмаўскія справы стварылі паварот у бок савецкай улады асноўнай масы старой тэхнічнай і інш. інтэлігенцыі. Аднячасова ў сувязі з абвостранай клясавай барацьбой актывізуецца ў барацьбе супроць дыктатуры пралетарыяту частка клясава-варожай нам інтэлігенцыі. Пленум ЦК, завастраючы ўвагу ўсёй КП(б)Б на барацьбу супроць клясава-варожых, шкодніцкіх элемэнтаў сярод інтэлігенцыі, аднячасова з гэтым прапануе партарганізацыям стварыць адпаведныя ўмовы для работы адданай рабочай клясе інтэлігенцыі, прыцягваць яе да яшчэ больш актыўнага ўдзелу ў справе будаўніцтва сацыялізму, дапамагчы інтэлігенцыі аўладаць марксысцка-ленінскай мэтадалёгіяй, „праяўляць да іх больш увагі і клопатаў, сьмялей прыцягваць іх да работы“ (Сталін).

Пленум адзначае нездавальняючае выкананьне дырэктыў партыі і ўраду аб матэрыяльным забесьпячэньні тэхнічных і навуковых кадраў і катэгарычна прапануе ўсім партарганізацыям неадкладна праверыць, як праводзіцца забесьпячэньне, прыцягваючы да суровай адказнасьці вінаватых у невыкананьні дырэктыў партыі і ўраду па гэтым пытаньні.

Даручыць бюро ЦК і СНК:

а) Заслухаць даклады адпаведных органаў аб выкананьні дырэктыў партыі і ўраду па пытаньні аб палепшаньні матэрыяльна-бытавога становішча навукова-тэхнічных работнікаў.

б) Забясьпечыць будаўніцтва ў 32-33 г. чатырох жыльлёвых памяшканьняў для навуковых і тэхнічных кадраў згодна пастановы ЦК УсеКП(б) і СНК СССР.

в) Пабудаваць і адкрыць у 1932 г. дом адпачынку для навуковых работнікаў.

## 4. У галіне навукова-дасьледчай работы

Ня гледзячы на значнае пашырэньне навукова-дасьледчых устаноў і на некаторае набліжэньне навукова-дасьледчай работы да выкананьня канкрэтных задач сацыялістычнага будаўніцтва, ўсё-ж да гэтага часу навукова-дасьледчыя ўстановы сваёй работай не здавальняюць узросшых запатрабаваньняў сацыялістычнага будаўніцтва.

Адным з асноўных недахопаў работы навукова-дасьледчых устаноў зьяўляецца адарванасьць, невыстарчальнае ўключэньне іх у практыку гаспадарчага будаўніцтва, несваячасовая рэалізацыя ў народнай гаспадарцы вынікаў дасьледчай работы, невыстарчальная папулярызацыя і канцэнтраваньне навакол гэтай работы ўвагі працоўных, што ў значнай ступені тлумачыцца маюч імі месца перажыткамі старых буржуазных традыцый, замкнутасьцю, акадэмізмам і. г. д.

Пленум ЦК і ЦКК лічыць неабходным:

а) Дэцэнтралізацыю навукова-дасьледчай работы паводле галіннага прынцыпу прамысловасьці і сельскай гаспадаркі, з дакладным размежаваньнем функцый кожнай навукова-дасьледчай установы. Адначасова з гэтым, пленум папераджае аб недапушчальнасьці зьвядзеньня навукова-дасьледчай работы да вузкага практыцызму.

З тым, каб унікнуць дубліяваньня ў рэалізацыі навукова-дасьледчай прадукцыі, за БАН пакінуць агульнае плянаваньне і нагляд за навукова-дасьледчай работай, а таксама праверку выкананьня плянаў работы навукова-дасьледчых устаноў.

б) Пленум падкрэсьлівае, што асноўнымі задачамі, якія стаяць перад навукова-дасьледчай работай, зьяўляюцца: досьледы сыравінных рэсурсаў БССР, арганізацыя працы ў прамысловасьці і сельскай гаспадарцы (саўгасы, МТС, калгасы), праблемы энэргетыкі, рацыяналізатарская і вынаходніцкая работа, пытаньні разьвіцьця жывёлагадоўлі, пытаньні разьвіцьця тэхнічных культур у БССР, вывучэньне эканомікі культуры, гісторыі рэвалюцыйнага руху ў БССР, Заходняй Беларусі і. г. д.

Даручыць бюро ЦК разгледзець пытаньне аб стане падрыхтоўкі навуковых кадраў і намеціць рад мерапрыемстваў па палепшаньні гэтай работы.

Абавязаць Дзяржплян і зацікаўленыя арганізацыі палепшыць плянавую падрыхтоўку і разьмеркаваньне навукова-тэхнічных кадраў.

в) Даручыць бюро ЦК прапрацаваць пытаньне аб выданьні пры БАН спэцыяльных запісак па пытаньнях навукова-дасьледчай работы.

г) Забясьпечыць далейшае разьвіцьцё лябараторый пры фабрыках, заводах і ўвядзеньне дасьледчых вучасткаў у МТС і саўгасах.

д) Даручыць бюро ЦК устанавіць каляндарны плян будаўніцтва будынкаў БАН з пункту гледжаньня паскарэньня сканчэньня будаўніцтва.

## 5 У галіне тэарытычнай работы

Адзначаючы буйнейшае агульнапалітычнае і агульнатэарытычнае значэньне ліста тав. Сталіна „Аб некаторых пытаньнях гісторыі бальшавізму“, пленум ЦК і ЦКК разам з тым падкрэсьлівае, што ў выніку разгорнутай прапрацоўкі ў КП(б)Б ліста тав Сталіна, на тэарытычным фронце БССР быў выкрыт рад фактаў працягваньня контррэвалюцыйнай троцкісцкай кантрабанды (Югаў і інш.), а таксама рад адкрытых антымарксысцкіх вылазак і рад праяўленьняў недапушчальнага гнілога лібэралізму,

Пленум завастрае ўвагу ўсёй КП(б)Б на задачах умацаваньня бальшавіцкай пільнасьці на тэарытычным фронце, на задачах аўладаньня марксысцка-ленінскай мэтадолёгіяй ва ўсіх галінах навукі, на ўмацаваньні правераных бальшавіцкіх кадраў, працуючых на тэарытычнай, выкладчыцкай рабоце, на задачах рашучай барацьбы за партыйнасьць навукі, бязьлітаснай барацьбы з правым апартунізмам, контррэвалюцыйным троцкізмам, «левымі» загібамі і гнілым лібэралізмам на навукова-тэарытычным фронце.

Канстатуючы некаторыя посьпехі ў тэарытычнай рабоце—правядзеньне значнай барацьбы з клясава-варожымі тэорыямі ў розных навуковых працах, выданых як БАН, так і інш, навукова-дасьледчымі ўстановамі, ачышчэньне БАН ад нацдэмаўскіх элемэнтаў і ўмацаваньне яе партыйнымі сіламі, падрыхтоўку праз асьпірантуру новых навуковых пралетарскіх кадраў з партыйным і сацыяльным складам асьпірантуры, які паступова паляпшаецца,—адначасова з гэтым ЦК і ЦКК КП(б)Б адзначаюць, што работа тэарытычнага фронту яшчэ значна адстае ад задач сацыялістычнага будаўніцтва. Марксысцкія таварыствы дагэтуль слаба актывізаваны ў барацьбе супроць розных шкодных антыленінскіх тэорый у навуковай рабоце.

Пленум ЦК і ЦКК прапануе:

а) Завастрыць увагу ўсёй партарганізацыі на задачах узмацненьня палітычнай пільнасьці да ўсякіх варожых праяўленьняў у навуковых работах, артыкулах і г. д. Гэта ў сваю чаргу патрабуе ад усіх камуністаў, у першую чаргу партыйнага актыву, аўладаньня марксысцка-ленінскай тэорыяй.

б) Даручыць бюро ЦК паскорыць выпуск 12-томніка Леніна, падрыхтаваць выпуск поўнага збору твораў Леніна і

паскорыць пераклад на беларускую мову і выданьне асноўных твораў клясыкаў марсызму—Маркса, Энгельса, Сталіна. У першую чаргу павінна быць забясьпечана выданьне масавай бібліятэкі, а таксама «Капіталу» Маркса.

в) Улічваючы ўзросшыя культурныя кадры БССР, востры яшчэ недахват навуковай беларускай кнігі, пленум ЦК і ЦКК лічыць неабходным разгарнуць работу па выданьні энцыклёпэдыі БССР шляхам прыцягненьня да гэтай работы лепшых навукова-тэарытычных кадраў БССР і ўсяго Савецкага саюзу. Забясьпечыць не пазьней 1933 году выданьне гісторыі Беларусі, гісторыі КП(б)Б і гісторыі беларускай літаратуры.

г) Паставіць пытаньне перад ЦК УсеКП(б) аб выданьні ленінскага 6 томніка на яўрэйскай і польскай мовах.

д) Прапанаваць БАН паскорыць выданьне беларускай тэхнічнай тэрмінолёгіі і слоўніка.

Надаючы вялізарнае значэньне тэарытычнаму фронту, прапанаваць бюро ЦК усямерна ўзмацніць партыйнае кіраўніцтва ўсімі зьвеньнямі тэарытычнай работы.

## 6. У галіне выдавецтва

Пленум ЦК і ЦКК лічыць нездавальняючым выкананьне пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б па пытаньнях выдавецкай работы. Ня гледзячы на шпаркі рост кніжнай прадукцыі як на беларускай мове, так і на мовах нацменшасьцяй,—пленум ЦК і ЦКК лічыць, што гэта прадукцыя зусім яшчэ не здавальняе таго ўзросшага попыту, які ёсьць з боку працоўных мас. Якасьць кнігі ўсё яшчэ застаецца нізкай. На працягу апошніх год, ня гледзячы на праведзеную ачыстку кніжнай прадукцыі ад нацдэмаўскай літаратуры, былі выданы палітычна-шкодныя кнігі, дзе працягвалася трацкісцкая кантрабанда і фальсыфікацыя гісторыі партыі (Валасевіч «Самая краткая история ВКП(б)» Поташ і інш.)

Пленум лічыць неабходным значна палепшыць якасьць выдавецкай работы і патрабуе большай палітычнай пільнасьці да зьместу выдаваных кніжак, пашырэньня выданьня палітычна-вытрыманай літаратуры нацыянальных меншасьцяй, што ў сваю чаргу патрабуе ад выдавецтва падбору ідэолёгічна-вытрыманых аўтарскіх кадраў.

Пленум прапануе партыйным, савецкім і прафэсіянальным органам аказаць у гэтай справе ДВБ належную дапамогу.

Даручыць бюро ЦК палепшыць склад рэдактарскіх кадраў за кошт падрыхтаваных, палітычна-вытрыманых работнікаў, павялічыўшы іх адказнасьць за рэцэнзаваньне і выпуск кнігі.

## 7. У галіне разьвіцьця мастацтва

Пленум ЦК і ЦКК адзначае значныя дасягненьні ў галіне разгортваньня мастацтва ў БССР: мастацкая літаратура, тэатр, кіно, выяўленчае мастацтва, музыка і г. д., некаторае, праўда, зусім яшчэ невыстарчальнае набліжэньне мастацтва, у асаблівасьці мастацкай літаратуры, тэатру да задач сацыялістычнага будаўніцтва, а таксама ўзросшы ўдзел шырокіх працоўных мас у будаўніцтве пралетарскага мастацтва БССР, атрымаўшы сваё выяўленьне як у заклiку ўдарнікаў-рабочых і калгасьнікаў у літаратуру, так і ў тэй вялізарнай узрастаючай зацікаўленасьці шырокіх працоўных мас да беларускай літаратуры, тэатру і г. д

Адначасова пленум катэгарычна падкрэсьлівае, што тэмпы перабудовы работы ў галіне мастацтва адстаюць яшчэ ад запатрабаваньняў цяперашняга этапу сацыялістычнага будаўніцтва.

Зыходзячы з гэтага, пленум ЦК у далейшым лічыць неабходным:

а) Сканцэнтраваць увагу ўсёй КП(б)Б на задачах барацьбы з клясава-варожымі тэорыямі і вылазкамі на фронце мастацтва, накіроўваючы агонь супроць правага і «левага» апартунізму, дабіцца большага набліжэньня мастацтва і літаратуры да актуальных задач сацыялістычнага будаўніцтва.

б) Разгарнуць сетку мастацкіх тэатральных, эстрадных, музычных адзінак з такім разьлікам, каб да канца другой пяцігодкі было ня менш аднэй адзінкі на 2 адміністрацыйныя раёны.

в) Забясьпечыць адкрыцьцё ў 1933 г. тэатру музычнай драмы, а таксама вышэйшай музычнай школы.

г) Забясьпечыць адкрыцьцё на працягу 2-х год ня менш як аднаго стацыянарнага кіно ў кожным раёне.

д) Пачаць у гэтым годзе будаўніцтва кіно-фабрыкі з такім разьлікам, каб скончыць яе на працягу 2-х бліжэйшых год.

е) Забясьпечыць будаўніцтва ў Менску тэатральнага будынку са скачэньнем пабудовы не пазьней першай паловы 1934 г.

ж) Аднэй з першачарговых задач у літаратурным руху паставіць ажыўленьне работы ўсіх арганізацый, у прыватнасьці БелЛАЧАФ і пралетарска - калгасных пісьменьнікаў.

Пленум указвае на неабходнасьць узмацненьня барацьбы супроць клясава-варожых плыняй у літаратуры, мабілізуючы пісьменьнікаў на аўладаньне марксысцкім сьветапоглядам, на набліжэньне да рабочай клясы папутнікаў і саюзьнікаў, на стварэньне магнітабудаў літаратуры, за вялікае мастацтва бальшавізму. Пленум падкрэсьлівае, што неабходнай умовай выкананьня задач партыі ў галіне мастацтва, ў асаблівасьці ў галіне літаратуры—зьяўляецца разгортваньне бальшавіцкай самакрытыкі ў мастацкіх арганізацыях.

Аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК указвае, што далейшае пасьпяховае разьвіцьцё беларускай культуры, мастацтва, літаратуры патрабуе шырокага выкарыстаньня і крытычнай пераапрацоўкі будуючайся беларускай сацыялістычнай культурай, усіх каштоўнасьцяй сусьветнай культуры, рашучага разрыву з перажыткамі правінцыяльнай абмежаванасьці, цеснага і брацкага супрацоўніцтва з працоўнымі масамі ўсіх нацыянальнасьцяй СССР, стварэньня новых культурных каштоўнасьцяй, вартых нашай вялікай эпохі, вартых творчасьці вялікай клясы пралетарыяту.

## 8. У галіне масавай культурна-асьветнай работы

1. Выкананьне задач сацыялістычнага будаўніцтва і асабліва задач, высунутых другой пяцігодкай, патрабуе ўзьняцьця масавай культурнай і палітыка-асьветнай работы на значна вышэйшую ступень, карэннай перабудовы гэтай работы, перанясеньне яе ў цэх, прадпрыемствы, МТС, саўгас, калгас, чыгуначнае дэпо і большага падпарадкаваньня непасрэдным задачам сацыялістычнага будаўніцтва. Адзначаючы зусім нездавальняючы стан масавай палітыка-асьветнай работы, асабліва ў вёсцы, пленум лічыць неабходным:

Пашырыць сетку палітычна-асьветных устаноў праз будаўніцтва хат-чытальняў, клюбаў, чырвоных куткоў, асабліва ў МТС, саўгасах і калгасах. Абавязаць Наркамасьветы, райвыканкомы, прафсаюзы і гаспадарчыя арганізацыі забясьпечыць будаўніцтва палітасьветных устаноў сродкамі і будматэрыяламі. Катэгарычна забараніць заняцьце памяшканьняў культурных і палітасьветных устаноў пад іншыя ўстановы. Прапанаваць ГК і РК КП(б)Б і райвыканкомам у месячны тэрмін аслабаніць занятыя пад іншыя мэты клюбы і чырвоныя куткі, або прадаставіць у замену іншыя адпавядаючыя рабоце клюбу, чырвонага кутка памяшканьні.

2. Абавязаць партарганізацыі, прафсаюзы і Наркамасьветы ў месячны тэрмін правесьці масавы агляд работы клюбаў, хат-чытальняў, чырвоных куткоў у мэтах узмацненьня работы на перавыхаваньне калгасьніка ў сьвядомага ўдзельніка сацыялістычнага будаўніцтва, выхаваньня новых сацыялістычных адносін да работы, узьняцьця працоўнай дысцыпліны і перамаганьня прыватна ўласьніцкіх перажыткаў, выхаваньня вытворчага саўгаснага і калгаснага актыву. Арганізаваць пры хатах - чытальнях гурткі па аўладаньні тэхнікай, узьняцьці ўраджайнасьці, арга- і зоатэхнікі, вайсковыя, антырэлігійныя і інш., прыцягваючы да работы ў хатах-чытальнях, клюбах культурныя, тэхнічныя і аграномічныя кадры. Наркамасьветы, прафсаюзам і РВК забясьпечыць хаты-чытальні і клюбы газэтамі, пэрыодычнымі выданьнямі і адпаведным абсталяваньнем. Даручыць Наркамасьветы і прафсаюзам павялічыць падрыхтоўку палітасьветных кадраў. Органам Наркамасьветы і РВК неадкладна забясьпечыць усе хаты-чытальні хатнікамі з адпаведнай падрыхтоўкай.

3. Абавязаць Наркамасьветы і ДВБ пашырыць сетку бібліятэк у саўгасах, калгасах, папоўніўшы апошнія тэхнічнай, агранамічнай, масавай кніжкай, а таксама пралетарскай мастацкай літаратурай. Палепшыць работу дзяржаўных і клюбных бібліятэк і ўзмацніць укараненьне кнігі ў асноўныя масы рабочых і калгасьнікаў.

Абавязаць кнігагандлёвыя арганізацыі забясьпечыць палепшаньне кнігагандлю, гандлю культтаварамі—апаратурай і інш., прыладамі па тэхнічным абслугоўваньні радыё, кіно і інш. Даручыць упаўнаважанаму Наркамсувязі і кіраўніку Беларадыёцэнтру забясьпечыць палепшаньне работы радыё.

4. Культурна-масавая работа прафсаюзаў павінна быць накіравана галоўным чынам на выкананьне канкрэтных паказальнікаў прамфінпляну, арганізацыю працы, павышэньне прадукцыйнасьці працы, дысцыпліны, барацьбу за павышэньне якасьці прадукцыі, за зьніжэньне сабекошту, за сацыялістычныя адносіны да працы (да варштату, абсталяваньня, сыравіны і інш.). Вытворча-клясавае выхаваньне, асабліва новых рабочых, узмацненьне абароназдольнасьці краіны, вайсковая падрыхтоўка працоўных, узмацненьне інтэрнацыянальнага выхаваньня, выкананьне шасьці умоў т. Сталіна—такавы асноўныя задачы масавай культурнай работы прафсаюзаў. Абавязаць партарганізацыі і прафсаюзы ўзмацніць увагу і канкрэтнае кіраўніцтва культурна-масавай работай прафсаюзаў, каапэрацыі, уцягваючы ў яе шырокія пласты культурнай арміі, разгортваючы масавыя формы культасьветработы—культпаходы, эстафэты, агляды, спаборніцтва і інш., рашуча змагаючыся з апалітычнасьцю і голым „культурніцтвам“ у культурна-масавай рабоце.

Адзначаючы аслабленьне антырэлігійнай работы, пленум ЦК і ЦКК абавязвае партарганізацыі, камсамол, прафсаюзы разгарнуць работу па сыстэматычнай антырэлігійнай прапагандзе—стварэньне антырэлігійных гурткоў, куткоў бязбожніка і г. д.

Пленум зьвяртае асаблівую ўвагу партарганізацый, камсамолу, прафсаюзаў на неабходнасьць усямернага разгортваньня і актывізацыі работы па ўзмацненьні абароназдольнасьці краіны, па вайсковай падрыхтоўцы працоўных праз наладжаньне сыстэматычнай работы вайсковых гурткоў і куткоў у клюбах, хатах-чытальнях, штодзённай работы з пераменьнікамі, палепшаньня культурна-бытавога абслугоўваньня Чырвонай арміі. Даручыць бюро ЦК, райкомам і гаркомам узмацніць кіраўніцтва работай Асаавіяхэму, Аўтадору, Чырвонага Крыжу і фізкультурных арганізацый.

5. Надаючы асабліва сур'ёзнае значэньне тэхнічнай прапагандзе і адзначаючы слабае яе разгортваньне, прапанаваць партарганізацыям, камсамолу, прафсаюзам, гаспадарчым арганізацыям і Наркамасьветы забясьпечыць шырокае разгортваньне тэхнічнай прапаганды як на прадпрыемствах, так і ў саўгасах, МТС, калгасах, шляхам арганізацыі гурткоў тэхнікі, курсаў, разгортваньня завочнага навучаньня, арганізацыі паходаў за тэхніку, выставак, куткоў тэхнікі і інш.

Адзначаючы значнае аслабленьне работы сярод жанчын і недаацэнку гэтай работы з боку раду арганізацый, пленум прапануе ГК і РК забясьпечыць рашучае палепшаньне работы ў гэтай галіне. Прапанаваць Наркамасьветы і Наркамату аховы здароўя, прафсаюзам, Калгасцэнтру зьвярнуць вялікую ўвагу на дашкольнае выхаваньне, забясьпечыць выкананьне дырэктыў партыі па разгортваньні дашкольных устаноў. Бюро ЦК распрацаваць пытаньне аб разгортваньні работы па ўвядзеньні ўсеагульнага дашкольнага выхаваньня.

## 9. У галіне друку і партыйнага выхаваньня

Пленум адзначае, што пралетарскі друк БССР—„самая вострая, самая моцная зброя партыі“—расьце і загартоўваецца ў бязьлітаснай барацьбе за ажыцьцяўленьне генэральнай лініі партыі, у барацьбе за ажыцьцяўленьне ленінскай нацыянальнай палітыкі, у барацьбе за шырокае разгортваньне самакрытыкі. За апошнія гады значна вырас і ўзмацніўся рабселькораўскі рух БССР.

Пленум прапануе цэнтральным і раённым газэтам БССР паставіць больш опэрацыйна барацьбу за рэалізацыю 6 умоў тав. Сталіна на ўсіх вучастках сацыялістычнага будаўніцтва, за ажыцьцяўленьне задач культурнай рэвалюцыі, узмацніць увагу пытаньням перабудовы партработы, марксысцка-ленінскага выхаваньня, яшчэ больш разгарнуць самакрытыку, узмацніць барацьбу за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў, за ажыцьцяўленьне ленінскай нацыянальнай палітыкі і ўзмацненьне абароназдольнасьці краіны. Культпропу ЦК КП(б)Б і райкомам узмацніць апэрацыйнае кіраўніцтва газэтамі, асабліва раённымі.

Даручыць бюро ЦК забясьпечыць пашырэньне і рэканструкцыю паліграфічнай базы БССР, забясьпечыць павялічэньне тыражу газэт, у першую чаргу ЦО КП(б)Б—„Зьвязды“.

Прапанаваць партарганізацыям і рэдакцыям газэт у найкарацейшы тэрмін дабіцца ўзмацненьня штодзённага сыстэматычнага кіраўніцтва рабселькораўскім рухам.

Для падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі газэтных і журнальных работнікаў, асабліва з падрастаючых рабселькораўскіх кадраў, адкрыць у БССР не пазьней 1933 году камуністычны інстытут журналістыкі.

Цяперашні пэрыод сацыялістычнага будаўніцтва, які характарызуецца велізарным пашырэньнем яго маштабаў як у галіне гаспадарчага, так і культурнага будаўніцтва, у абстаноўцы абвостранай клясавай барацьбы, прад'яўляе павышаныя патрабаваньні да якасьці кіраўніцтва і работы на ўсіх вучастках сацыялістычнай будоўлі. У гэтых умовах асабліва важнае значэньне набывае далейшая работа па павышэньні ідэйна-палітычнага ўзроўню, па ўзмацненьні марксысцка-ленінскага выхаваньня ўсіх членаў партыі, камсамолу, у першую чаргу маладых, новаўступаючых у партыю і камсамол, шляхам больш глыбокага вывучэньня і асваеньня імі гісторыі нашай партыі, асноўных прынцыпаў ленінізму, асваеньня вучэньня Маркса, Энгельса, Леніна і Сталіна.

Пленум ЦК і ЦКК прапануе партарганізацыям зьвярнуць асаблівую ўвагу пры разгортваньні марксысцка-ленінскай вучобы на поўны ахоп кандыдатаў партыі, старанны падбор прапагандысцкіх кадраў, рашучае палепшаньне якасьці партыйнай вучобы і спалучэньне партвучобы з практыкай сацыялістычнага будаўніцтва.

Адзначаючы вялікую ролю Камвузу і інстытуту гісторыі партыі як цэнтраў па падрыхтоўцы кадраў і распрацоўцы пытаньняў гісторыі КП(б)Б і Кастрычніцкай рэвалюцыі на Беларусі, пленум ЦК КП(б)Б лічыць неабходным:

а) узмацніць штодзённае кіраўніцтва і канкрэтную дапамогу Камвузу і інстытуту, забясьпечыўшы далейшае разгортваньне іх работы;

б) рэарганізаваць інстытут асьпірантуры ў філіял гісторыка-партыйнага ІЧП, забясьпечыўшы пашырэньне колькасьці і паляпшэньне складу асьпірантуры;

в) для падрыхтоўкі высокакваліфікаваных кадраў партыйных, савецкіх, прафэсіянальных работнікаў арганізаваць у 1933 г. у БССР філіял курсаў марксызму.

Пастаўленыя пленумам ЦК і ЦКК задачы далейшага паглыбленьня і станоўчага вырашэньня задач культурнай рэвалюцыі магчымы толькі пры ўмове непрымірымай барацьбы за генэральную лінію партыі, рашучай барацьбы на два фронты і патрабуюць ад усёй КП(б)Б, ад усёй рабочай клясы яшчэ большага кіраўніцтва, актыўнага і непасрэднага ўдзелу ў справе культурнага будаўніцтва, памятаючы, што далейшыя посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва ў значнай ступені залежаць ад вырашэньня гэтых задач.

П. Панкевіч

# Супроць антыленінскай тэорыі „адміраньня школы“

(*Працяг*)

Шульгін і Крупеніна ў апраўданьне сваёй тэорыі стыхійнага выхаваньня вельмі часта паўтараюць словы Леніна аб тым, што масы вучацца на ўласным практычным вопыце. Гэта спроба прыкрыцца скажоным тлумачэньнем Леніна для прапаганды рэакцыйнай тэорыі выхаваньня павінна сустрэць з нашага боку самы рашучы адпор. Шульгін і Крупеніна сьвядома скажаюць Леніна, даказваючы, нібы-та ён увесь працэс навучаньня і выхаваньня зводзіў толькі да практыкі. Гэтым самым падкрэсьліваецца, нібы-та Ленін не надаваў сур'ёзнага значэньня рэвалюцыйнай тэорыі. Пракланяючыся перад стыхійнасьцю і адмаўляючы кіруючую ролю партыі ў клясавай барацьбе, шульгінцы адмаўляюць і тое, што рэвалюцыйная тэорыя і зьяўляецца кіраўніцтвам да рэвалюцыйнага дзеяньня. Яны ўжываюць усе сілы даказаць, што самым важным, адзіным сродкам выхаваньня зьяўляецца практыка, якой павінна быць падпарадкавана тэорыя, калі такая наогул існуе. Пры гэтым практыку яны разумеюць як стыхійны працэс накапленьня вопыту. Такі іменна зьмест яны ўкладаюць у формулу—масы вучацца на ўласным практычным вопыце. Клясавая сутнасьць вопыту імі не выяўляецца. Гаворачы аб масах, яны маюць на ўвазе і рабочых і сялян. Выходзіць па формуле Шульгіна, што і сяляне вучацца на ўласным вопыце, тады як гэты вопыт у сэктары індывідуальнай гаспадаркі мае дробна-буржуазную, або нават буржуазную прыроду, як напрыклад у кулака. Такім чынам, пад формулай: масы вучацца на ўласным практычным вопыце—хаваецца спроба апраўдаць у нашых умовах савецкай сапраўднасьці буржуазнае выхаваньне. „Усе мы ведаем,— піша Крупеніна,—што выхаваньне сялянскага дзіцяці будуецца іменна на базе асэнаньня яго эмпірычнага вопыту: разам з бацькам выходзячым у поле, ён навучаецца ўладаць тым ці іншым сродкам вытворчасьці, разам з ім, прыглядаючыся да зьяў абкружаючай прыроды, ён імкнецца ўстанавіць існуючыся заканамернасьці між воблачнасьцю неба і яго ўплывам на стан глебы і такім чынам накапляе цэлы рад іншых практычных мэтэрэолёгічных зьвестак, якія яго ўзбагачаюць. Яны недастатковы, зразумела, але ўсё-ж у сваёй аснове яны маюць, бязумоўна, правільную ўстаноўку“ [1])

Крупеніна чамусьці ўпэўнена, што выхаваньне ў сялянскай сям'і на аснове ўласнага практычнага вопыту мае правільную ўстаноўку. Ці так гэта? Незаўсёды-ж бацька селянін зьвяртае ўвагу свайго дзіцяці на заканамернасьці прыроды, на мэтэрэолёгічныя зьявы і г. д. А калі бацькі ў сялянскай сям'і разьвіваюць у дзяцей на аснове свайго „эмпірычнага вопыту“ дробна-буржуазныя і ўласьніцкія пачуцьці, рэлігійныя прадрасудкі, індывідуалізм і інш., дык няўжо Крупеніна і гэта лічыць „правільнай ўстаноўкай“ выхаваньня? Так, лічыць, бо яна, як і ўсе апартуністы, прызнае, што масы вучацца на сваім практычным вопыце без кіраўніцтва з боку партыі і рэвалюцыйнага пралетарыяту, бо яна адмаўляе кіруючае значэньне марксысцка-ленінскай тэорыі ў працэсе выхаваньня. Тут шульгінцы стаяць цалкам на пазыцыі грубага паўзучага эмпірызму. Цікава і тое, што яны ня бачаць якасной розьніцы між дарослым чалавекам і дзіцёнкам, прыпісваючы апошнім такую-ж здольнасьць усваеньня вопыту, як і дарослым людзям. Тут ужо мы маем неразуменьне асаблівасьцяй дзіцячай псыхалёгіі. Праўда, неабходна біць і па праваму апартунізму, які, наадварот, пад выглядам уліку дзіцячай псыхалёгіі, адмаўляе неабходнасьць уцягваць дзяцей ў клясавую барацьбу пралетары-

[1]) В борьбе за марксистскую педагогику, стар. 106

ята і разьвіваць у іх дыялектыка-матэрыялістычны сьветапогляд. Гэтую галоўную небясьпеку сучаснага этапу мы ні ў якім разе не павінны забываць. Аднак, і лявацкую спробу ўтаесамленьня псыхалёгіі дарослых і дзяцей мы павінны спаткаць у штыхі бальшавіцкай крытыкі. „Трэба зразумець,—даказвае Шульгін,—што гэты працэс (выхаваньне *И. И.*) адзінны для дарослых і для рабят: яны вучацца на ўласным практычным вопыце. На вопыце вучацца ў агульным будаўніцтве, у агульнай барацьбе“ [1]). Тое, што і дзеці ў працэсе выхаваньня павінны прымаць пэўны ўдзел у клясавай барацьбе і сацыялістычным будаўніцтве,— гэта бясспрэчна, але Шульгін ня гэта хоча падкрэсьліць. Ён хоча сказаць, што выхаваньне зводзіцца галоўным чынам да практычнага ўдзелу дзяцей ў барацьбе і будаўніцтве, што навучаньне ў школе для іх не зьяўляецца важнейшым момантам выхаваньня, што дзеці і дарослыя аднолькава вучацца на ўласным практычным вопыце. Вось гэтыя думкі Шульгіна павінны атрымаць рашучы адпор, бо тут ужо афармляецца антыленінская тэорыя адміраньня школы.

Як разумеў Ленін фармуляваны ім тэзіс: масы вучацца на ўласным практычным вопыце? Ніколі Ленін не разумеў гэты тэзіс у тым сэнсе, нібы-та масы вучацца на ўласным практычным вопыце без кіраўніцтва з боку партыі, без вывучэньня рэвалюцыйнай тэорыі. Ён бязупынна паўтараў у барацьбе з апартуністамі, што „без рэвалюцыйнай тэорыі ня можа быць і рэвалюцыйнага руху“, што „ролю перадавога барацьбіта можа выканаць толькі партыя, кіруемая перадавой тэорыяй“. Калі Ленін гаварыў аб уласным практычным вопыце мас, ён меў на ўвазе рэвалюцыйны рух, які апладняецца рэвалюцыйная тэорыяй. Гэтага ніяк ня могуць зразумець нашыя глашатаі стыхійнасьці. Разьясьняючы сутнасьць і ролю рэвалюцыйнай тэорыі, таварыш Сталін выразна паказвае, у якіх адносінах яна знаходзіцца да практыкі, як неабходна па-ленінску разумець думку, што масы вучацца на ўласным практычным вопыце. „Тэорыя ёсьць вопыт рабочага руху ўсіх краін, узятых у яго агульным выглядзе. Зразумела, тэорыя становіцца беспрадметнай, калі яна не зьвязваецца з рэвалюцыйнай практыкай, зусім так сама, як і практыка становіцца сьляпой, калі яна не асвятляе сабе дарогу рэвалюцыйнай тэорыяй. Але тэорыя можа ператварацца ў найвялікшую сілу рабочага руху, калі яна складаецца ў непарыўнай сувязі з рэвалюцыйнай практыкай, бо яна, і толькі яна, можа даць руху ўпэўненасьць, сілу арыентыроўкі і разуменьне ўнутранай сувязі абкружаючых падзей, бо яна, і толькі яна, можа дапамагчы практыцы зразумець ня толькі тое, як і куды павінны рушыць яны ў бліжэйшым будучым“ [1]) Шульгін і Крупеніна са смаімі аднадумцамі не разумеюць таго, што толькі тэорыя, калі яна складаецца ў непарыўнай сувязі з рэвалюцыйнай практыкай, можа даць руху ўпэўненасьць, сілу арыентыроўкі і разуменьне ўнутранай сувязі абкружаючых падзей. Масы могуць вучыцца на ўласным пратычным вопыце, калі гэты вопыт асьвятляецца марксыцка-ленінскай тэорыяй. Толькі так неабходна разумець Леніна.

Зводзячы выхаваньне да практыкі і разумеючы практыку як стыхійны працэс, Шульгін і Крупеніна прышлі да вываду, што школа, якую яны разглядаюць як арганізаваны пэдагагічны працэс, павінна адмерці ў будучым разам з дзяржавай, і што нібы та гэты працэс адміраньня ўжо пачаўся на сучасным этапе. Шульгін хоча паказаць сябе моцным дыялектыкам, сьцьвярджаючы, што дыктатура пралетарыяту нібы-та ўжо не зьяўляецца дзяржавай, што школа ўжо ня ёсьць школа, што нібы-та школа адмірае праз працэс свайго ўмацаваньня і г. д. Зразумела, гэтыя разважаньні Шульгіна пабудаваны на падставе фармальнай лёгікі, на зьнеішніх аналёгіях і параўнаньнях, не на падставе матэрыялістычнай дыялектыкі і таму зьяўляюцца глыбока антыленінскімі. Якраз яму належыць антыленінскі тэзіс: што „вышэйшае разьвіцьцё нашай палітэхнічнай школы—падрыхтоўка да адміраньня

1) „На путях к новой школе“ № 9 за 1927 г., стр. 8

1) Сталін „Вопросы ленинизма“ 1926 г, стр. 89 і г. д.

школы“ [1]). Тут ён дапускае фармальнае параўнаньне школы з дыялёктыкай развіцьця нацыянальнай сацыялістычнай культуры, якая ў будучым, пры камунізьме, стане інтэрнацыянальнай па форме і зьместу толькі пасьля таго, як яна пройдзе пэўны гістарычны этап развіцьця і росквіту нацыянальнай культуры з пралетарскім зьместам. Шульгін з поўнай ўпэўненасьцю падкрэслівае: „бясспрэчна для мяне і зараз, што ў камуністычным грамадзтве школы ня будзе. У праэкце педагагічнай пляцформы я так і пісаў: „школа ў пераходны пэрыяд перастане быць ва ўласным сэнсе слова школай, з тым, каб усе характэрныя рысы школы згубіць у камуністычным грамадзтве. Школа—праваднік дырэктыў дзяржулады, памірае разам з ёю“ [2]). „Як і дзяржава,— працягвае Шульгін,— школа гістарычная катэгорыя. Узьнікнуўшы ў пэрыяд стварэньня клясавай дзяржавы, яна носіць на сабе ўсе характэрныя рысы апошняй“ [3]). І далей: „школа і ў пэрыяд дыктатуры—зброя пралетарыяту і носіць на сабе яна адлюстраваньне яе сваясаблівасьцяй. Гэта бясспрэчна. І з тае прычыны, што дыктатура пралетарыяту ўжо ня зьяўляецца дзяржавай ва ўласным сэнсе слова, не зьяўляецца школа школай ва ўласным сэнсе слова Але школа—зброя ў руках пануючай клясы, і памірае яна разам са сьмерцю клясавага грамадзтва. Гэта ясна“ [4]). Для пацьверджаньня сваёй думкі Шульгін затым старанна цытуе Леніна адносна школы якраз у тых мясцох, дзе Ленін патрабаваў рызбурэньня старой схалястычнай буржуазнай школы і стварэньня новай, пралетарскай. Скажаючы думкі Леніна, Шульгін параўноўвае тое, што непараўнальна, а іменна: буржуазную і савецкую школу і выказваньні Леніна супроць буржуазнай школы мэханічна пераносіць на савецкую. Зрабіўшы гэты трук, Шульгін потым самаўпэўнена заяўляе, нібы-та і Ленін стаяў за адміраньне школы. Але гэта ёсьць ня што іншае, як фальсіфікацыя, дапускаемая „левымі“ апартуністамі ў адносінах Леніна для апраўданьня сваіх трацкісцкіх ідэй. Цікава і тое, што Шульгін для ўмацаваньня сваёй антыленінскай тэорыі спрабуе абаперціся і на цытаты з прамовы тав. Сталіна па нацыянальнаму пытаньню, жудасна скажаючы тую ленінскую палітычную ўстаноўку, якую даваў т. Сталін на XVI зьезьдзе партыі. Пастанова ЦК УсеКП(б) аб школе выкрыла фальсіфікатарскую апартуністычную спробу Шульгіна працягнуць тэорыю адміраньня школы ў нашу літаратуру пад выглядам ленінскага вучэньня. У сваім артыкуле „Аб школе“ Шульгін даказвае, што школа ёсьць атрыбут дзяржавы і таму нібы-та яна павінна адмерці разам з дзяржавай.

Зразумела, правільна тое, што ў нас школа ёсьць атрыбут дзяржавы, і што дзяржава пры камунізьме адамрэ. Але з гэтага зусім не вынікае, што ў будучым адамрэ і школа. Такое фармальнае супрацьстаўленьне школы і дзяржавы патрэбна было Шульгіну для апраўданьня антыленінскай тэорыі адміраньня школы. Гісторыя нам гаворыць, што ня ўсякая школа і незаўсёды была і ёсьць атрыбут дзяржавы, хоць яна заўсёды ў клясавым грамадзтве была і ёсьць клясавая. Атрыбутам дзяржавы зьяўляюцца толькі тыя школы, якія ствараюцца (ці ствараецца) пануючай клясай. Бываюць выпадкі, калі пралетарыят у тэй ці іншай капіталістычнай краіне супроць волі пануючай клясы буржуазіі, стварае пралетарскую школу, якая, сама сабой зразумела, ніяк ня можа разглядацца як атрыбут дзяржавы. У нас, у Савецкім саюзе, школа, праўда, зьяўляецца атрыбутам пралетарскай дзяржавы. Але гэта зусім ня значыць, нібы-та школа павінна адмерці ў будучым разам з дзяржавай. Пры камунізьме, калі зьнікнуць клясы і клясавая барацьба, і, значыць, зьнікне і дзяржава, усё-ж такі школа будзе існаваць як пэўная арганізацыйная форма камуністычнага выхаваньня. Было-б абсурдам сьцьвярджаць, што ў будучым зьнікне камуністычнае выхаваньне, зьнікне іменна пад тэй прычыне, што яно цяпер ажыцьцяўляецца праз пралетарскую дзяржаву пад кіраўніцтвам партыі. У працілегласьць Шульгіну мы

1) „На путях к новой школе“, № 3 за 1931 г., стр. 38
2) Там-жа стр. 37.
3) Там-жа стр. 37.
4) Там-жа стр. 37.

думаем, што камуністычнае выхаваньне будзе існаваць і разьвівацца з тэй толькі розьніцай, што яно тады ня будзе клясавым, як цяпер, а стане бясклясавым. Зусім таксама і школа пры зьнікненьні клясаў і дзяржавы зробіцца бясклясавай навучальна-выхаваўчай арганізацыяй. Такім чынам неабходна гаварыць не аб адміраньні школы, а аб пераходзе школы з формы клясавай арганізацыі ў бясклясавую, па меры адміраньня клясаў і клясавай барацьбы.

Шульгін сьцьвярджае, што працэс адміраньня школы ўжо пачаўся на сучасным этапе. Яго фантазія працавала настолькі інтэнсыўна, што ён стаў брэдзіць і гэтым працэсам адміраньня яшчэ ў 1927 г., калі нават не раней: „Усё больш і глыбей вучыцца маса на вопыце ў будаўніцтве, барацьбе і практыцы,—пісаў ён у той час,—усё больш рэзка сьціраюцца грані разумовай і фізычнай працы, працы і эстэтыкі, усё больш рабяты ўрастаюць у будаўніцтва, усё больш школа перестае быць школай, памірае як школа і вырастае ў нешта новае, нябывалае, нябачанае. Многім здаецца адваротнае, многім здаецца, што школа становіцца ўсё мацней і мацней. Яна арганізуе ў сябе пляцоўку, клюб, „па-за-школьныя“ работы, яна арганізуе працу рабят у сям'і, грамадзкую работу, яна клапаціцца аб прапагандзе, яна арганізуе дзіцячае чытаньне, яна клапаціцца аб адзінстве ўзьдзеяньня. Кіно становіцца яе сустаўной часткай, радыё служыць ёй. Словам, яе роля, значэньне бязьмежна ўзрастае. І тым самым яна перастае быць школай, усё больш і больш дзеці вучацца па-за яе: працуюць у полі, у майстэрні, на фабрыцы, усё больш яна становіцца з месца вучобы месцам арганізацыі дзіцячай работы. Але гэта-ж ня школа. Яе асноўная роля—вучыць адпадае. Рабяты пачынаюць вучыцца і вучацца ўсюды“ [1]. „Памірае і настаўнік,—працягвае фантазіраваць Шульгін,— стары настаўнік, як ён быў. З аднэй вытворчасьці на другую пераходзяць рабяты, і яны—не гастралёры, не экскурсанты, не гультаі. Яны практычныя працаўнікі і разам з тым вучні. І з імі там працуе спэцыяліст данага віду працы. Ён разам з тым і пэдагог, праўда. Але гэта зусім іншае. Гэта зусім не-настаўнік. І няма чаго яму рабіць у школе“ [1]). Тут мы маем ужо закончаную праграму ліквідацыі школы. Шульгіну здавалася, што школа зьнікне праз 10-15 год, лічачы з таго часу, як ён пісаў свой артыкул: „Педагогика переходной эпохи“, г. зн прыблізна к 1937-42 г г. „Пакуль яшчэ ёсьць школа,—чытаем мы ў яго,—і здаецца, што яна ўмацоўваецца, але новае ў ёй разьвіваецца. Пройдзе 10-15 год і колькасьць пяройдзе ў якасьць“ [2]).

Так апартуністы займаліся варажбой адносна тэрмінаў канчыны нашай школы. Аднак можна з упэўненасьцю сказаць, што іх прадраканьні не апраўдаліся. Пастанова ЦК партыі аб пачатковай і сярэдняй школе ад 5 верасьня 1931 г. падкрэсьлівае ўзрастаючае значэньне школы ў сыстэме сацыялістычнага будаўніцува і патрабуе рашучай барацьбы як з праваапартуністычнымі скажэньнямі палітыкі партыі ў галіне школьнай работы, так і з „лева“ апартуністычнымі скажэньнямі, з тэорыяй адміраньня школы і зьніжэньня ролі настаўніка. Якім жа чынам апартуністы думалі ліквідаваць школу? Шульгін, Крупеніна і Ваганян разглядаюць існуючую савецкую школу, як школу вучобы, у якой нібы-та недастаткова разьвіта грамадзкакарысная работа і прадукцыйная праца вучняў. Яны патрабуюць пабудаваць выхаваньне такім чынам, каб агульна-адукацыйны матар'ял быў падпарадкаван грамадзкакарыснай рабоце і прадукцыйнай працы, каб выхаваньне дзяцей было зьведзена да ўдзелу ў практычных справах. Ня тэорыя, а практыка, супроцьстаўленьне аднаго другогу, прыніжаньне тэорыі перад практыкай, ігнараваньне агульнаадукацыйных ведаў, буржуазнае разуменьне практыкі, як стыхійнага працэсу, які зводзіцца да выкананьня канкрэтных спраў—вось што зьяўляецца асноўным момантам ліквідатарскай апартуністычнай тэорыі. Шульгіну і яго аднадумцам здаецца, што ў нашай школе занадта многа аддаецца ўвагі агульнаадукацый-

[1]) „На путях к новай школе“, № 9 за 1927 г. стр.11

[1]) Там-жа, № 9 за 1927 г., стр. 11

[2]) Там-жа, № 9 за 1927 г., стр. 11

ным ведам, таму, што „левакі“ пагардліва называюць вучобай, тады як ЦК партыі, наадварот, лічыць, што „карэнны недахоп школы ў даны момант заключаецца ў тым, што навучаньне ў школе не дае дастатковага аб'ёму агульна-адукацыйных ведаў і нездавальняюча вырашае задачу падрыхтоўкі для тэхнікумаў і для вышэйшай школы поўнасьцю пісьменных людзей, добра ўладаючых асновамі навук“... Што шульгінцы тут выступаюць супроць палітыкі партыі, ня можа быць ніякага сумненьня, якімі-бы высокапарнымі словамі яны ні прыкрываліся. Трацкіст Ваганян, з якім салідаран і Шульгін, разглядае савецкую школу ня толькі як непатрэбную арганізацыю, але і нават як шкодную для культурнага разьвіцьця нашай краіны. „Школа, як яна ёсьць,—піша ён,—ня толькі недастаткова, але яна велічыня адмоўная, і, пакуль яна ёсьць, мы будзем мець усё ўзрастаючы дэфіцыт культуры. Такая школьная палітыка контр-рэвалюцыйнага трацкізму. Сьледам за Ваганянам сьпяшаюцца паўтараць па-вучнеўску яго думку Шульгін і Крупеніна. Апошняя піша, што нібы-та „вучняў не задавальняе тып савецкай школы, нават трошачкі зьменены, трошачкі палітэхнізаваны, але ўсё-ж не задавальняе“ [1]), і далей Крупеніна па свойму выяўляе прычыны гэтага незадавальненьня вучняў: „ці заняла ФЗС тое месца ў жыцьці фабрычна-заводзкіх арганізацый, якое мы на працягу 3—4 год узмоцненна спрабуем ёй надаць? Трэба сказаць, што яна гэтага месца не заняла да гэтага часу. Чаму? Таму што відаць, ня ўлоўлен быў тып гэтай школы. Таму, што школа ФЗС у масе засталася школай вучобы, таму, што ня стала школай грамадзка-карыснай і прадукцыйнай працы“ [2]) Крупеніна не задаволена тым, што ФЗС мае праграму, дае вучням пэўны мінімум агульнаадукацыйных ведаў, у некаторых выпадках правільна падпарадкуе вучобе грамадзка-карысную работу і прадукцыйную працу. „Плянуючы сваю работу,—піша яна,— грамадзкія арганізацыі фабрыкі пачынаюць уключаць туды дзіцячыя сілы як сустаўны элемэнт сваёй работы. Вось тое новае, што ўваходзіць у жыцьцё. На жаль, гэтага яшчэ вельмі мала. Мала таму, што грамадзка-карысная работа астаецца да гэтага часу эпізодам ў жыцьці школы. Галоўнае праграма, праграма адукацыйнай работы. Яна павінна быць пройдзена ў што-б там ні было. Гэта асноўнае. Гэтаму падпарадкавана ўсё. Грамадзка-карысная работа „праца, толькі пастолькі,—паколькі. Уся сыстэма работы школы падпарадкавана гэтай вучобе, а ўсё другое прарываецца, заваёўваючы сабе месца насуперак сыстэме, а не дзякуючы ёй“ [1].) І канчае Крупеніна гэту жалобную тыраду надмагільнымі словамі: ...„гэтая школа—школа вучобы памірае“ [2]) Памірае школа, памірае настаўнік, памірае і падручнік, словам усё памірае. „Школа II ступені стаіць перад сьвежай, адкрытай магілай“ [3]) радуецца Шульгін, пачынаючы нават патэтычна марыць: „Так канчаецца дрэнная казка аб школе 2-й ступені“ [4]). Так канчаецца дрэнная казка, але казка іншага парадку: расьсейваецца фантазія Шульгіна, Крупенінай і Ваганяна аб гібелі школы пад уплывам нашай сапраўднасьці. Сапраўднасьць павінна перакаваць нашых зарваўшыхся фантазёраў, што савецкая школа ня толькі не адмірае, а, наадварот, расьце і разьвіваецца ў сыстыме сацыялістычнага будаўніцтва. Аб „паміраючым“ падручніку Крупеніна глыбокадумна разважае: „возьмем хоць бы такія абавязковыя атрыбуты школы як падручнік, які замяняў сабой праграму і які быў сасудам усёй школьнай прамудрасьці, вымяральнікам пасьпяховасьці,—прайшоў падручнік, значыць, прайшоў курс такой-та клясы,—зараз ён уходзіць у мінулае“ [5]). Мы павінны запэўніць Крупеніну, што і падручнік не адмірае, што ён неабходзен для нашай школы і што наша чарговая задача—паклапаціцца аб стварэньні добраякаснай ідэолёгічна-вы-

[1]) Сборник № 5 „Педагогика переходной эпохи“, стр. 25.
[2]) Там-жа, стр. 26.

[1])Там-жа стр. 26-27
[2]) Сборник № 5 „Педагогика переходной эпохи“, стр. 29.
[3]) Там-жа, стр. 8.
[4]) Там-жа, стр. 9.
[5]) Там-жа, стр. 29

трыманай вучэбнай літаратуры для дзяцей малодшага і старэйшага ўзросту. „Левыя“ апартуністы часам імкнуцца прадставіць становішча ў такім выглядзе, нібыта яны вядуць барацьбу супроць старой схалястычнай школы. Гэтым сьцьверджаньнем яны ў некаторых выпадках могуць падкупіць нявопытнага чытача. Ці неабходна весьці рашучую барацьбу супроць старой, схалястычнай, школы? Зразумела, неабходна. Трэба не забываць, што правы апартунізм, які выступае на абарону гэтай школы, зьяўляецца галоўнай небясьпякай на даным этапе. Аднак, ня трэба забываць і таго, што барабцьба з правай небясьпекай можа пасьпяхова разгортвацца толькі ў тым выпадку, калі мы будзем весьці рашучую барацьбу і супроць левага апартунізму, які пад выглядам крытыкі старой школы—крытыкі. не бальшавіцкай, спрабуе зламаць савецкую школу, як праваднікa камуністычнага выхаваньня.

Якім-жа чынам „левыя“ апартуністы хацелі ліквідаваць школу? Яны высоўвалі ў асноўным тры спосабы: 1) ператварыць школу ў састаўную частку піянэр-арганізацыі; 2) зьліць школу з працэсам масавага культурнага абслугоўваньня; 3) ліквідаваць школу 2-й ступені, арганізаваўшы школу-вытворчасьць.

Ідэя ліквідацыі школы на аснове ператварэньня яе ў састаўную частку піянэрарганізацыі была найбольш падрабязна разьвіта Рывесам яшчэ ў 1925 г., у яго артыкуле: „Школа дозаводского труда, основанная на детдвижении“. Тут Рывес імкнецца даказваць неабходнасьць падпарадкаваньня школьнай работы задачам піянэрскага атраду, неабходнасьць зьліцьця школы і піянэрскага руху з тым, каб выхаваньне і адукацыя дзяцей праводзіліся толькі праз піянэрскія арганізацыі. Гэта думка аб ліквідацыі школы ў яго аформілася ў тэорыі кантакта.

Рывес разумее кантакт між школай і піянэрскім атрадам у тым сэнсе, што „школа ці дзіцячы дом свой навучальны плян, заняткі ў майстэрнях і ў клюбе, а таксама лад, самакіраваньне,—адным словам, усю сваю арганізацыю наладжвае такім чынам, каб яна ня была нечым паралельным жыцьцю атрада, патрабуючым ад піянэра раздваеньня сваёй ўвагі і намаганьняў, а па магчымасьці зьлілася-б з жыцьцём атраду арганічна, ствараючы адзін з асноўных яе элемэнтаў“ [1]).

Далей Рывес ілюструе сваю думку такім прыкладам. Зьвяно рыхтуецца да „Дня работніцы“. Уся школа перабудоўваецца для абслугоўваньня зьвяна. У школьным клюбе рыхтуецца адпаведная інсцэніроўка, грамадска-палітычныя гурткі прапрацоўваюць пытаньне аб ролі і значэньні жанчыны ў рабочым руху, выкладчык грамадазнаўства таксама спыняецца на гэтым пытаньні, матэматык дае адпаведныя ілюстрацыі на лічбовым матар'яле, на дыяграмах і г. д., выкладчык роднай мовы прапрацоўвае літаратуру, якая асьвятляе жыцьцё, працу і барацьбу работніцы, майстэрні заняты чарговай кампаніяй па шыцьцю вопраткі, пераплёту кніг, вырабу цацак і г. д. „Такая школа, клюб, майстэрні ажыцьцяўляюць агульную задачу атраду“—заканчвае сваю думку Рывес. Пры гэтым апошняя састаўляе цэнтральную вось, вакол якой ўсё вяртаецца, асноўны стрыжань зьместу школьнай работы. Такую школу, дзе ўсё базуецца на дзіцячым руху, справядліва называюць школай піянэраў, кал гэта дзіцячы дом, то домам піянэра“ [2]). Зразумела, неабходна дабівацца таго, каб была ўстаноўлена пэўная ўзгодненасьць работы школы і піянэрскага атраду. Гэта зьяўляецца бясспрэчным. Але тут Рывес гаворыць не аб тым, каб устанавіць узгодненасьць, а аб тым каб падпарадкаваць выхаваўча-адукацыйны працэс школы задачам піянэрскага атраду, каб зьмест работы піянэраў зрабіць „цэнтральнай восьсю“, „асноўным стрыжнем“ работы школы, каб школу ператварыць у адну з частак піянэрскай арганізацыі. А гэта ёсьць адзін з варыянтаў тэорыі адміраньня школы. Неабходна змагацца супроць права апартуністычнай ўстаноўкі ператварыць піянэрскія арганізацыі ў прыдатак школы і тым самым ліквідаваць піянэрскі рух. Але наша задача заключаецца і ў тым,

---

[1]) Пад рэдакцыяй Калашнікава „Советская производственно-трудовая школа“, 1925 г., т. II, стр.215 (курсыў наш. *П. П.*)

[2]) Там-жа, стар. 216

каб біць бязьлітасна па спробе ператварыць школу ў прыдатак да піянэрскіх арганізацый і тым самым ліквідаваць школу. Гэта апошняя спроба знайшла сабе яркае выражэньне на сучасным этапе ў імкненьні падпарадкаваць школьнае самакіраваньне піянэр базе, пазбаўляючы такім чынам загадчыка школы магчымасьці кіраваць дзіцячым самакіраваньнем і несьці адказнасьць за выхаваньне ў школе. Такое становішча няўхільна вядзе не да ўмацаваньня адзіначальля ў школе, а, наадварот, да яго разбурэньня.

Другім варыянтам тэорыі адміраньня школы, як сказана вышэй, зьяўляецца імкненьне зьліць школу з працэсам масавага культурнага абслугоўваньня. Гэтая пазыцыя асабліва выразна была сфармулявана самім Шульгіным, а таксама і Крупенінай, хоць апошняя і спрабавала пазьней адмаўляцца ад сваіх ліквідатарскіх поглядаў адносна школы. Тут левыя апартуністы рэкамэндавалі ліквідаваць школу на тэй падставе, што вучыць ня толькі школа, але і партыя, і прафсаюзы, і саветы і каапэрацыя і г. д.; прычым, усё гэта вучыць куды лепш і надзейней, чым школа. Апошняя, як здавалася шульгінцам, не спраўляецца са сваёй задачай выхаваньня, не наведваецца вучнямі, знаходзіцца ў поўным заняпадзе, паміраe. Тут левыя апартуністы цалкам адмаўляюць дасягненьні ў справе будаўніцтва савецкай школы, тады як пастанова ЦК партыі, наадварот, адзначае пэўныя посьпехі. Левыя апартуністы лічаць неабходным падпарадкаваць вучобу грамадзка-карыснай рабоце і прадукцыйнай працы вучняў, тады як пастанова ЦК партыі, наадварот, патрабуе падпарадкаваць грамадзка-карысную работу і прадукцыйную працу вучняў навучальна выхаваўчым задачам школы. „Нам здаецца,—піша Крупеніна,— што настаў час агульна адукацыйны матар'ял падпарадкаваць прадукцыйнай і грамадзкай рабоце. Выходзіць не з праграм адукацыйнай работы, як гэта было да гэтага часу, а з грамадзка-карыснай і прадукцыйнай працы. Паставіць навыкі пісьма, лічэньне, пісьменнасьць на службу справам, выкананьнем якіх заняты рабяты“. Такія ўстаноўкі не маглі не адбіцца на практычнай рабоце нашых школ. Некаторыя школы закрываліся на цэлыя тыдні і месяцы для таго, каб, спыніўшы вучобу, удзельнічаць у ліквідацыі прарыву на ф-цы, змагацца за прамфінплян прадпрыемства, праводзіць пасеўную кампанію і г. д. Дзеця не вучыліся, а працавалі, ператвараючыся ў рабочую сілу на нашых гаспадарчых прадпрыемствах. Дзякуючы гэтаму, зрывалася вучоба, і „карэнны недахоп“ нашых школ—слабы ўзровень агульна-адукацыйных ведаў ня толькі ня зьнішчаўся, а, наадварот, у такіх выпадках узрастаў. Вось гэта і было практычным рэзультатам тэорыі адміраньня школы.

Калі раней Шульгін і Крупеніна адстайвалі думку аб неабходнасьці зьліць школу з працэсам масавага культурнага абслугоўваньня наогул, то ў апошні час яны сталі больш выразна гаварыць аб неабходнасьці растварыць школу ў буйнай вытворчасьці, высоўваючы ідэю школы-прадпрыемства. Праўда, у пастанове ЦК нашай партыі ёсьць указаньні адносна арганізацыі школ-прадпрыемстваў у мэтах падрыхтоўкі кваліфікаваных кадраў. „Левыя“ апартуністы сказілі сутнасьць гэтых пастаноў у сваіх тлумачэньнях з тым, каб выкарыстаць дакуманты партыі для ўдару супроць савецкай школы, супроць палітыкі партыі ў галіне школьнага будаўніцтва. У пастанове лістападаўскага пленуму ЦК партыі за 1929 г. сказана: „Даручыць ВСНГ СССР у бягучым годзе сумесна з УсеЦСПС і наркамасьветамі рэспублік арганізаваць у выглядзе вопыту адно-два прадпрыемствы-школы, у якіх спалучалася-бы падрыхтоўка кадраў (ніжэйшых, сярэдніх і вышэйшых) са сталай работай на вытворчасьці“. Зрабіўшы гэтую выпіску, Шульгін з радасьцю ўсклікае: „вось першы ўдар па старой сыстэме народнай асьветы. І ўдар сакрушальны. Ня было ў ёй месца для школы-прадпрыемства. А цяпер павінна быць“ [1]). Шульгін зразумеў пастанову ЦК ў такім духу, нібы-та яна б'е па старой сыстэме народнай асьветы, нібыта яна мае на ўвазе ліквідацыю школы 2-й ступені. Адсюль і яго захапленьне

[1]) „Педагогика переход. эпохи“, № 5, стр. 5.

па позаду гэтай пастановы. Але Шульгін жорстка памыляецца. Пастанова ЦК мела на ўвазе не ліквідацыю савецкай школы, а арганізацыю ў выглядзе вопыту аднаго-двух прадпрыемстваў-школ, у якіх падрыхтоўваліся-б кваліфікаваныя кадры—ніжэйшыя, сярэднія і вышэйшыя, не адрываючыся ад вытворчасьці, у сувязі са сталай работай на прадпрыемстве. Шульгін-жа рашыў, што пастанова ЦК можа быць пашырана і на масавую школу ў напрамку зьліцьця гэтай школы з вытворчасьцю. Такія „левыя“ апартуністы, прыкрываючыся скажоным тлумачэньнем дырэктыў партыі, спрабавалі ажыцьцёвіць практычна антыленінскую тэорыю адміраньня школы.

„Ці толькі ў школе могуць чэрпаць вучні адукацыйны матар'ял?—пытаецца Крупеніна і адказвае:—ці ня можа ім прыйсьці на дапамогу вытворчая выстаўка прадпрыемства, габінэт прафработы прадпрыемства, габінэт партработы, куток савецкага будаўніцтва, бібліятэка. Бязумоўна, што па меры ўзмацненьня „вучобы“ (вучобу шульгінцы азначаюць ня інакш як у двукосьсі—*П. П.*) на самай вытворчасьці, сярод саміх рабочых, па меры пераходу прадпрыемства да школы-прадпрыемства, па меры абрастаньня прадпрыемстваў адпаведнымі падсобнымі адукацыйнымі ўстановамі (габінэты, лябараторыі, бібліотэка, вытворчая выстаўка і інш.), гэтыя ўстановы стануць адукацыйнымі базамі і для падлеткаў. Школа-прадпрыемства, плянуючы сваю адукацыйна-выхаваўчую работу, павінна мець на ўвазе ня толькі дарослых, ня толькі моладзь, якая навучаецца ў школах ФЗВ, але і падлеткаў, якія навучаюцца цяпер у сямігодцы, у школе“ ФЗС [1]). Значыць школа-вытворчасьць, па замыслу „левых“ апартуністаў, павінна паглынуць сабой ня толькі ФЗВ і тэхнікумы, але і ФЗС, а таксама і ШКМ. У такім выпадку, яна, уключаючы і ВТНУ, ператвараецца ў своеасаблівы культурна-вытворчы камбінат. Шульгін разьясьняе, што школа вытворчасьць ужо не зьяўляецца школай ва ўласным сэнсе слова, што яна ня мае вузка-прафэсіянальнага характару і што „ўся прапітана грамадазнаўчымі, сьветапаглядчымі момантамі“, падрыхтоўваючы людзей з шырокай ініцыятывай і з вялікім запасам ведаў. Здаецца парадоксам, што грубы эмпірыст Шульгін, які адмаўляе тэорыю і зводзіць выхаваньне да практычных канкрэтных спраў, які ня выносіць „вучобу“ і ўжывае гэты тэрмін толькі ў двукосьсі, які па сутнасьці адмаўляе клясавую барацьбу пралетарыяту, схіляючыся перад стыхійным рабочым рухам,—гэты самы Шульгін у той-жа час многа крычыць аб неабходнасьці разьвіцьця людзей з шырокай ініцыятывай і з вялікім запасам ведаў, настайваючы на тым, каб прапітаць выхаваўчы працэс грамадазнаўчымі, сьветапаглядчымі момантамі. Такія супярэчнасьці ў „левакоў“ нярэдкі. Напомнім яшчэ і той факт, што Шульгін, адстайваючы тэорыю стыхійнасьці, у той-жа час рэкамэндаваў унесьці плянавасьць у культурную справу. Гэта тлумачыцца супярэчлівасьцю прыроды дробнай буржуазіі, ідэолёгія якой і адлюстравана ў пэдагагічнай тэорыі Шульгіна. Апрача таго, левыя апартуністы часта ўжываюць такія словы, як „бальшавіцкі тар“, „плянавасьць“ і інш. для маскіроўкі сваіх рэакцыйных поглядаў. Калі Шульгін гаворыць аб тым, нібы-та ён клапаціцца аб стварэньні школы-вытворчасьці, якая была-б прапітана грамадазнаўчымі, сьветапаглядчымі момантамі і гатовіла-б людзей з вялікім запасам ведаў, то гэтая дзіцячая фантазія гора-тэарэтыка, які заблытаўся. Ці можа шульгінская школа-вытворчасьць разьвіваць шырокі сьветапогляд і даваць вялікі запас ведаў, калі ў ёй выхаваўчы працэс прапітан грубым эмпірызмам, калі тут адукацыя цалкам падпарадкавана канкрэтным практычным справам? Зразумела, ня можа. І высакапарныя словы Шульгіна зьяўляюцца ня больш як пустой дэклямацыяй. „Было-б самае жудаснае,—піша Шульгін,—калі-б школа-вытворчасьць ператварылася ў старую школу, дзе па падручніках, далёкіх ад данай фабрыкі... рабочыя вывучалі-бы фізыку... хэмію... і інш. навукі“ [1]). Тут на першы погляд можна падумаць, што Шульгін сапраўды супярэчыць супроць рэакцый-

[1]) Педагогика переходной эпохи, стр. 30-31.

[1]) Там-жа стар. 7.

най, старой, схалястычнай школы. На самай справе ён мае на ўвазе іншае, а іменна, нашу савецкую школу. Шульгін палохае тая акалічнасьць, калі-б рабочыя вывучалі фізыку, хэмію і інш. навукі па падручніках, далёкіх ад данай фабрыкі. Што гэта значыць? Гэта значыць, што аб'ём ведаў па Шульгіну неабходна даваць ня больш таго, як гэта дыктуецца асаблівасьцямі данага прадпрыемства. Але ні адна галіна навукі ня можа быць вычарпана зьместам толькі аднэй вытворчасьці. Шульгін тут зноўтакі імкнецца ўрэзаць тэорыю, падпарадкаваць яе практыцы. Зразумела, вывучэньне розных навук павінна зьвязвацца з пэўнай вытворчасьцю, дзе працуюць вучні. Але гэта зьвязваньне мы ні ў якім выпадку ня можам разумець у духу шульгінскага прынцыпу падпарадкаваньня тэорыі прадукцыйнай працы вучняў у масавай школе.

Шульгін і Крупеніна разглядаюць школу-вытворчасьць як грамадзкае вучнёўства. Раскін разьясьняе, што „школа ператвараецца ў школу грамадзкага вучнёўства, калі рабяты ўключаюцца ня толькі ў прадукцыйную працу дарослых, але і ў грамадзкую іх працу, калі яны прымаюць у ёй удзел па адзінаму пляну...“

„Ужо зараз з усёй відавочнасьцю,— указвае Крупеніна,—прадстаўляецца ня толькі магчымым, але і неабходным будаваць работу школы не на аснове праграмы заняткаў, а на праграме дзеяньняў, на аснове грамадзкіх і прадукцыйных спраў. Школа перастае быць мэханічным аб'яднаньнем некалькіх клясаў, некалькіх школьных груп, а ператвараецца ў рад арганізаваных дзіцячых груп, дзіцячых калектываў, якія аб'ядноўваюцца наваколвырашэньня тых ці іншых вытворчых ці грамадзкіх задач,—група ліквідатараў няпісьменнасьці, група птушкаводаў, група па барацьбе са шкоднікамі і г. д. і г. д., такія тыпы не заўтрашняга, а ўжо сёньняшняга дня нашай сапраўднасьці“ [1]). Тут дзеці вучацца і ў полі, і на гародах, і на агранамічным пункце, і на трактарнай базе і г. д. Настаўнікам становіцца і аграном, і мэханік, і тэхнік, які працуе непасрэдна ў вытворчасьці. Пры такіх умовах ранейшы настаўнік перастае быць выкладчыкам і ператвараецца ў арганізатара, у кансультанта. Ён выступае ў якасьці арганізатара ў той меры і ў той часьці, якая патрабуе прыцягненьня да адукацыйнай работы спэцыялістаў-аграномаў, інжынераў і інш., а таксама ён выконвае абавязкі кансультанта па тых пытаньнях, якія ён можа вырашыць сам. Для выкананьня канкрэтных спраў заключаюцца дагаворы між дзіцячымі арганізацыямі, з аднаго боку, і савецкімі ўстановамі і прадпрыемствамі, з другога.

З гэтага апісаньня сутнасьці грамадзкага вучнёўства відаць, што Шульгін і Крупеніна ўяўляюць сабе школу-вытворчасьць у выглядзе дзіцячай арганізацыі, у якой вучні разьбіваюцца на групы, якія заўсёды зьмяняюцца для выкананьня канкрэтных задач, пастаўленых перад гэтай арганізацыяй з боку савецкай установы або прадпрыемства. Роля настаўніка зводзіцца толькі да абавязкаў арганізатара ў некаторых выпадках, да функцый простага скромнага кансультанта. Настаўнік, як выкладчык, адпадае. Гэтая ўстаноўка Шульгіна і Крупенінай глыбока супярэчыць пастанове ЦК аб школе, дзе патрабуецца „павысіць адказнасьць настаўніцтва за якасьць школьнай работы, дзе падкрэсьліваецца неабходнасьць паставіць настаўніка „на такую вышыню, на якой ён ніколі не стаяў, не стаіць і ня можа стаяць у буржуазным грамадзтве“.

Адзначыўшы, што настаўнік ператвараецца ў арганізатара і кансультанта, Шульгін і Крупеніна потым стараюцца абмежаваць абавязкі настаўніка нават і ў тых строгіх межах, якія яны ўстанавілі для яго раней. Шульгін сьпяшаецца падкрэсьліць, што настаўнік, ператварыўшыся ў арганізатара, перастае быць арганізатарам, бо функцыі арганізатара ў адносінах дзяцей належаць піянэрам і камсамольцам. У Шульгіна мы чытаем: „Але ўсюды, дзе памацнелі камуны, усюды, дзе набліжаецца да іх калгас, усюды ў гэтых мясцох на новыя формы культурнага абслугоў-

[1]) „Революция и культура“, № 3 за 1930 г., стр. 15.

ваньня трэба пераводзіць школу. Школа перарастае тут у школу-вытворчасьць. Яна становіцца яго часткай. Яна будуецца на аснове прадукцыйнай працы, грамадзкай работы рабят. Але і апошняя не арганізуецца школай, настаўнікам, не. Яна арганізуецца піянэр-рухам, камсамольскім. Яна — частка іх пляну. У агульных брыгадах з дарослымі працуюць сумесна, і толькі для малых ёсьць асобная брыгада. Але і яны выконваюць агульны плян" [1]). Выходзіць, што выхаваўча-адукацыйны працэс арганізуецца не настаўнікам, а піянэрскім і камсамольскім рухам. Тут настаўнік зусім адсоўваецца на задні плян і такім чынам „ліквідуецца".

Штурхаючы настаўніка ў „сьвежую адкрытую магілу" разам са школай, Шульгін зьдзекваецца над гэтым настаўнікам, называючы яго „чалавекам у футарале", „чалавекам у каўпаку" і г. д. „Так вырастае ўсебакова разьвіты чалавек,—філёзофствуе Шульгін,—ня ў школе і не ў дзіцячым доме, ня ў колбе хэмічнай лябараторыі. Не, яго вынашвае фабрыка, завод, сельская гаспадарка, клясавая барацьба... і выхоўвае яго не настаўнік у футарале, у вязаным каўпачку, яго выхоўвае ўвесь лад" [2])

Шульгін абзывае настаўніка ганебнай мянушкай—чалавека ў вязаным каўпаку толькі таму, што гэты настаўнік зьяўляецца прадстаўніком школьнага пэдагагічнага працэсу. „А ёсьць яшчэ такія цынікі,—не перастае пацяшацца наш аўгар,—ёсьць яшчэ такія каўпакі, такія людзі ў футаралах, якія не задаволены ня тым, што піянэры ня ўмеюць яшчэ як трэба іменна на гэтых падставах арганізаваць работу, а іменна тым, што мала падобна ўсё гэта на школьную справу, а ім вельмі хацелася бы ўціхамірыць гэтую стыхію, стрымаць гэта бурнае мора, супакоіць яго, зрабіць з яго прыдатак да школы, і спрабуюць яны цэнтр цяжару работы піянэр-руху перанесьці туды і зрабіць з піянэрчыкаў пай-хлопчыкаў і пай-дзяўчатак, якія лепш другіх вучацца па кнігах і толькі ў школе" [1]). Само сабой зразумела, што трэба біць па правых апартуністах, якія хочуць ліквідаваць піянэррух або ператварыць яго ў прыдатак школы. Але разам з тым неабходна з усёй рашучасьцю выкрываць і „левых", якія, імкнучыся ліквідаваць школу, кампрамэтуюць нашага савецкага настаўніка, абзываючы яго школьным каўпаком. Мы павінны ліквідаваць „каўпакі" школьных ліквідатараў.

Для таго, каб паказаць, якую сыстэму выхаваньня рэкамэндуюць левыя апартуністы, дастаткова ў якасьці прыкладу прывесьці праект сыстэмы выхаваньня ў камуне, які прапануецца Раскіным.

Камуна падпарадкуецца калгассаюзу, які зьвязан па лініі кіраўніцтва з партыйнай ячэйкай камуны і сельсаветам. Партыйная ячэйка кіруе камсамольскай ячэйкай. На чале камуны стаіць савет, які мае дзьве сэкцыі: плянава-вытворчую і культурна-бытавую. Кожная сэкцыя мае дзіцячыя сэктары, якія зьвязаны па лініі кіраўніцтва з піянэрскай арганізацыяй. Сэкцыямі кіруе культцэнтр праз савет камуны. Дзіцячы сэктар плянава вытворчай сэкцыі распадаецца на дзіцячыя брыгады, якія дзейнічаюць у кантакце з брыгадамі дарослых. Гэтыя брыгады заняты работай у вытворчасьці, бытавой працай, на транспарце, сувязьзю і г. д. Дзіцячы сэктар культурна-бытавой сэкцыі мае дзьве часьці: бытавыя камуны і камбінат культурна-асьветных устаноў. Гэты апошні складаецца з наступных момантаў: кіно, радыё, гурткі, чытальні, бібліятэкі, дапаможныя ўстановы, габінэты, і лябараторыі, аўдыторыя. А дзе-ж школа? Яе тут няма: у Раскіна яна ўжо адмерла. Дзеці, як і дарослыя наведваюць кіно, габінэты, бібліятэку, вытворчасьць і г. д. Але школа для іх у камуне адсутнічае. Так, „левыя" пражэкцёры сьпяшаліся ліквідаваць школу, фантазіруючы і ня ўлічваючы нашай сапраўднасьці. Шульгін разьясьняе, што школа - вытворчасьць зьяўляецца ня толькі сыстэмай набыцьця ведаў і навыкаў, але і месцам экспэрымэнтаваньня. „Школа - вытворчасьць,—піша ён,—гэта

---

[1]) „Педагогика переходной эпохи", сб. № 5 стр. 13

[2]) „В борьбе за марксистскую педагогику", стр. 26

[1]) Там-жа стар. 53

ня толькі, завод фабрыка, дзе праходзяць працэс працы, дзе набываюцца навыкі, дзе ўсплывае рад кардынальных, асноўных пытаньняў, зьвязаных з тэхнікай, з грамадазнаўствам, з гігіенай, прыродазнаўствам. Гэта — экспэрымэнтальны цэх, і габінэты вынаходзтва, і лябараторыі, бібліятэкі, кіно... Гэта—і пакоі для ціхай работы. Але не раскіданыя ў беспарадку, не паўтараючыя адзін аднаго. Але ўкладзеныя ў пэўную сыстэму. Іменна так. І ў цэнтры яе адлюстраваньне вытворчасьці—фабрычна заводзкая выстаўка“ [1]). Адсюль відаць, што левыя апартуністы прадстаўлялі сабе працэс зьліцьця школы з вытворчасьцю ў выглядзе арганізацыі на самой вытворчасьці бібліятэкі, кіно, чытален, габінэтаў, аўдыторый, выстаўкі і розных лябараторый, у яхіх займаліся-б і дарослыя і дзеці аднолькава без настаўніка.— Шульгін нават намячае прыблізны парадак работы ў працягу дня: „дзьве—тры гадзіны працы... затым кіно, потым адна гадзіна работы ў ціхім пакоі“ і г. д. Пры такім парадку дзеці не маглі-б вучыцца, а былі-б заняты большую частку прадукцыйнай працай і грамадзкакарыснай работай. Шульгін высоўвае прынцып групоўкі дзяцей па ступені і аб'ёму ведаў і тэмпу іх разьвіцьця ў такім выглядзе, каб адны з іх скончылі школу ў дзесяць год, другія ў 9½, трэція ў 8½, чацьвертыя ў 10½ і г. д., пераводзячы іх ў старэйшую групу па паўгодзьдзях і нават па чацьвя тушках году. Што значыць такая „гібкасьць“ сыстэмы? Яна азначае факт разбурэньня школы. Такая сыстэма перашкаджае стварэньню цьвёрдых дзіцячых груп па гадох навучаньня, зьнішчае прадпасылкі для арганізацыі школьнага калектыву, разрывае яго на самастойныя па свайму складу брыгады, якія заўсёды зьмяняюцца, абумоўлівае анархію ў прасоўваньні ўперад вучнёўскіх груп, разбурае плянавасьць у рэгуляваньні пераводу дзяцей з групы ў групу, падпарадкуе працэс навучаньня непрынцыпіяльным установкам школы, а псыхалёгічным асаблівасьцям дзяцей. Указаная сыстэма нагадвае сабой буржуазны Говард-плян, пры якім вучні могуць скончыць школу ў розны час па розных прадметах.

На сучасным этапе тэорыя адміраньня школы знайшла сваё канкрэтнае выяўленьне ў лёзунгу—„школа—цэх заводу“. Гэты лёзунг атрымаў настолькі шырокае распаўсюджваньне, што знайшоў сабе месца нават у некаторых дакумантах Наркамасьветы Савецкіх рэспублік. Апартуністычная сутнасьць гэтага лёзунгу заключаецца ў тым, што ён даваў магчымасьць разбурыць школу, пераносячы на завод школьныя лябараторыі, габінэты і майстэрні, а таксама і тым, што ён падпарадкаваў вучобу прадукцыйнай працы на даным прадпрыемстве, што ён абмяжоўваў тэорыю зьместам данай вытворчасьці, што ён не садзейнічаў, а, наадварот, перашкаджаў сапраўднай палітэхнізацыі школы.

Школа,ператвораная ў цэх-заводу, не магла-б азнаёміць вучняў з „агульнымі навуковымі прынцыпамі ўсёй прамысловай вытворчасьці“, даць магчымасьць ім вывучыць у „тэорыі і на практыцы галоўныя галіны вытворчасьці“ (праграма УсеКП(б).) Такая школа была-б не палітэхнічнай, а прафэсіянальна-тэхнічнай, давала-б вучням уяўленьне толькі аб аднэй пэўнай вытворчасьці, канцэнтруючы сваю ўвагу, галоўным чынам, на разьвіцьці працоўных тэхнічных навыкаў. Лёзунг: „школа—цэх заводу“ зьявіўся спадарожнікам сучаснага этапу палітэхнізацыі, калі кожная школа павінна была прымацавана да пэўнай канкрэтнай вытворчасьці. Але гэты лёзунг левыя апартуністы не маглі-б выкарыстаць у сваіх мэтах, калі палітэхнічная школа будавалася-бы не на аснове аднаго прадпрыемства, а на аснове комплекса прадпрыемстваў, указаных Леніным: электрастанцыі, хэмічнага заводу, мэханічнага і саўгаса (ці калгаса). Тады школа нё магла-б разглядацца як цэх заводу, паколькі яна не прымацавана да аднэй вытворчасьці.

Цяпер не магу ня спыніцца на сваіх лева-апартуністычных памылках. Тэорыю адміраньня школы я не падтрымліваў і яшчэ да пастановы ЦК партыі выступаў у друку супроць пэдагагічнай пляцформы Шульгіна і Крупенінай, напр. у артыкуле: „Што такое камуністыч-

[1]) „Педагогика переходной эпохи“ № 5, стр. 6

нае выхаваньне“ (гл. часоп. „Кам. Вых“. № 6 за 1931 г). Аднак, гэта зусім ня здымае з мяне адказнасьці за тыя сур'ёзныя памылкі, якія я дапусьціў у сваіх друкаваных работах, і якія непасрэдна зьвязаны з тэорыяй адміраньня школы. Ідэі „школа—цэхзаводу“ у сваіх артыкулах і кнігах я не закранаў, абыходзіў маўчаньнем і ня крытыкаваў тых працаўнікоў, якія гэтую ідэю працягвалі ў друк і праводзілі ў жыцьцё. У адносінах да лёзунгу „школа—цэх заводу“ я займаў пазыцыю гнілога лібэралізму. Першы ўсебелалараускі зьезьд палітэхнічнай адукацыі (ў 1930 г.), у работах якога я прымаў удзел, вынес рэзалюцыю з цэлым радам „лявацкіх“ установак. Напрыклад, у адным пункце рэзалюцыі па асноўнаму дакладу гаворыцца наступнае: „Арганізацыя і мэтады работы ў такой палітэхнічнай школе павінны быць новымі, мэтад праектаў, як асноўны мэтад работы школ, новыя формы арганізацыі работы—зьвеньні, брыгады паступова выцясьняць клясную форму арганізацыі работы“. Тут мэтад праектаў праклямуецца як асноўны мэтад школьнай работы, і ўказваецца, што школа павінна перайсьці ад клясная формы заняткаў на брыгадна-зьвеньнявую.

Асноўны дакладчык на II усебеларускім зьезьдзе па палітэхнічнай адукацыі т. Дардак, разьясьняючы пастанову гэтага зьезду аб школе, даказваў, што зьезд разумее палітэхнічную школу, як цэх заводу. „Зьезд у сваіх пастановах, пісаў ён,—дакладна вызначыў, што адзіным шляхам для ажыцьцяўленьня сапраўднай палітэхнізацыі школы зьяўляецца ўключэньне школы ў вытворчы і гаспадарчы плян заводу, прадпрыемства і калгасу, каб усё навучаньне будавалася на аснове вывучэньня вытворчых адносін на пасьлядоўна-сацыялістычным прадпрыемстве, удзелу ў грамадзкім і культурным жыцьці заводу, у барацьбе за выкананьне прамфінпляну на заводзе, удзелу ў сацспаборніцтве і ўдарніцтве. Адным словам, дабіцца таго, каб паступова школа стала цэхам заводу ці аддзяленьнем калгасу“ [1]). Тут дана найбольш закончаная лева-апартуністычная фармулёўка. Уключэньне школы ў вытворчы і гаспадарчы плян заводу, падпарадкаваньне выхаваўчаадукацыйнага працэсу ў школе задачам вытворчасьці, патрабаваньне ператварыць школу ў цэх заводу ці аддзяленьне калгасу—усё гэта няўхільна вынікала з пастаноў І усебеларускага зьезду і было выкарыстана левымі пражэкцёрамі для практычнага ажыцьцяўленьня сваіх апартуністычных установак.

Аднэй з асноўных маіх памылак зьявілася адмаўленьне прышкольных майстэрань і зямельных вучасткаў. Я мяркаваў, што прышкольныя майстэрні ў сыстэме буйнай вытворчасьці павінны ўступіць сваё месца навучальна вытворчым цэхам, арганізуемым непасрэдна на прадпрыемстве. Я лічыў магчымым на сучасным этапе ствараць прышкольныя майстэрні толькі там, дзе адсутнічае фабрыка, саўгас ці калгас. У будучым гэтыя майстэрні, як мне здавалася, павінны адмерці. У 1930 г. я пісаў: „Праўда, ад прышкольнай майстэрні мы не адмаўляемся пры пэўных абставінах, дапускаючы яе, як часовае зьявішча, мы ўсё-ж такі павінны ўпэўнена адзначыць, што гэтая майстэрня ня можа даць усяго таго, што неабходна для палітэхнічнай школы“ (Изв. ЦИК СССР ад 13/VIII-30 г.). Тады я не разумеў, што прышкольная майстэрня ў злучэньні з прымацаваньнем школ да заводаў, электрастанцый, МТС, саўгасаў і калгасаў можа быць сродкам паглыбленьня і расшырэньня палітэхнічнай адукацыі. Таму я памылкова імкнуўся замяніць гэтую майстэрню ў сыстэме буйнай вытворчасьці навучальна-вытворчым цэхам. У сваім артыкуле: „Саўгас і калгас як база палітэхнічнага выхаваньня“ я няправільна адзначаў наступнае: „Паколькі школа павінна вывучаць калгас, саўгас у іх непасрэдных асаблівасьцях, гэтыя гаспадаркі павінны прадастаўляць школе усе магчымасьці для правільнай арганізацыі палітэхнічнага выхаваньня. Яны зьяўляюцца свайго роду жыцьцёвымі лябараторыямі, дзе вучні павінны працаваць, дасьледваць, эксперымэнтаваць. Паколькі і саўгас і калгас, параджаючы ўмовы для палітэхнічнай школы, зьяўляюцца ў сваю чаргу непасрэднымі аб'ектамі яе вывучэньня, ства-

[1]) „Кам. Вых.“ № 12 за 1930 г., стар. 42

раць майстэрні і зямельныя вучасткі пры школе цяпер ня трэба і нават шкодна. Замест таго, каб трымаць дзяцей ў асяродзьдзі калектыўнай сапраўднасьці сельска-гаспадарчых рабочых і калгасьнікаў, мы ізалявалі-б іх ад працоўнага жыцьця калгасаў і саўгасаў, калі бы пачалі займацца працоўным выхаваньнем у майстэрнях і прышкольных вучастках“ [1]). Мая трывога наконт таго, што нібы-та майстэрні і зямельныя вучасткі могуць ізаляваць дзяцей ад працоўнага жыцьця саўгасаў і калгасаў нават і пры тых умовах, калі школа прымацавана да буйнай вытворчасьці, зразумела, ня мае ніякай падставы, бо прымацаваньне школы да заводу, саўгасу і калгасу дае магчымасьць якраз увязаць работу вучняў у майстэрнях і на зямельных вучастках, як і ўсё навучаньне ў школе, з работай іх у буйнай вытворчасьці. Гэты матыў мною выдуман для таго, каб апраўдаць лева-апартуністычную ўстаноўку на ліквідацыю майстэрань і зямельных вучасткаў.

Наколькі такая ўстаноўка супярэчыць палітыцы партыі ў галіне школьнага будаўніцтва, гэта відаць хоць-бы з наступнага месца пастановы ЦК аб школе: „Павялічэньне ліку майстэрань, хоць недастатковых па колькасьці і тэхнічна яшчэ слаба абсталяваных, у спалучэньні з правадзімым прымацаваньнем школ да заводаў, саўгасаў, МТС і калгасаў, дазваляе разгортваць яшчэ больш шырока і паскорана палітэхнізацыю школы“.

Я лічу, што майстэрні і зямельныя вучасткі ў злучэньні з буйнай вытворчасьцю не садзейнічаюць палітэхнізацыі школ, тады як ЦК, наадварот, падкрэсьлівае іх значэньне ў справе больш шырокага і паскоранага разгортваньня палітэхнічнай адукацыі. У гэтым і заключалася адна з маіх буйных палітычных памылак. Прапануючы ліквідаваць прышкольныя майстэрні і зямельныя вучасткі, я не разумеў таго, што гэта магло-б прывесьці да падрыву матар'яльна-вытворчай базы школы і разбазарваньня школ па частках, пачынаючы з майстэрань, і фактычна да зрыву яе палітэхнізацыі. Такая ўстаноўка, хоць мне гэта

[1]) „Кам. Вых.“ № 4 за 1930. г, стар. 30

і ня было ясна ў той час, вынікала з тэорыі адміраньня школы. Выказваючыся супроць гэтай тэорыі ў сваіх друкаваных работах, я ў той-жа час яе па некаторых пытаньнях падтрымліваў. Таму мая крытыка ўказанай тэорыі не зьяўлялася бальшавіцкай.

Лёгкадумным пражэкцёрствам зьяўляецца імкненьне ўвесьці ў масавую школу мэтад праектаў, як сыстэму пэдагагічнага працэсу, як асноўны мэтад адукацыйных заняткаў.—Такое разуменьне неправеранага на практыцы мэтаду праектаў вынікае непасрэдна з тэорыі адміраньня школы. Пераводзячы масавую школу на мэтад праектаў, левыя апартуністы спадзяваліся разбурыць школу, урэзаць тэорыю, падпарадкаваць навучаньне практыцы. Мэтад праектаў, разумеемы як асноўны мэтад заняткаў, дае магчымасьць разьвіваць стыхію ў працэсе навучаньня, сарваць школьную праграму, плыць у выкладаньні па хвалях выпадковых інтарэсаў дзяцей, адлюстроўваючы часта буржуазную ці дробнабуржуазную ідэалёгію. Працэс выхаваньня зьвесьці да вузкіх канкрэтных спраў у духу амэрыканскага (буржуазнага) практыцызму, разьвіваць у дзяцей індывідуалізм і нездаровую драпежніцкую канкурэнцыю, якая адпавядае ўмовам капіталістычнага грамадзтва. Рэкамэндуючы мэтад праектаў, як сыстэму пэдагагічнага працэсу, левыя апартуністы імкнуліся перанесьці буржуазныя прыёмы выкладаньня ў нашу савецкую школу. Для таго, каб расчысьціць шлях для ўжываньня мэтаду праектаў у масавым маштабе, каб заваяваць масавае настаўніцтва на бок указанага мэтаду, стварыліся розныя „тэорыі“ і „тэорыйкі“, нібы-та гэты мэтад тоесамы дыялектычнаму матарыялізму, нібы-та ён зьяўляецца марксысцкім, нібы-та ён роўназначны мэтаду сацспаборніцтва, нібы та ўся практычная работа кіруючых органаў нашай партыі і савецкага ўраду разгортваецца толькі па мэтаду праектаў. Такім чынам рэвалюцыйная тэорыя афарбоўваецца ў марксысцкі колер. Адзін з супрацоўнікаў Маскоўскага навукова-дасьледчага інстытуту марксысцка-ленінскай пэдагогікі Б. В. Ігнацьцеў, які праяўляў нямала актыўнасьці

ў лёгкадумным пражэкцёрстве па прапагандзе мэтаду праектаў, настойліва даказваў, „што ўжываньне мэтаду праектаў ня толькі пажадана для нас, але мы кроўна зацікаўлены ў яго ўжываньні ўсюды: гэта дае тое, што павінна адрозьніваць сацыялістычную працу ад працы ва ўмовах капіталістычнага грамадзтва“ [1]). Па Ігнацьцеву выходзіць, што важнейшым крытэрыем адрозьненьня сацыялістычнай працы ад капіталістычнай зьяўляецца ня зьнішчэньне эксплёатацыі, а славуты мэтад праектаў, які, дарэчы сказаць, запазычан з практыкі буржуазнай школы. І гэтыя рэакцыйныя думкі выдаюцца за марксызм. Ігнацьцеў у сваіх развaжаньнях даводзіць да такога абсурду, што прызнае нашу пяцігодку як „вялізарны агульны сацыялістычны праект“. „Мы маем права сказаць,— сьцьвярджае ён,—што пэдагагічная работа па мэтаду праектаў і работа па пяцігодцы гаспадарніка або грамадчыка маюць унутраныя сугуччы, адзіную ўнутраную структуру і адзіны асноўны яго зьмест. Тут, бязумоўна, выходзіць так, што мэтад праектаў як-бы заўважыў, падхапіў для нашай пэдагагічнай работы адбываючыся працэс, які ідзе ў нас, і які мы называем будаўніцтвам па пяцігадоваму пляну“ [2]). Левыя апартуністы пераконаны, што работа па мэтаду праектаў і нашае сацыялістычнае будаўніцтва маюць „унутраныя сугуччы, адзінную ўнутраную структуру і адзін асноўны зьмест“. Калі ўспомніць тыя абставіны, што мэтад праектаў ёсьць прадукт капіталістычных адносін і ўзьнік у буржуазнай школе, то становіцца незразумелым, якім чынам гэты мэтад праектаў можа мець унутранае сугучча, адзіную структуру і адзіны зьмест з сацыялістычным будаўніцтвам па пяцігадоваму пляну. Няўжо буржуазныя пэдагогі, якія аформілі мэтад праектаў, тым самым далі нам у рукі мэтады работы па пяцігодцы? Да такога рэакцыйнага вываду могуць дакаціцца толькі невыправімыя апартуністы.

Недапушчальна таксама ўтаесамляць мэтад праектаў з сацыялістычным спаборніцтвам. Гэта ёсьць рознавіднасьць усё той-жа рэакцыйнай тэорыі з сугуччам мэтаду праектаў і сацыялістычнага будаўніцтва. М.-Д. Осіпцаў піша: „Але калі мы прааналізуем, як фактычна праходзіць сацыялістычнае спаборніцтва, то ўбачым, што сацспаборніцтва зьяўляецца па сутнасьці ўнутраным бокам цэлага раду дзеяньняў, праходзячых па пэўнаму пляну—праекту“ [1]). Аўтар шчыра заяўляе, што сацспаборніцтва зьяўляецца толькі ўнутраным бокам мэтаду праектаў, г. зн., мэтад праектаў падпарадкуе сабе сацыялістычнае спаборніцтва, якое нібы-та знаходзіць ва ўказаным мэтадзе „сілу, здольную так арганізаваць працэс працы, каб ён быў крыніцай разьвіцьця“. Далей Осіпцаў некалькі разоў паўтарае сваю думку. „Часам у рабоце школы,—піша ён,—сацспаборніцтва, як такавое, можа быць праектам“. Такое ж утаесамленьне мэтаду праектаў з сацыялістычным спаборніцтвам мы знаходзім і ў Дардака: „Мэтад сацыялістычнага спаборніцтва, як асноўны мэтад выхаваньня, праекты павінны стаць тым стрыжнем у навучальнай рабоце, які будзе накіроўваць увагу і актыўнасьць дзяцей на ўдзел у сацыялістычным будаўніцтве“ [2]). Гэтая апошняя фармулёўка папала ў брашуру: „Рабочы пакой і як яго арганізаваць“, выданую Навукова-дасьледчым Інстытутам камуністычнага выхаваньня БССР, якім я кірую. На жаль, лева апартуністычная сутнасьць гэтай фармулёўкі мною ня была выкрыта своечасова. Аўтары, утаесамляючыя сацыялістычнае спаборніцтва з мэтадам праектаў натуральна прыходзяць да чудовішчнага сьцьверджаньня, нібыта сацыялістычнае спаборніцтва можа супадаць з капіталістычнай канкурэнцыяй. „Там, дзе сацспаборніцтва становіцца самамэтай,—піша Осіпцаў, яно лёгка ператвараецца ў канкурэнцыю“ [3]). У другім месцы той-жа аўтар заяўляе: „Пры сацыялістычным спаборніцтве новым момантам, момантам надзвычай важным ва ўсіх гэтых зьявах зьяўляецца жывая эмоцыянальная

[1]) Пад рэд. Ігнацьцева: „На путях к методу проектов“, сборн. 4, стр. 39.
[2]) Там-жа, стр. 32-33.

[1]) Там-жа стар. 84
[2]) „Кам. вых.“ № 12 за 1930 г., стар. 43
[3]) „На путях к методу проектов“, сб. 4, стр. 85

рэакцыя на ўвесь працэс—рэакцыя сацспаборніцтва. Гэта рэакцыя, якую ў буржуазным грамадзтве, школе культывуюць як пачуцьцё канкурэнцыі і сапернітва, у нашых умовах атрымлівае характар яркай сацыяльнай эмоцыі, паколькі мэта работы ня толькі індывідуальная, а адначасова шырока-грамадзкая“ [1]. Осіпцаў думае, што важнейшым момантам сацспаборніцтва зьяўляецца не яго грамадзкая значымасьць, а псыхалёгічная функцыя—рэакцыя спаборніцтва і што нібы-та гэтая-ж рэакцыя спаборніцтва ёсьць і ў капіталістычнай канкурэнцыі. Розьніца між сацыялістычным спаборніцтвам і капіталістычнай канкурэнцыяй, як сьцьвярджае Осіпцаў, толькі тая, што ў першым выпадку рэакцыя спаборніцтва ў нашых умовах набывае характар „яркай сацыяльнай эмоцыі,“ паколькі тут „мэта работы ня толькі індывідуальная, а адначасова шырока грамадзкая“. Такім чынам, сацыялістычнае спаборніцтва, па думцы Осіпцава зводзіцца да псыхалёгічнага моманту—рэакцыя спаборніцтва, якая, дарэчы сказаць, выдумана ўказаным аўтарам, бо яшчэ навука аб паводзінах чалавека гэтай рэакцыі ня ведае. А выдумана яна Осіпцавым для таго, каб абгрунтаваць рэакцыйную тэорыю сувязі сацыялістычнага спаборніцтва з капіталістычнай канкурэнцыяй. Пралетарская сутнасьць сацыялістычнага спаборніцтва тут упарта ігнаруецца левымі апартуністамі.

Осіпцаў бачыць выхаваўчую ролю сацспаборніцтва толькі ў тым выпадку, калі гэтае спаборніцтва заключаецца ў мэтадзе праектаў.

Ленін гаворыць зусім іншае: „Сацыялізм,—чытаем мы ў яго,—ня толькі не ўгашае спаборніцтва, а, наадварот, упяршыню стварае магчымасьць ужыць яго сапраўды шырока, сапраўды ў масавым разьмеры, уцягнуць сапраўды большасьць працоўных на арэну такой работы, дзе яны могуць праявіць сябе, разгарнуць свае здольнасьці, выявіць таленты, якіх у народзе непачатая крыніца і якіх капіталізм мяў, цісну́ў, душыў тысячамі“. Ня мэтад праектаў абумоўлівае магчымасьць выхаваньня мас пры дапамозе спаборніцтва, як гэта сьцьвярджае Осіпцаў, а сацыялізм стварае прадпасылкі для шырокага ўжываньня спаборніцтва шляхам уцягваньня працоўных мас на арэну такой работы, дзе яны могуць праявіць і разьвіць свае здольнасьці. Осіпцаў вырашае праблему ідэалістычна, зводзячы сацспаборніцтва да псыхалёгіі, і падпарадкуючы яго буржуазнаму мэтаду праектаў. Ён не разумее таго, што сацыялістычнае спаборніцтва ўзьнікае на аснове сацыялістычных адносін. Аб тым, якая розьніца існуе між сацыялістычным спаборніцтвам і канкурэнцыяй, выразна ўказвае т. Сталін: „Прынцып канкурэнцыі — паражэньне, сьмерць адных, перамога і панаваньне другіх. Прынцып сацыялістычнага спаборніцтва—таварыская дапамога адстаўшым з боку перадавых для таго, каб дабіцца агульнага ўздыму. Канкурэнцыя гаворыць: дабівай адстаўшых, каб уцьвярдзіць сваё панаваньне. Сацыялістычнае спаборніцтва гаворыць: адзін працуе дрэнна, другі добра, трэці лепш,— даганяй лепшых, дабіся агульнага ўздыму. Гэтым, уласна, і абясьняецца той нябывалы вытворчы энтузыязм, які ахапіў мільёны мас працоўных у рэзультаце сацыялістычнага спаборніцтва. Няма чаго і казаць, што канкурэнцыя ніколі ня можа выклікаць што-небудзь падобнае на такі энтузыязм мас. Левыя апартуністы не разумеюць пралетарскай прыроды сацыялістычнага спаборніцтва.

Сярод прыхільнікаў тэорыі адміраньня школы знаходзяцца і такія людзі, якія ўтае самляюць мэтад праектаў з мэтадам дыялектычнага матарыялізму. Асабліва ясна такая ўстаноўка выступае ў артыкуле т. І. Барабанава „Аб мэтадзе праектаў“. Апошні піша, што „марксыцкі праект“ зьяўляецца пэдагагічнай канкрэтызацыяй дыялектычнага мэтаду дапасавальна да выхаваўча-адукацыйнай практыкі з усімі вынікаючымі адсюль прызнакамі“ [1]. Іншымі словамі, мэтад праектаў тут разглядаецца як дыялектычны матарыялізм, праломлены праз пэдагагічную практыку“. „Наш савецкі мэтад праектаў,—сьцьвярджае т. Барабанаў,—спалучае дыялек-

---

[1]) „На путях к методу проектов“, стр. 84

[1]) „На путях к методу проектов„ сб. № 4, стр. 78.

тычныя пазнаньні сьвету з працэсам рэвалюцыйнай яго перабудовы, мы кожны крок свайго навучаньня пры дапамозе яго можам зьвязваць з грамадзкай працай. Праект ёсьць пэўны выхавачы адукацыйны працэс, які дыялектычна разьвіваецца і дапамагае на практыцы, бяз веданьня тэорыі і тэрмінаў дыялектыкі, дыялектычна паступаць, працаваць і ўдзельнічаць у будаўніцтве. Праект у найбольшай ступені забясьпечнае сувязь тэорыі з практыкай“ [1]). Барабанаў пераконан, што савецкі мэтад праектаў спалучае дыялектычныя пазнаньні сьвету з працэсам рэвалюцыйнай яго перабудовы. Пад савецкім мэтадам праектаў указаны аўтар разумее той мэтад, які рэкамэндуюць і імкнуцца правесьці ў жыцьцё левыя апартуністы. Але гэты мэтад па сваёй сутнасьці ня можа спалучаць дыялектычныя пазнаньні сьвету з рэвалюцыйнай яго перабудовай, ня можа забясьпечваць сувязь тэорыі з практыкай па тэй простай прычыне, што тут тэорыя скарачаецца або зусім выкідаецца за борт, і што выхаваўчы працэс зводзіцца да практычных канкрэтных спраў. Сам Барабанаў, ня гледзячы на яго спробу завуаліраваць буржуазную сутнасьць мэтаду праектаў, прагаварвае няпрыкметна для сябе тую праўду, што праект ёсьць выхаваўчаадукацыйны працэс, які арыентуе вучня працаваць і ўдзельнічаць у будаўніцтве „бяз веданьня тэорыі і тэрмінаў дыялетыкі“. А мы ведаем, што без рэвалюцыйнай тэорыі нельга займацца рэвалюцыйнай перабудовай сьвету. Заяўленьне Барабанава, нібы-та мэтад праектаў спалучае дыялектычнае пазнаньне сьвету з рэвалюцыйнай практыкай, ёсьць толькі агітацыйны манэўр левага апартуніста, які спрабуе працягнуць у нашу літаратуру буржуазны хлам пад пакрываламархі-рэвалюцыйных прац. Бо мэтад праектаў, рэкамэндуемы як асноўны мэтад заняткаў, зьнішчае магчымасьць аўладаньня сыстэматычнымі тэорытычнымі ведамі, а значыць зьнішчае магчымасьць дыялектычнага пазнаньня сьвету.

[1]) На путях к методу проектов, стр. 79-80.

Тут я павінен рашуча асудзіць і сваю памылку адносна мэтаду праектаў. За ўвесь час маёй пэдагагічнай работы я напісаў толькі адзін артыкул аб указаным мэтадзе ў ліпені 1931 г., г. зн. амаль напярэдадні апублікаваньня пастановы ЦК аб школе (5 верасьня) і ў гэтым артыкуле я характарызую мэтад праектаў як найлепшы мэтад сувязі тэорыі з практыкай, як асноўны мэтад заняткаў, як сыстэму пэдагагічнага працэсу. „Найлепшым мэтадам сувязі тэорыі і практыкі ў працэсе выхаваньня зьяўляецца мэтад праектаў,—пішу я ва ўказаным артыкуле:—Апошні дае магчымасьць ажыцьцёвіць важнейшы прынцып камуністычнага выхаваньня,—разгортваць школьную навучальную работу на аснове ўдзелу вучняў у клясавай барацьбе пралетарыяту і ў сацыялістычным спаборніцтве“ [1]). І далей я падкрэсьліваю, нібы-та камуністычнае сазнаньне можна разьвіваць толькі праз рэвалюцыйную практыку, а рэвалюцыйная тэорыя мною тут забываецца. Ва ўказанай фармулёўцы я па сутнасьці далучаюся да паўзучага эмпірызму Шульгіна і Крупенінай. Праўда, яшчэ ў той час я смутна сазнаваў, што мэтад праектаў сурёзна б'е па тэарытычных ведах. Тады я пісаў: „...бываюць выпадкі, калі навучаньне ня можа разгортвацца па мэтаду праектаў, напрыклад, большай часткай вывучэньня гісторыі, дыялектычнага матэрыялізму, ленінізму і г. д. Прыходзіцца часта вывучаць такія тэарытычныя праблемы, якія ніяк ня могуць быць зьвязаны з практычнай работай. Калі-б мы выкінулі з навучальнага пляну ўсё, што не зьвязваецца з практыкай вучняў, мы сталі-б на рэакцыйны шлях выхалашчваньня камуністычнага выхаваньня, на шлях адмаўленьня важнейшых праблем марксызму і ленінізму. Гэта было-б вялікай палітычнай памылкай. Значыць, у школе заўсёды будуць такія праблемы, якія можна прапрацоўваць толькі тэарытычна“ [2]). І яшчэ да пастановы ЦК аб школе я смутна разумеў, што нельга выкладаньне ў школе перавесьці цалкам на мэтад праектаў.

[1]) „Кам. Вых.“, № 5 за 1931 г., стар. 17.
[2]) Там-жа стар. 24.

што нельга распаўсюджваць указаны мэтад у масавым маштабе, бо гэта значыць пераход на рэакцыйны шлях выхаляшчваньня камуністычнага выхаваньня, на шлях адмаўленьня важнейшых праблем марксызму-ленінізму. Аднак, разам з тым я прапагандаваў мэтад праектаў як найлепшы спосаб сувязі тэорыі і практыкі і як сыстэму пэдагагічнага працэсу. Тут я, блытаючыся ў супярэчнасьцях, дапусьціў сур'ёзную палітычнутю памылку.

Левыя апартуністы рэкамэндуюць мэтад праектаў, як унівэрсальны мэтад, які ўжываецца пры падрыхтоўцы ўсякага роду кадраў, патрэбных для будаўніцтва ў працэсе самай работы. Ігнацьцёў бачыць перавагу гэтага мэтаду ў тым, што ён, будучы ўведзен у прадпрыемства-школу, зьнішчае сыстэматычнае выкладаньне навучальных дысцыплін і ўстанаўлівае пасьлядоўнасьць сыстэмы праэктаў на аснове прамфінпляну данай вытворчасьці. Такая пасьлядоўнасьць няўнікнёна вядзе да адмаўленьня сыстэматычнага і грунтоўнага ўсваеньня навук. Пастанова ЦК аб школе, якраз наадварот падкрэсьлівае, што „усякая спроба адарваць палітэхнізацыю школы ад сыстэматычнага і грунтоўнага засваеньня навук, асабліва фізыкі, хэміі і матэматыкі, выкладаньне якіх павінна быць пастаўлена на аснове строга вызначаных і старанна распрацаваных праграм, навучальных плянаў і праводзіцца па строга ўстаноўленых раскладах, прадстаўляе сабой грубейшае скажэньне ідэі палітэхнічнай школы“. Такім грубейшым скажэньнем ідэі палітэхнічнай школы і зьяўляецца мэтад праектаў, які ўжываецца як асноўны мэтад, бо ён у такім выпадку накіраван супроць сыстематычнага і грунтоўнага засваеньня навук, супроць усебаковага разьвіцьця вучняў.

Мы паказалі, якім чынам Шульгін і яго аднадумцы выдумваюць усякія сродкі для ліквідацыі палітэхнічнай школы. Тут яны адкрыта выступаюць супроць партыйнай лініі ў галіне школьнага будаўніцтва. Але можа быць яны, змагаючыся супроць школы, усё-ж такі адстайваюць прынцып палітэхнічнай адукацыі? Гэты прынцып указан у праграме нашай партыі і таму сугуба важна ўстанавіць адносіны Шульгіна да палітэхнічнай адукацыі. Шульгін разумее пад палітэхнізмам не тое, што ўкладвалі Маркс, Энгельс і Ленін у гэта паняцьце. У Маркса мы чытаем, што палітэхнічная адукацыя знаёміць вучняў з „агульнымі навуковымі прынцыпамі ўсіх вытворчых працэсаў і ў той-жа час дае дзіцяці і падлетку практычныя навыкі ўабыходжаньні з элемэнтарнымі інструмантамі ўсіх вытворчасьцяй.“ Тут палітэхнізм не зводзіцца толькі да вопыту, да практыкі, да набыцьця навыкаў, але і ўключае ў сябе, як важнейшы момант, тэорэтычнае значэньне агульных навуковых прынцыпаў ўсіх вытворчых працэсаў. Праграма партыі падкрэсьлівае асаблівасьць палітэхнічнай адукацыі ў тым, што гэта адукацыя знаёміць „у тэорыі і на практыцы з усімі галоўнымі галінамі вытворчасьці“. Ленін патрабуе расшырыць у прафтэхшколах выкладаньне агульнаадукацыйныхдысцыплін і змагацца супроць ранньяй спэцыялізацыі. Зусім інакш падыходзіць да гэтага пытаньня Шульгін. Ён зводзіць палітэхнічную адукацыю да вопыту. Пастанова ЦК аб школе патрабуе злучыць прадукцыйную працу дзяцей з адукацыяй на тэй падставе, каб гэта праца была падпарадкавана навучальна-выхаваўчым задачам школы. Шульгін, як указана вышэй, робіць наадварот: навучальна-выхаваўчы працэс у школе ён падпарадкуе грамадзкакарыснай рабоце і прадукцыйнай працы вучняў. Імення гэты сэнс і заключае ў сабе формула Шульгіна: „вучыцца на аснове вопыту, на аснове працы, барацьбы і будаўніцтва“.

Працытаваўшы Маркса аб палітэхнічнай адукацыі ў тым месцы, дзе больш выразна падкрэсьліваецца неабходнасьць злучэньня тэорыі і практыкі, Шульгін тут-жа спрабуе сказіць ленінскае разуменьне палітэхнізму, трактуючы палітэхнічную адукацыю у тэрмінах грубапаўзучага эмпірызму. „Гэта і ёсьць палітэхнічная школа,—пераконвае ён чытача,—яна вучыць на вопыце, ля працэсу работы, у сувязі з ёй“ [1]). А дзе-ж тэорыя? Хоць у Маркса яна падкрэсьлена,

[1]) „В борьбе за марксистскую педагогику стр. 48.

Шульгін тут-жа выкідвае яе за борт, падсоўваючы свае апартуністычныя думкі, нібы-та палітэхнічная школа вучыць толькі на вопыце. Марксысцка-ленінскую формулу „злучэньне адукацыі з практыкай“ ён замяняе сваёй формулай—„разьвіцьцё адукацыі на аснове практыкі“, Ён піша: „упяршыню цяпер мы можам, павінны пачаць выхоўваць рабят на аснове сельска-гаспадарчай і фабрычна-заводзкай працы“ [1]). У працэсе працы разнастайнай, тэхнічна калі і недасканалай, то і не адсталай„ сучаснай,—працягва- Шульгін, – расьце новы чалавек і ў сувязі з ёй, у працэсе яе атрымлівае веды. Праца зьвязвае яго з цэлым сьветам, з сучаснасьцю і мінулым. Ён дапамагае выкаваць ідэолёгію. І замест рэлігіі, урокаў маралі, гісторыі гэрояў сярэдніх вякоў, запыленых, спарахцелых кніг, высоўваецца, расьце, захапляе новыя сотні тысяч, новыя мільёны дзяцей піянэр-рух. І тут вучоба, ў працэсе барацьбы, у працэсе будаўніцтва [2]). Зразумела, праца мае вялікае значэньне ў гістарычным працэсе. Але ня ў гэтым справа. Шульгін імкнецца тут унушыць чытачу, што выхаваньне павінна разгортвацца на аснове працы, барацьбы і будаўніцтва, на аснове падпарадкаваньня працэсу набыцьця ведаў грамадзка-палітычнай рабоце і прадукцыйнай працы вучняў. Шульгін лічыць, што „характэрным прызнакам палітэхнічнага выхаваньня зьяўляецца знаёмства з асноўнымі прынцынамі ўсіх вытворчых працэсаў, грунтоўная работа ў радзе вытворчасьцяй, работа, якая дае магчымасьць атрымаць рад практычных навыкаў“. Ітак, палітэхнічнае выхаваньне па Шульгіну ёсьць толькі грунтоўная работа ў радзе вытворчасьцяй, якая дае магчымасьць атрымаць рад практычных навыкаў“. Палітэхнічная школа дае ня веды і навыкі, а толькі навыкі бяз ведаў. Палітэхнічнае выхаваньне ёсьць толькі практыка. А практыка ёсьць стіхійны працэс. Палітэхнічнае выхаваньне есьць стыхійнае выхаваньне, і палітэхнічная школа ёсьць выражэньне гэтага стыхійнага працэсу. Такі замкнуты круг лёгічных разважаньняў Шульгіна. „Палітэхнічная школа родзіцца на фабрыцы,—указвае ён,— і недасужыя фантазіі і вымыслы яе параджаюць, а патрабаваньні вытворчасьці; яна бязумоўна працяг неарганізаванага выхаваўчага працэсу“ [1])“. Палітэхнічная школа, народжаная на фабрыцы, ёсьць бязумоўна працяг неарганізаванага выхаваўчага працэсу.

„Выходзіць па Шульгіну, што і фабрыка ёсьць выражэньне стыхійнага працэсу. І гэтаму стыхійнаму працэсу, як думаюць „левыя“, павінна быць падпарадкавана адукацыя. Зьдзекваючыся над настаўнікамі школы, Шульгін паграджаюча, як піфія, працягвае: „і школьных каўпакоў (настаўнікаў—*П.П.*) выцягнуць піянэрчыкі школы і іх прымусяць вучыцца і вучыць на аснове барацьбы і будаўніцтва і падпарадкаваць сваю вучобу, свой распарадак не пакою кніг, а жыцьцёвай барацьбе“ [2]), Выходзячы з свайго славутага прынцыпу падпарадкаваньня вучобы жыцьцёвай барацьбе, або, дакладней сказаць, „падпарадкаваньне вучобы стыхіі“, Шульгін прыходзіць да дзікага сьцьверджаньня, нібы-та ня трэба выкладаць дзецям палітграмату, паколькі яны набываюць палітычныя веды на аснове вопыту. „І за гэта нам помстуе практыка, вопыт“—гаворыць шульгінская піфія аб бядзе для тых, хто не прызнае стыхійнага выхаваньня. Гэта так ясна. Вопыт рабят вялікі, выхаваўчы ўплыў неарганізаванага працэсу ўстойлівы, і прыходзяць рабяты ў школу ня толькі з радам разрозьненых навыкаў, ведаў, але і ацэнак, суджэньняў, з зачаткамі палітычных праграм. І іх пряцягвае жывіць, песьціць, разьвіваць, паглыбляць, падмацоўваць фактамі гэты „неорганізаваны працэс“, а мы гэта ігнаруем, не адгукаемся на тое, а „сыстэматычна плянамерна і доўга“ паведамляем палітграмату. І астаецца часта палітграмата—палітграматай, а жыцьцё жыцьцём“ [3]). Правільна тое, што нельга выкладаць палітграмату, ня зьвязваючы яе з клясавай барацьбой пралетарыяту. Гэта зьяўляецца аксыомай марксысцка-

[1]) „В борьбе за марксистскую педагогику“ стр. 47.
[2]) Там-жа стар. 49—50

[1]) Там-жа стр. 45—46.
[2]) Там-жа стр. 53 (курсіў наш—*П.П.*)
[3]) Там-жа, стр. 44.

ленінскай пэдагогікі. Але Шульгін тут гаворыць не аб гэтай аксыёме, і не за яе, а супроць яе. Ён патрабуе адмовіцца ад выкладаньня палітграматы ў імя выхаваньня на аснове вопыту. І паколькі сам-жа Шульгін падкрэсьлівае, што дзеці прыходзяць у школу з пэўнымі ацэнкамі і зачаткамі палітычных праграм, накопленых у працэсе ўласнага практычнага вопыту, часта буржуазнага ці дробна-буржуазнага характару, пастолькі ўказаны аўтар, змагаючыся за прынцып выхаваньня на аснове вопыту і адмаўляючы палітграмату, ня толькі не змагаецца супраць буржуазнай ідэолёгіі, а фактычна ўжывае ўсе сілы для таго, каб падпарадкаваць вучняў гэтай буржуазнай ідэолёгіі. У гэтым іменна і заключаецца шульгінскае разуменьне палітэхнічнай адукацыі. Зводзячы апошнюю да практыкі, левыя апартуністы тут падаюць руку правым, якія часта разумеюць палітэхнізм, як голы „тэхніцызм“ або „тэхнолёгізм“, якія, як і левыя, адмаўляюць неабходнасьць вывучэньня марксысцка-ленінскай тэорыі ў працэсе палітэхнічнай адукацыі і якія часта падмяняюць палітэхнізм буржуазным прафэсіяналізмам.

Цяпер ужо можна падвесьці ітогі. Шульгін і яго аднадумцы змагаюцца супроць палітэхнічнай школы і, маскіруючыся барацьбой за палітэхнічнае выхаваньне мас, імкнуцца ўстанавіць у нашых ўмовах уплыў буржуазнай ідэолёгіі пры дапамозе прапаганды стыхійнага выхаваньня і шляхам падтрыманьня прынцыпу буржуазнага прафэсыяналізму. На крытыцы поглядаў Ваганяна мы спынімся асобна.

(*Працяг будзе*)

**М. Кузьняцоў.**

# Аб становішчы і якасьці выкладаньня грамадазнаўчых дысцыплін у ВНУ і тэхнікумах

**Па-новаму працаваць, па-новаму кіраваць.**
СТАЛІН.

**Роля выкладчыка-выхаваўца вялікая. Мы павінны па бальшавіцку змагацца за павышэньне якасьці нашай вучобы.**
КАГАНОВІЧ.

## I.

Задача выхаваньня бальшавіцкіх кадраў, тэхнічна добра падрыхтаваных і узброеных марксысцка-ленінскай ідэолёгіяй, ставіцца нашай партыяй, як адна з важнейшых задач, ад выкананьня якой залежаць посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва. Змагаючыся на два франты супроць правага апартунізму, як галоўнай небясьпекі на даным этапе і „левага“ апартунізму, а таксама розных відаў прымірэнцтва да іх, партыя штодзённа дабіваецца ўсё новых і новых посьпехаў на ўсіх франтох вялікай будоўлі, у тым ліку і на фронце падрыхтоўкі кадраў. Працэс сацыялістычнага будаўніцтва патрабуе, аднак, ад яго сапраўных тварцоў ня толькі добра тэхнічнай, прафэсыйнай, але і ідэолёгічнай ўзброенасьці: ён прад'яўляе спрос на сьвядомага і актыўнага будаўніка сацыялізму самаадданага барацьбіта за бесклясавую грамаду ВНУ і тэхнікумы, гэтыя кузьні сацыялістычных кадраў, павінны даць менавіта такога тыпу будаўнікоў-барацьбітоў. Аднэй з рознастайнасьцяй апартунізму будзе тая думка, што ўзброеньне спэцыяльнымі ведамі ў тэй ці іншай ступені перашкаджае ідэолёгічнаму ўзбраеньню вучняў. Але апартунізм звычайна супрацьстаўляе працэс тэхнічнай ўзброенасьці працэсу ідэолёгічнай ўзброенасьці. Апошні, па думцы апартуністых, ёсьць асобны працэс, сродкі якога марксысцка-ленінскія гурткі і грамадазнаўчыя дысцыпліны, у той час як, сродкі першага—сапраўдныя, дакладныя прыкладныя „чыстыя“ навукі. Гэтыя два працэсы шкодзяць адзін аднаму,

узмацненьне аднаго вядзе да паслабленьня другога, і наадварот, відавочна, што палітыка з гэтага пункту гледжаньня адно, а навука—другое.

Выкрываючы гэты антыленінскі погляд марксызм-ленінізм патрабуе партыйнасьці ў навуцы. Падкрэсьліваючы кіруючую ролю грамадазнаўчых дысцыплін у справе ідэолёгічнай ўзброенасьці мас, лічачы, што наогул навукі вольнай ад палітыкі, „чыстай“ навукі няма, марксызм-ленінізм разглядае ўвесь вучэбны працэс як цэльны адзіны працэс падрыхтоўкі ня проста кадраў, а бальшавіцкіх кадраў, сапраўдных, сьвядомых і актыўных удзельнікаў сацыялістычнага будаўніцтва. Партыйнасьць навукі—галоўнае запатрабаваньне да вучэбнага працэсу ў падрыхтоўцы кадраў нашай партыі. Ліст т. Сталіна ў рэд. часопісу „Пролетарская революция“, які нанёс руйнуючы ўдар па контррэвалюцыйным трацкізьме і трацкісцкай кантрабандзе, з усёй яскравасьцю паставіў асабліва жорстка пытаньне аб партыйнасьці навукі, ленінскай ваяўнічасьці, бальшавіцкай прынцыповасьці і няпрымірымасьці да ўсіх скажэньняў, у якіх-бы-та галінах навукі яны ні праяўляліся. Таму арганізацыя вучэбнага працэсу з пункту гледжаньня задач, пастаўленых т. Сталіным і ўсёй партыяй—барацьба за партыйнасьць навукі, набывае ў справе падрыхтоўкі кадраў для сацыялістычнага будаўніцтва першачарговае значэньне.

Ясна, што вядучую ролю ў справе ідэолёгічнай ўзброенасьці як студэнцкіх мас, так і партыйнай вытрыманасьці ўсяго вучэбнага працэсу займаюць цыкль грамадзка-палітычных дысцыплін.

Як пастаўлена справа выкладаньня грамадзка-палітычных дысцыплін у ВНУ і тэхнікумах, і як апошнія ўплываюць на ўвесь вучэбны працэс, як яны дапамагаюць каваць бальшавіцкія кадры чырвоных спэцыялістых,—вось асноўнае пытаньне, на якое павінен быць дадзен адказ.

Надаючы вялікую ўвагу справе пастаноўкі выкладаньня грамадазнаўчых дысцыплін у ВНУ і тэхнікумах, Культпроп ЦК КП(б)Б на працягу сакавіка месяца г/г. арганізаваў і правёў праверку іх становішча. Апошняя рабілася спэцыяльна вылучанымі для гэтай мэты брыгадамі навуковых працаўнікоў і асьпірантаў-камуністых. Правяралася ўся работа ВНУ і тэхнікумаў у галіне пастаноўкі выкладаньня грамадазнаўчых дысцыплін. Было абсьледвана становішча выкладаньня наступных дысцыплін: ленінізму, гісторыі Усе КП(б) і Камінтэрну, гісторыі клясавай барацьбы, палітэканоміі, дыялектычнага матар'ялізму, гісторыі БССР, тэорыі сав. гаспадаркі, шэрагу прававых і сацэканамічных дысцыплін(агульная тэорыя права), эканомікі сацпрамысловасьці і інш.

Для правільнай характарыстыкі становішча выкладаньня грамадазнаўчых дысцыплін неабходна падзяліць усю работу, праводзімую ў гэтай галіне, як ВНУ, тэхнікумамі, НКА, так і навуковымі працаўнікамі гэтых дысцыцлін на два пэрыяды: 1) пачатак вучэбнага году верасень-студзень, які адносіцца да абгарэньня ліста т. Сталіна і мерапрыемстваў, зробленых у сувязі з апошнім і 2) пэрыяд студзень красавік, сярэдзіна, вуч. году, які пачынаецца пасьля абгаварэньня ліста т. Сталіна і тых мерапрыемстваў, якія былі зроблены на падставе абгаварэньня гэтага ліста.

## II

Становішча грамадазнаўчых дысцыплін да абганарэньня ліста т. Сталіна, якое ў ВНУ і тэхнікумах БССР пачалося са значным спазьненьнем (у студзені 1932 г.), было зусім не на належнай вышыні.

Спачатку вучэбнага году ня былі забясьпечаны дастатковыя бальшавіцкія тэмпы ў рабоце катэдр, ня былі своечасова падрыхтаваны і абгавораны праграмы грамадазнаўчых дысцыплін, якія пачалі прадстаўляцца са значным спазьненьнем у большасьці к студзеню 1932 г. (у многіх выпадках ужо тады, калі выкладчыкамі былі прачытаны адпаведныя курсы). Таму кантроль за выкладаньнем быў не наладжаны, масы студэнцтва ў абгаварэньні праграм і нават навучальных плянаў, як правіла, ня прымалі ніякага ўдзелу. Становішча было значна пагоршанае тым, што з боку адпаведных кіруючых асьветай аргані-

зацый: НКА і аддзеламі кадраў адпаведных устаноў ня было дадзена ніякіх паказаньняў да пабудовы праграм у адпаведнасьці з патрабаваньнямі партыі. Дзяржаўны вучоны савет пры НКА знаходзіўся яшчэ ў стадыі арганізацыі і не пасьпеў разгарнуць сваю працу.

Арганізаваныя пры адпаведных наркаматах аддзелы кадраў, у веданьне якіх паступіла шэраг ВНУ і тэхнікумаў, працавалі надта слаба, амаль зусім не кіравалі работай гэтых устаноў. Ніякай сур'ёзнай увагі наркаматамі да працы гэтых аддзелаў ня было зьвернута, як правіла, яна лічылася другараднай. З прычыны такіх адносін гэтыя аддзелы ня былі ўкамплектаваны з самага пачатку моцнымі працаўнікамі, здольнымі кіраваць паступіўшымі ў іх распараджэньне ВНУ і тэхнікумамі. Тымчасам сувязі з апошнімі дыскусіямі на тэорытычных франтох (гісторыі, філёзофіі, палітэканоміі, літаратуры і г. д.) шмат якія праграмныя матар'ялы устарэлі і аказаліся ня толькі няпрыгоднымі для скарыстаньня іх у працэсе выкладаньня, але і шкоднымі. Іх патрэбна было замяніць іншымі, але гэтага зроблена ня было, што паставіла пад пагрозу ідэолёгічную вытрыманасьць амаль усіх курсаў грамадзнаўчых дысцыплін.

Праграмныя матар'ялы, якія былі ў карыстаньні да гэтага пэрыяду, аказаліся няпрыгоднымі і былі забаронены, а новыя, адпавядаючыя ідэолёгічным запатрабаваньням, яшчэ ня былі распрацаваны. Гэта паставіла выкладаньне ўсіх грамадзнаўчых дысцыплін у ВНУ і тэхнікумах у поўную залежнасьць ад навуковай кваліфікацыі і ідэолёгічнай вытрыманасьці навуковых працаўнікоў. Пры гэтым становішчы, калі нават дапусьціць, што выкладчыцкі склад гэтых дысцыплін быў зусім здавальняючы як з боку яго навуковай кваліфікацыі, так і ідэолёгічнай вытрыманасьці, то і тады памылкі нямінучы, паколькі ўся праца пакінута на самацёк. Калі-ж і пры такім становішчы мы ня мелі сыстэмы значных ідэолёгічных скажэньняў у справе выкладаньня грамадзнаўчых дысцыплін, а толькі шэраг паасобных буйнейшых памылак, то гэта таму, што ў большасьці, як правіла, яны забясьпечаны выкладчыкамі камуністымі, ці палітычна і ідэолёгічна блізкімі да нас асобнымі таварышамі беспартыйнымі.

Ва ўсякім разе відавочна, што на ўсім гэтым пэрыядзе ляжыць пячатка недастатковых тэмпаў працы і яе самацёку, вынікам чаго зьявілася шэраг праяў гнілога лібэралізму ў працы, прытупленьне клясавай пільнасьці, ваяўнічай бальшавіцкай няпрымірымасьці да ідэолёгічных скажэньняў, недастатковага асьвятленьня у выкладаньні барацьбы партыі на два франты з правым і „левым“ апартунізмам і прымірэнцтвам да іх, якія былі выкрыты ў час абгаварэньня ліста т. Сталіна у ВНУ і тэхнікумах.

Другі пэрыяд працы, па наладжваньні пастаноўкі выкладаньня грамадзкіх дысцыплін, пачынаецца, прыкладна, са студзеня месяца 1932 г. і знаходзіцца ў непасрэднай сувязі з абгаварэньнем ліста т. Сталіна і прыняцьцем шэрагу мерапрыемстваў да выпраўленьня памылак, дапушчаных у працы мінулага пэрыяду. Як з боку НКА, дырэктароў ВНУ, так і з боку навуковых працаўнікоў, партыйных і студэнцкіх прафарганізацый прымаецца шэраг мерапрыемстваў да павышэньня тэмпаў работы, зьнішчэньня фактаў гнілога лібэралізму ў выкладаньні, пасьлядоўнага правядзеньня лініі барацьбы на два франты, перабудовы, на падставе ліста т. Сталіна, ўсёй працы па выкладаньню, складаньне праграм, кантролюза выкладаньнем, з боку катэдр, партыйных і студэнцкіх прафарганізацый і г. д.

Амаль усе праграмы ў вузах і тэхнікумах праглядаюцца і выпраўляюцца ў адпаведнасьці з указаньнямі ліста т. Сталіна.

Дзяржаўны вучоны савет Наркамасьветы, работа якога ў гэты час пачала разгортвацца, забараніў ўжываньне шэрагу праграм, як выданых вучэбна мэтадычным сэктарам НКА РСФСР так і ранейшым навукова-мэтадалёгічным камітэтам НКА БССР. Вядзецца праца па складаньні новых праграм, зьвязаўшыхся для гэтай мэты з шэрагам навуковадасьледчых інстытутаў БАН (філёзофіі, экономікі) і арганізаваўшы асобныя брыгады выкладчыкаў. Аднначасова ім (ДВС) таксама была распачата праца па

абсьледваньні станоўішча вучэбнага працэсу вузаў і тэхнікумаў, выдадзены праект ліста аб лябараторна-брыгадным мэтадзе занятак, распрацавана палажэньне аб працы катэдр і інш. Але паколькі гэтая праца пачалася фактычна толькі са студзеня, у час разгару вучэбнага году, яе вынікі яшчэ дастаткова не адбіліся ў працы ВНУ і тэхнікумаў. Важнейшае пытаньне, складаньне праграм, яшчэ не закончана і патрабуе ўзмацненьня тэмпаў працы па іх складаньні і давядзеньні да ВНУ і тэхнікумаў. Да гэтага часу выкладаньне шэрагу грамадазнаўчых дысцыплін вядзецца па найбольш адпавядаючых праграмах, выданых Культпропам ЦК УсеКП(б) (дыямат, палітэканомія, ленінізм і інш.) з пэўнымі дадаткамі да іх і зьменамі ў сувязі з указаньнямі ліста т. Сталіна. Але паколькі гэтыя праграмы не ахапляюць усіх грамадазнаўчых дысцыплін, то па гэтых дысцыплінах праграмы распрацоўваюца звычайна выкладчыкамі і зацьвярджаюцца адпаведнымі катэдрамі. Стандартныя праграмы, выданьня Культпропу ЦК Усе КП(б), маюць, ва ўмовах БССР, той недахоп, што яны не прыстасаваны да існуючай у БССР сеткі гадзін, не зьмяшчаюць беларускага матар'ялу і таксама патрабуюць ад выкладчыка ўнясеньня дадатковых элемэнтаў. Нягледзячы на гэта, яны могуць быць пакладзены ў аснову чытаньня пэўных курсаў.

Хаця праца па наладжваньні выкладаньня грамадазнаўчых дысцыплін, пачынаючы са студзеня, значна палепшылася, але, як будзе паказана ніжэй, яна мае яшчэ вялікія недахопы, якія патрабуюць ударнай работы па іх зьнішчэньні.

III

Удзельная вага грамадазнаўчых дысцыплін у агульных навучальных плянах у сувязі з рознастайнасьцю спэцыяльнасьцяй ВНУ і тэхнікумаў, а таксама адсутнасьцю да гэтага часу стандартнай вучэбнай сеткі гадзін (яна ўжо цяпер прынята НКА) неаднолькава. Так, у Мэдычным ін-це складае каля 12 проц., у Магілёўскім пэдагагічным і Палітасьветным і-тах даходзіць да 40 проц., у Аўта-дарожным тэхнікуме—10 проц., у Менскім гідратэхнікуме 15 проц., у Машына-будаўнічым інстытуце 15 проц., Усесаюзная сетка гадзін па грамадзнаўчых дысцыплінах, зацьверджаная Культпропам ЦК УсеКП(б), на будучы год колькасна не павялічыць удзельнай вагі грамадазнаўчых дысцыплін. Патрэбы ў колькасным пашырэньні яе пры ўмове забесьпячэньня дастатковай якасьці выкладаньня гэтых дысцыплін нябудзе адчувацца; тым больш, што зрабіць гэта магчыма толькі альбо шляхам павялічэньня тэрмінаў навучаньня, альбо за кошт скарачэньня спэцыяльных дысцыплін, што ў першым выпадку прывядзе да скарачэньня тэмпаў выпуску чырвоных спэцыялістаў, а ў другім да недастатковай падрыхтоўкі іх ў галіне сваёй спэцыяльнасьці. І тое і другое не зьяўляецца шляхамі рацыянальнага выхаду з гэтых цяжкасьцяй.

Відавочна, што найбольш верным шляхам вырашэньня пытаньня аб узмацненьні грамадзка-палітычных ведаў студэнцтва зьяўляецца барацьба за якасьць пастаноўкі выкладаньня грамадазнаўчых дысцыплін і шырокае разьвіцьцё палітасьветнай гуртковай працы ў ВНУ і тэхнікумах.

Трэба, аднак, неадкладна зьнішчыць няроўнамернасьць у гадзінах, прызначаных на выкладаньне сац- эканом дысцыплін у вузах аднаго і таго тыпу. Так, напрыклад, калі ў Пэдінстытуце і адпаведных аддзяленьнях эканамічных вузаў на дыямат адводзіцца ад 100 да 200 гадзін (у залежнасьці ад характару аддзяленьня), то ў Гомельскім аграпэдінстытуце на дыямат адведзена 75 гадзін. Калі звычайна ў сацыяльна-эканамічных вузах на палітэканомію адводзіцца ня менш 140 гадзін, то ў вышэйпамянёным інстытуце на яе адводзіцца 60 гадзін. Гэтыя ненармальнасьці павінны быць зьнішчаны. Выкладаньне сац.-эканам. дысцыплін павінна быць упарадкавана шляхам устанаўленьня пэўнай сеткі гадзін для гэтых дысцыплін колькасна аднолькава для дадзенага тыпу ВНУ ці тэхнікуму.

Да гэтага часу як збоку НКА, так і адпаведных дырэктароў ВНУ і тэхнікумаў недастаткова зьвярталася ўвага на правільныя суадносіны паміж выкладаемымі дысцыплінамі. Тыповым у гэтых адносінах зьяўляецца расклад гадзін

паміж сац.-эканамічнымі курсамі ў Гомельскім аграпэдінстытуце, які зацьверджаны НКА. На палітэканомію там адведзена 60 гадзін, а на калгаснае будаўніцтва 60-75 гадзін, у той час, як відавочна, што на палітэканомію трэба даць значна больш. Там-жа на курс калгасбуду,—на фізыка-тэхнічным аддзяленьні, адведзена 60 гадзін, а на хэміка-біалёгічным аддзяленьні 75 гадзін. Такая „разьбежка“ ня можа знайсьці сабе апраўданьня. Далей курс дыялектыкі прыроды ўведзены на хэміка-біалёгіч. аддзяленьні і выкінуты на фізыка-тэхнічным аддзяленьні. Адначасова недададзена шэраг надзвычайна патрэбных спэцыяльных курсаў (мінэралёгія, марксысцкая гісторыя тэхнікі, практыкум па курсе пэдалёгіі і г. д.)

Ёсьць недахопы і іншага парадку. У плянах выкладаньня існуючых спэцыяльных тэхнікумаў нацменшасьцяй (польпэдтэхнікум і інш.) не адбіваюцца яго нацыянальныя культурныя асаблівасьці, не даецца, напрыклад, курсу гісторыі разьвіцьця польскага рэвалюцыйнага руху і г. д., што перашкаджае дасканаламу вывучэньню ленінскай нацпалітыкі ў галіне выкладаньня гісторыі клясавай барацьбы. Трэба надаць пэўны спэцыфікум для падобных навучальных устаноў, хаця-б па прыкладзе яўрэйскай ці польскай сэкцыі Вышэйшага пэдінстытуту ў Менску, дзе маюцца спэцыяльныя сэкцыйныя дысцыпліны.

## IV

Ад характарыстыкі ўдзельнай вагі грамадазнаўчых дысцыплін у навучальных плянах ВНУ, зьвернемся да характарыстыкі твару і становішча навуковых працаўнікоў—грамадаведаў. Мерапрыемствамі партыі апошніх год у падрыхтоўцы кадраў для кадраў склад навуковых працаўнікоў і выкладчыкаў давезены да параўнаўча-здавальняючага ў ідэалёгічнычных адносінах становішча. Выкладаньне курсаў амаль усіх грамадазнаўчых дысцыплін, знаходзіцца ў руках камуністых і асобных блізка-стаячых да партыі і ўладаючых марксыцка-ленінскай мэтадалёгіяй беспартыйных. Толькі як выключэньне можна лічыць выкладаньне некаторых з вышэйпаказаных дысцыплін старымі спэцыялістамі. У асноўным выкладчыцкі склад малады як па ўзросьце, так і па кваліфікацыі, што, зразумела, адбіваецца на якасьці заняткаў і патрабуе шэрагу мерапрыемстваў па павышэньні яго кваліфікацыі. Адным з сродкаў гэтага зьяўляюцца рэгулярныя штогадовыя камандыроўкі навуковых працаўнікоў у належныя навуковыя цэнтры для работы і максымальная іх разгружанасьць ад усіх відаў грамадзкай і пэдагагічнай працы. Пытаньне аб павышэньні кваліфікацыі навуковых працаўнікоў стаіць надзвычайна востра, паколькі шмат якія з іх папалі на выкладчыцкую працу ў ВНУ адразу-ж па сканчэньні вузу. Гэта, як паказвае вопыт, таксама прыводзіць да шэрагу як фактычных, так і палітычных памылак у выкладаньні, якія часта абавязаны не сьвядомай ідэалёгічнай варожасьці таго ці іншага выкладчыка, які ў большасьці член партыі, а яго дрэннай кваліфікацыі.

Пытаньне гэта мае і другі бок. Адсутнасьць ідэалёгічна вытрыманых падручнікаў часта патрабуе ад выкладчыка (а ў сучасны момант гэта агульнае зьявішча) праводзіць заняткі лекцыйным шляхам. Напрыклад, калі раней ён мог пры наліччы добраякаснай літаратуры зрабіць уступнае слова да заданьня на 40 хв., дык цяпер часта адчуваецца неабходнасьць рабіць 2-4 гадз., а гэта патрабуе ад яго большай падрыхтоўкі, адказнасьці і часу, якога ён ня мае. Гэта ў выніку прыводзіць да паніжэньня якасьці вучобы студэнцтва. Зразумела, што пры такім становішчы грамадзкія дысцыпліны і іх адпаведныя катэдры ня могуць рабіць мэтадалёгічнага ўплыву на іншыя катэдры („точных“ навук), што ў сучасны момант зьяўляецца агульным зьявішчам. Ды па сутнасьці справы, як могуць добраякасна праходзіць заняткі і які ўплыў можа аказаць грамадавед на „точныя“ навукі, калі ён сам мае ўсе даныя адваротнага парадку—нязначны стаж сваёй навуковай спэцыяльнасьці, якую яму яшчэ трэба добра ўзмацняць, нядобра ўладае мэтодыкай і нават мэтадалёгіяй у сваёй уласнай галіне навукі і ня можа далей кваліфікавацца, дзякуючы надзвычайна вялікай пэдагагічнай ці грамадзкай нагрузцы, якая не дазваляе

яму нават знаёміцца ня толькі з літаратурай іншай, але і выкладаемай дысцыпліны.

Шэраг таварышоў зусім правільна зазначаюць на тое, што выкладчыкі-грамадаведы (асабліва дыял.матарыялізму) павінны, акрамя добрага веданьня свайго прадмету, добра ўладаць яшчэ якімнебудзь іншым прадметам, асабліва асноўным прадметам таго вузу, дзе ён выкладае. Напрыклад, выкладчык дыямату на фіз-тэхаддзяленьні вузу павінен ведаць фізыку ці матэматыку і г. д. Толькі пры гэтых умовах ён зможа аказаць мэтадалёгічны ўплыў на „точныя“ навукі свайго вузу. Гэту зусім правільную думку трэба ажыцьцёвіць, каб пытаньне аб мэтадалёгічным уплыве грамадазнаўчых навук на спэцыяльныя паставіць на рэальныя рэйкі.

Але пры сучасных умовах працы навуковых працаўнікоў ажыцьцёвіць гэтае мерапрыемства справа ня лёгкая. Выкладчыкі звычайна працуюць ва ўстановах дзьвёх-чатырох розных тыпаў. Кожная ўстанова патрабуе ад яго грунтаваньня чытаемай ім дысцыпліны на тыповым матарыяле таго ці іншага, вузу і ён, зразумела, гэтага зрабіць ня можа. У Гомелі, напр., ад т. Баканова—праф. па дыямату, які працуе па 8 гадзін у дзень ва ўсіх ВНУ Гомелю, патрабуюць, каб ён будаваў сваю дысцыпліну ў адпаведнасьці з тыпам навучальнае ўстановы, дзе ён чытае (па біалёгіі, фізыцы матэматыцы, пэдалёгіі і інш.). Зразумела, што пры ўсім жаданьні зрабіць гэтае ён пазбаўлен фізычнае магчымасьці.

Што, аднак, рэальнага і ажыцьцявімага ў гэтай думцы? Тое, што кожны выкладчык-грамадавед (асабліва дыяматчык) павінен добра ўладаць аднэй галінай з „точных“ навук, напрыклад: фізыка, матэматыка, біалёгія, мэдыцына, тэхніка і г. д. Пры некаторай разгрузцы іх ад працы гэта ажыцьцёвіць у нас на Беларусі можна на працягу двух-трох гадоў. Перш за ўсё трэба, каб такі выкладчык, бязумоўна, скончыў той вуз, дзе ён выкладае дыямат, ці палітэканомію, а потым хоць-бы паўгадавой навуковай камандыроўкай замацаваў свае веды ў пэўнай канкрэтнай галіне. Гэта зрабіць можна і патрэбна. Тып выкладчыка „чыстага“ грамадаведа, „чыстага“ філёзофа, ня ведаючага ніводнай канкрэтнай дысцыпліны, уходзіць у мінулае, разам з уходам у мінулае „чыстых“ фізычных, хэмічных і інш. лябараторый і вузаў. Працэс сацыялістычнага будаўніцтва, паставіўшы пытаньне аб перамяшчэньні вузаў і лябараторый на вытворчасьць, ставіць таксама пытаньне аб набліжэньні ўсіх навук да сучаснасьці, поўнага ліквідаваньня адрыву тэорыі ад практыкі.

Разьмяшчэньне навуковых сіл прымушае чакаць лепшага. У гэтых адносінах Менск знаходзіцца ў больш спрыяючых умовах чым правінцыя (Горкі, Віцебск, Магілёў), хаця колькасьць навуковых працаўнікоў, якая ёсьць у Менску, цалкам яшчэ, нават пры павышанай нагрузцы ня можа задаволіць патрэбы вузаў.

Адзіным выхадам з гэтага было ўжо распачатае ў мінулым годзе камандыраваньне навуковых працаўнікоў для правядзеньня адпаведных курсаў з Менску ў іншыя правінцыяльныя вузаўскія цэнтры (Горкі, Магілеў, Віцебск), якое сябе цалкам апраўдала. Рэальнае палепшаньне ў гэтых адносінах дасьць 1933 год першым выпускам асьпірантуры і ўзмацненьнем выкладчыцкага складу за кошт таварышоў, якія ў гэтым годзе прыедуць для працы на Беларусь з Масквы.

Але чакаць толькі выпуску, як мясцовай, так і маскоўскай асьпірантуры—было-б горшым вырашэньнем гэтага пытаньня. На III курсе розных інстытутаў БАН маюцца адзінкі, выпуск якіх яшчэ ня вырашыць праблемы недахвату навуковых кадраў. З Масквы таксама прыедуць адзінкі, якія ні ў якім разе ня могуць забясьпечыць ВНУ БССР на 100 проц. Адгэтуль паўстае пытаньне правільнага разьмеркаваньня і расстаноўкі навуковых сіл, каб забясьпечыць выкладаньнем усіх дысцыплін, прадугледжаных вучэбнымі плянамі ВНУ і тэхнікумаў.

Адным з сур'ёзных пытаньняў правільнай расстаноўкі навуковых сіл на даным этапе зьяўляецца абмежаваньне сумяшчальнасьці выкладчыкаў. Ёсьць выпадкі, калі скончыўшы ВНУ выкладчык працуе ў правінцыяльным вузе па 8 гадзін у дзень (Гомель, Горкі), што фактычна прыводзіць яго да поўнай дэкваліфікацыі і надзвычайна нізкай якасьці яго

пэдагагічнай працы, ня кажучы ўжо аб выкананьні ім якой-небудзь навукова-дасьледчай працы, бо пры падобным становішчы ён нават ня можа знаёміцца з патрэбнай яму спэцыяльнай літаратурай. Шлях такіх выкладчыкаў, навуковых працаўнікоў,—проста ў „вітрыну браку". Па сутнасьці справы, ці гэта нармальна, калі, напрыклад, выкладчык Агра-пэдагагічнага інстытуту ў Гомелі т. Клюйко выкладае амаль ледзь ня 8 дысцыплін: гісторыю клясавай барацьбы, гісторыю КПБ(б), ленінізм, дыямат, палітэканомію і інш.

Калі мы лічым зусім ненармальным перагрузку таго ці іншага выкладчыка гадзінамі па адным і тым-жа прадмеце, то супроць перагрузкі іх дысцыплінамі трэба самым катэгарычным чынам пратэставаць, бо гэта дэкваліфікуе як выкладчыка, так і ўвесь працэс вучобы, які ўжо ня можа быць добраякасным.

Як ужо было адзначана вышэй, большасьць выкладчыкаў вядзе вялікую грамадзкую працу, ахоплена сацспаборніцтвам і ўдарніцтвам, але разгортваньню апошняга перашкаджае сумяшчальнасьць іх працы.

Праяў чужацкай ідэалёгіі ў пэўных актыўных і сьвядомых формах з боку выкладчыкаў ня было заўважана, але шэраг скажэньняў і фактаў праяў ідэалёгічнай нявытрыманасьці ў выкладаньні мелі месца.

## V

Для таго, каб больш яскрава характарызаваць ідэалёгічнае становішча грамадазнаўчых дысцыплін у ВНУ, нам прыдзецца спыніцца на ідэалёгічным зьмесьце плянаў, праграм і заданьняў, а таксама і самога выкладаньня. Вышэй ужо адзначалася надзвычайная рознастайнасьць праграм розных курсаў, а таксама і неўпарадкаванасьць вучэбных плянаў. Цяпер гэтае пытаньне будзе разглядацца з пункту гледжаньня іх ідэалёгічнага зьместу.

Як правіла, бадай ніводзін выкладчык не бярэцца самастойна за складаньне праграмы свайго курсу з прычыны надзвычайнай адказнасьці гэтай справы. Звычайна там, дзе шмат выкладчыкаў, праграма складаецца брыгадай і зацьвярджаецца катэдрай. Калі гэтага зрабіць нельга, то выкладчык імкнецца правесьці курс па агульнай стандартнай праграме культпропу ЦК УсеКП(б) (калі зразумела па яго прадмеце яна ўжо выдадзена) з дадаткамі, абумоўленымі лістом т. Сталіна, а калі гэта немагчыма, то звычайна курс так і прачытваецца без прадстаўленьня праграмы.

Найбольш ідэалёгічна вытрымнымі аказаліся праграмы па курсах: палітэканоміі, дыямату, тэорыі сав. гаспадаркі, гісторыі права і інш. Большасьць астатніх праграм курсаў грамад. дысцыплін мае тыя ці іншыя недахопы, сваяасаблівыя ў кожным інстытуце. Так, у Інстытуце права і сав. будаўніцтва да гэтага часу не перагледжаны і ня выпраўлены старыя праграмы па агульнай тэорыі права. Праграма па гісторыі УсеКП(б) мае шэраг істотных прабелаў (адсутнічае барацьба бальшавізму на міжнароднай арэне з апартуністамі II Інтэрнацыяналу, выкрыцьцё трацкісцкай кантрабанды і фальсыфікацыі тактыкі партыі ў 1905-1917г., роля бальшавізму ў справе заснаваньня Камінтэрну) і недастатковa завострана барацьба з трацкісцкай фальсыфікацыяй і кантрабандай па пытаньнях гісторыі бальшавізму. Адсутнічае праграма па гісторыі КП(б)Б, замест якой курс праводзіўся па канспэкту, складзеным у выглядзе голага пералічэньня агульна-гістарычных фактаў і носіць яўныя рысы буржуазнага „аб'ектывізму" і апашленьня гісторыі партыі і рэв. руху ў Беларусі.

Таксама і ў мэдычным інстытуце праграмы, заданьні і наогул выкладаньне адстаюць ад высунутых партыяй задач. Як адзначае камісія па абсьледваньні гэтага інстытуту, праграма па ленінізму (т. Трус) мае істотныя прабелы, не заключае ў сябе нічога аб вялікадзяржаўнай і нацдэмаўскай канцэпцыях Кастрычнікавай рэвалюцыі на Беларус (заданьне №2), у той-жа час праграма недапушчальна змазвае як характарыстыку трацкізму, які побач з адзначэньнем, як перадавога атраду міжнароднай контррэвалюцыі, адзначаецца як „тормаз рэвалюцыі". У праграме па „Дыялектыцы прыроды" т. Валабрынскага клясавасьць атаежсамляецца з партыйнась-

цю, адсутнічае ўказаньне на ролю т.Сталіна ў барацьбе на фронце тэорыі і крытыкі трацкізму, як перадавога атраду контррэвалюцыі, адсутнічае ленінская характарыстыка крызісу сучаснага прыродазнаўства. Трэба адзначыць, што выкладаньне гэтых курсаў адзначаецца большай вытрыманасьцю, чым праграма.

Маюцца выпадкі, калі некаторыя праграмы прышлося зусім здымаць, як нягодныя і не адбіваючыя задач сучаснасьці (эканоміка прамысловасьці—Бел. Ін-т спажыўкаапэрацыі).

Некаторыя праграмы недастаткова адбіваюць розьніцу між калгасамі і саўгасамі, недастаткова ўскрываюць прыроду калгасаў і наяўнасьць элемэнтаў клясавай барацьбы ў іх (Аграпэдінстытут—Гомель). Ёсьць выпадкі, калі і пасьля ліста т. Сталіна многія праграмы ня былі перагледжаны. Так у Палітасьветным ін-це ў Магілёве ня былі перагледжаны праграмы па гісторыі народаў СССР, гісторыі клясавай барацьбы, эканомгеаграфіі. Там-жа шмат лурсаў было прачытана наогул без праграм, а тыя, якія былі прачытаны па старых праграмах, маюць шэраг буйнейшых памылак. Напрыклад у праграмах гістарычных дысцыплін, ня ўскрыта контррэвалюцыйнасьць трацкісцкіх установак, люксэмбургіянства і г. д.

Калі ад праграм перайсьці да заданьняў, то і тут маецца цэлы шэраг фактаў скажэньняў марксызму-ленінізму у выкладаемых дысцыплінах. Некалькі прыкладаў дадуць яскравую ілюстрацыю характару гэтых скажэньняў. У Каап інстытуце на курсе „арганізацыі і тэхнікі каап. прадпрыемстваў“ у заданьні № 5 маецца такое пытаньне: „чаму рабочыя мала прыцягваюцца да ўдзелу кіраваньня прадпрыемствамі“.

Там-жа ў заданьні па курсе палітэканоміі т. Равун ставіцца пытаньне ў духу гнілога лібэралізму: „ці правільны погляд трацкістых на закон нашага руху да сацыялізму“. Такая дыскусійная форма пастаноўкі данага пытаньня па сутнасьці змазвае контррэвалюцыйнасьць трацкізму.

Шэраг выпадкаў паказвае на нежаданьне выкладчыкамі даваць адказы на запытаньні з боку студэнтаў. Так, на просьбу студэнта растлумачыць пытаньне, выкладчык адказвае: „чытайце кнігу, там добра напісана“ (Мэдінстытут—лечфак).

Выкладчык па марксызьме-ленінізьме Менскага гідратэхнікуму на запытаньне студэнта: „якія існуюць адносіны паміж буржуазіяй і пралетарыятам“, адказаў: „варожыя“. А на запытаньне другога студэнта: „калі існуе неабходнасьць, то капіталізм можа ўрасьці ў сацыялізм“— той-жа выкладчык глыбокаўдумліва адказвае: „клясавая барацьба ёсьць зьвяно ў агульным ланцугу, а пагэтаму, калі ня будзе клясавай барацьбы, распадзецца ўвесь ланцуг.“ У Архітэктурн. будаўн. тэхнікуме выкладчыкам па гісторыі клясавай барацьбы і ЎсеКП(б) Правашынскім на запытаньне аднаго студэнта: „ці можна лічыць Р. Люксэмбург камуністкай?“ адказвае: „паколькі мы камунізм лічым фармацыяй і Р. Люксэмбург змагалася за гэтую фармацыю— яна зьяўляецца камуністкай, але паколькі мы камунізм зьвязваем з бальшавізмам, дык яна не бальшавічка.“ Вялікую блытаніну вышэйпамянёны выкладчык у гэтым-жа духу разводзіў на занятках таксама і па пытаньню рэвалюцыі 1905г. У ацэнцы рэвалюцыі, зауляе ён, Троцкі карыстаецца зброяй бальшавіцкага арсэналу, у сялянскім пытаньні Троцкі стаіць на меншавіцкіх поглядах... пад уплывам рэв. хвалі ў горадзе і ў вёсцы ўся сацыял-дэмакратыя перайшла на пазыцыі трацкізму...

У некаторых вучэбна-мэтадычных матар'ялах БДУ адсутнічае дастатковая палітычная завостранасьць тых ці іншых пытаньняў. Як адзначаецца абследваньнем, „у першым заданьні па ленінізьме няправільна даецца значэньне марксызму-ленінізму, як вышэйшай навуковай тэорыі, у той час, калі трэба падкрэсьліць, што яна зьяўляецца адзінай навуковай тэорыяй. Няма ўказаньняў на тое, што ЦК ЎсеКП(б) ёсьць вышэйшы цэнтр рэвалюцыйнай тэорыі. Адсутнічае наогул пытаньне аб адзінстве тэорыі і практыкі. У паказанай літаратуры няма прамовы т. Сталіна на канфэрэнцыі аграрнікаў марксыстых. Няма выразна пастаўленага пытаньня аб галоўнай небясьпецы на сучасным этапе. Трацкізм характары-

зуецца правільна, але няма выразна пастаўленага пытаньня аб трацкісцкай кантрабандзе, як новай форме барацьбы трацкізму супроць марксызму-ленінізму. У заданьні па гісторыі клясавай барацьбы на рабфаку аб эпосе I Інтэрнацыяналу ня выразна паказана барацьба марксызму з рознымі варожымі плынямі".

У самым выкладаньні наглядаюцца часам наступныя недахопы: догматызм, ужываньне партыйных формуліровак без належнага партыйнага абгрунтаваньня іх. У першай уступнай лекцыі па дыямату на біафаку выкладчык, прыводзячы фармулёўку Леніна аб адзінстве тэорыі з практыкай, не растлумачыў гэтай думкі барацьбой партыі. Недастаткова абгрунтоўваецца на фактах партыйнасьць навукі, асабліва ў галіне прыродазнаўства. Дапускаюцца часам і няправільныя тлумачэньні тых ці іншых пытаньняў (узаемаадносіны дыямату і гістмату.

Мы адзначылі тут скажэньні, якія проста кідаюцца ў вочы і міма якіх прайсьці нельга.

Недахопаў ёсьць шмат амаль у кожным заданьні. Як агульнае правіла трэба адзначыць наступнае: выкладчыкі, нават высока кваліфікаваныя, камуністыя, заданьні складаюць на „сьпех", дапускаюць шэраг нядбайных фармулёвак. З гэтай прычыны агульным зьяўляецца тое, што заданьне незаўсёды правільна адбівае зьмест выкладаньня, якое пастаўлена звычайна лепш, што і выявілася ў часе обследваньня ў радзе ВНУ і тэхнікумаў пры больш дэталёвым азнаямленьні са зьместам выкладаньня непасрэдна і шляхам паказаньняў студэнцкіх груп і вытворчых нарад.

Існаваньне якасных „ножніц" паміж прыпаднасімым студэнту дапаможным матар'ялам (заданьнем) і самым выкладаньнем — агульна-пашыранае зьявішча ў сыстэме вышэйшай асьветы БССР. Яно тым больш патрабуе ўвагі з боку органаў народнай асьветы, што такім-жа агульна-пашыраным зьяўляецца погляд большасьці выкладчыкаў, згодна якога „важен, мол" непасрэдны працэс выкладаньня ў аудыторыі, а не заданьне. Прычым шмат якія выкладчыкі гэтую сваю думку прабуюць падмацаваць вядомымі словамі т. Кагановіча, які ў сваёй прамове ў ІЧП выказваў, значыцца, такую думку, што галоўнае не заданьне, а само выкладаньне. Між тым, т. Кагановіч гаварыў, што ў вучэбным працэсе важны і праграма і заданьне, але галоўнае гэта, зразумела, само выкладаньне. Гэтага ня трэба забываць.

Нельга тут таксама прайсьці міма пытаньня аб тым, як дрэнная праца выкладчыкаў, і асабліва грамадзнаўчых катэдр, уплывае на агульнае ідэалёгічнае становішча тэй ці іншай ВНУ ці тэхнікуму. Абсьледваньнем зафіксаваны факты, яскрава паказваючыя на імкненьне „точных" навук уйсьці „подальше от политики". Імкненьне да „апалітычнасьці" таксама наглядаецца і ў студэнцтва, галоўным чынам, як правіла, тэхнічных ВНУ і тэхнікумах, дзе слаба пастаўлена палітвыхаваўчая праца. Напрыклад, у Аўта-дарожным тэхнікуме сярод некаторых студэнтаў панавалі настроі, што „масты і дарогі можна будаваць, ня ведаючы Маркса". У машынабудаўнічым інстытуце наглядаліся нядбайныя адносіны з боку студэнцтва да курсу палітэканоміі, які лічыўся „чыста" палітычнай навукай. У Менскім гідратэхнічным інстытуце, асабліва на 1 м курсе, меліся настроі, што „мы, мол, техники", а таму можна ўпаўне абыходзіцца без палітыкі. На гэтыя факты рэагавалі як партыйныя, так і камсамольскія і праф.студэнцкія арганізацыі.

Ня гледзячы на прыведзеныя факты, трэба адзначыць, што ў асноўнай сваёй масе сацыяльна-палітычны твар студэнцтва зусім здавальняючы і ў параўнаньні з мінулымі гадамі значна палепшыўся. Адпаведныя дырэктараты ВНУ і тэхнікумаў за апошні год зьвярнулі на гэта вялікую ўвагу. Пры многіх вузах і тэхнікумах арганізаваны падрыхтоўчыя курсы, склад якіх звычайна папаўняецца ў першую чаргу з рабочых і калгасьнікаў, якія потым па іх сканчэньні пераходзяць у ВНУ. Нельга, аднак, сказаць, што вузамі, тэхнікумамі скарыстаны максымальныя магчымасьці ў справе вярбоўкі ў ВНУ рабочых ад варштату.

Дзякуючы палепшаньню якаснага складу студэнцтва, амаль зьніклі праявы анты-

савецкіх варожых адносін. Аднак, маецца шэраг асобных фактаў выключэньня з вузаў за хуліганства, самавольнае адлучэньне ад вучобы і нават за антысэмітызм, якія сустракаюць рашучы адпор з боку пралетарскай студэнцкай грамадзкасьці.

Наогул трэба адзначыць, што абсьледваньне ВНУ і тэхнікумаў зафіксавала некаторыя факты праяў вялікадзяржаўнага і мясцовага шавінізму, як з боку настаўніцтва, так і з боку студэнцтва. Так, у Індустрыяльна-пэдагагічным тэхнікуме меўся выпадак праявы вялікадзяржаўнага шавінізму з боку асноўнага кіруючага работніка тэхнікуму—нам. дырэктара т. Герасімовіча, які адмаўляўся выкладаць на беларускай мове тэхналёгію мэталяў, спасылаючыся на адсутнасьць па гэтай дысцыпліне падручнікаў на белмове. Там-жа быў выпадак праявы яўрэйскага шавінізму, з боку студэнта, сябра ЛКСМ—Штэйнбрука, які падзяляў студэнтаў на „нашых"—яўрэяў і не „нашых"—беларусаў. Пралетарскай грамадзкасьцю тэхнікуму гэтыя факты асуджаны і выкрыты.

Пры агульным здавальняючым становішчы карыстаньня беларускай мовай ў навучальнай рабоце, навучаньне на белмове з боку некаторых настаўнікаў і студэнтаў не замацавана. У пастаноўцы некаторых дысцыплін мае месца недастатковае працягненьне беларускага матар'ялу, а падчас і ігнараваньне праблем сацыялістычнага будаўніцтва БССР. Пры навучаньні недастаткова выкарыстоўваецца літаратура на беларускай мове. Маюцца таксама, хаця ў якасьці выключэньня, асобныя факты, калі выкладчык-камуніст, які ўжо не адзін год працуе ў Беларусі, да гэтага часу выкладае на расійскай мове (Баканаў—Гомель). Усё гэта сьведчыць аб тым, што беларусізацыя ВНУ і тэхнікумаў яшчэ не ўзьнялася на вышэйшую ступень аўладаньня ўсімі працэсамі гаспадарчага і нацыянальна-культурнага будаўніцтва ва ўсёй навучальнай рабоце выкладчыцкага складу і студэнцтва.

(*Працяг у наступным нумары*).

---

**В. Тэпін.**

# Новая праграма па мове для 1—4 груп ФЗС і ШКМ

(*Праект 1932 г.*).

## Агульны характар і накіраванасьць праграмы

Асноўнаю асаблівасьцю пабудовы новай праграмы зьяўляецца забесьпячэньне па прадмету акрэсьленага кола сыстэматызаваных ведаў, а таксама сувязі тэорыі з практыкай, злучэньне навучаньня з грамадзка-вытворчай працай на такой аснове, каб вучань, вывучаючы тэорыю, навучаўся асмысьліваць грамадзкія, прыродныя і вытворчыя працэсы і паступова выпрацоўваў у сябе сумленнага і актыўнага ўдзельніка сацбудаўніцтва.

Асноўная ўстаноўка новай праграмы па мове гая, каб здабываемыя па курсе веды былі дзейнымі. Гэта значыць, што тыя веды па мове, якія дзеці атрымоўваюць на першай ступені, павінны зьявіцца тэй прыладай, якая палягчае і дапамагае ім ажыцьцяўляць задачы, якія высоўвае перад ім наша сацыялістычная рачаіснасьць. Гэта значыць, што школьныя веды па мове вучні павінны умець у патрэбны момант скарыстаць для ўплыву на акаляючае жыцьцё.

## Асноўныя палажэньні праграмы

Новая праграма адрозьніваецца ад папярэдніх у адносінах да мовы ў тым, што неадрывае вучэньня мовы ад агульных задач выхаваньня, ня ставіць мэтаю вывучэньне граматыкі, толькі як граматыкі (практыка ў скланеньні, спражэньні, засваень-

ні правіл і г. д.), а, з другога боку, імкнецца ўхіліцца ад недаацэнкі граматычных ведаў, ня зводзіць працу па мове выключна к набыцьцю тэхнічных навыкаў, як гэтае пытаньне ставілася ў комплекснай школе.

Мова, як дысцыпліна ў савецкай школе, не абмяжоўвае працу заняткамі па граматыцы і набыцьцём навыкаў правапісу. Мова павінна ўвайсьці ў школу як прылада клясавай барацьбы і сацбудаўніцтва. З першых крокаў дзіцяці ў школе патрэбна разьвіць у ім сазнаньне грамадзкай мэтаімкненасьці працы па мове, грамадзкае яе неабходнасьці.

Вывучэньне мовы адначасова ставіць задачы адукацыйна-практычнага і выхаваўчага працэсу. На малодшай ступені школы вучань павінен засвоіць пэўны круг сыстэматызаваных ведаў па мове і адначасова атрымаць навыкі, адпаведную трэніроўку, каб ужываць гэтыя веды ў практычным карыстаньні. Такім чынам практыка, жыцьцё школы, вытворчасьці, непасрэднай працы вучняў павінна праверыць, наколькі тэарытычныя веды засвоены добра і грунтоўна.

## Разьдзелы праграмы

У сувязі з гэтым, праграма, каб даць магчымасьць лепш уявіць настаўніку мэты, задачы і сыстэму пабудовы заняткаў, агульны працэс навучаньня дэталізуе па наступных момантах:

1) Разьвіцьцё вуснай мовы.

2) Разьвіцьцё пісьмовай мовы.

3) Граматыка і правапіс.

4) Практычнае ўжываньне ведаў па мове.

Зразумела, што паказаныя разьдзелы маюць, галоўным чынам, арыентуючае значэньне, як пэўныя віды працы, якія настаўнік бярэ не ізалявана, а ў узаемнай сувязі, як суцэльны гарманічны працэс. Так, напрыклад, разьвіцьцё мовы пераплятаецца з іншымі відамі працы, як чытаньне, праца над слоўнікам; у сваю чаргу пытаньні граматыкі ўваходзяць у працэс арганізацыі мовы, разьвіцьця памяці і г. д.

## Разьвіцьцё вуснай мовы

Адпраўным момантам у працэсе заняткаў, зьвязаных з разьвіцьцём дзіцячай мовы, зьяўляецца той моўны багаж і звычкі, з якімі дзеці прыходзяць у школу. Зразумела, што гэта мова вельмі бедная, неапрацаваная, настаўнік сыстэматычна працуе над тым, каб разьвіць яе ў сэнсе выразнасьці, дадаць ёй пэўную форму, захоўваючы моманты яе сваясабістасьці, як эмацыянальная насычанасьць, дзіцячая сваябудоўля, часам сьвежыя сакавітыя выразы. Праца па арганізацыі мовы ў малодшых групах пачынаецца з разьвіцьця навыкаў, назіраньня над акаляючай рачаіснасьцю, на матар'ялы жыцьця і працы дзяцей. Паступова гэтыя практыкаваньні ўжо ўскладняюцца, і на 4-м годзе дзеці ўжо павінны плянава і акрэсьлена перадаваць свае думкі ў форме пратаколу, паведамленьня, апісаньня па пляну вытворчага працэсу, сыстэматызаванай перадачы галоўных думак прачытанага.

Поруч з гэтымі практыкаваньнямі ў разьвіцьці ўласнай (індывідуальнай) мовы вучня ідзе арганізацыя мовы кляснага калектыву, выпрацоўка моўных звычак, пэўнай вытрыманасьці, круга паводзін, неабходных у грамадзкім жыцьці. Сюды трэба аднесьці абгаварэньне пытаньняў, увязаных з вучэбнай і грамадзкай працай групы, калі ад вучня патрабуецца ўменьне слухаць і не перарываць гаворачага, запытаць аб незразумелым і сьцісла сфармуляваць пытаньне, уменьне выступаць перад сходам з дакладам, падрыхтоўка і апрацоўка дакладу, падрыхтоўка да кампаній і сьвят (плян падрыхтоўкі), правядзеньне сьвят (даклады, інсцэніроўкі, дэклямацыя і г. д.)

Трэба адзначыць, што толькі тады работа па мове будзе мець неабходны эфэкт, калі іншыя дысцыпліны ў вядомай ступені дапамогуць засваеньню ведаў і навыкаў па мове. На лекцыях па матэматыцы таксама неабходна сачыць за моўнымі зваротамі і дабівацца правільнасьці карыстаньня ўсімі відамі моўных навыкаў. У супрацiўным выпадку тое, што атрымана дзяцьмі на лекцыях па мове, будзе зьнішчана на іншых лекцыях.

Зразумела, што ў межах замацаваньня намечаных у праграме ведаў павінна быць шырока выкарыстана грамадзка-карысная праца дзяцей, вось чаму апошні разьдзел „Практычнае ўжываньне ведаў па мове“ дае цэлы рад магчымасьцяй практычнага скарыстаньня моўных ведаў і навыкаў у часы сходаў, на школьных сьвятах, афармленьні выстаўкі сваіх работ, тлумачэньне выстаўленага матар'ялу і г. д.

Вялікае значэньне ў сэнсе разьвіцьця дзіцячай мовы мае праца над слоўнікам вучня. У першы раз у гісторыі школы гэтае пытаньне ставіцца ўва ўсёй шырыні, бо пашырэньне слоўніка ёсьць па сутнасьці пашырэньне паняцьцяў дзіцяці, узбагачэньне яго мовы. Мова, як сродак зносін і пазнаньня, зброя клясавай барацьбы, становіцца найбольш гібкай і дзейнай праз узбагачэньне яе слоўніка.

Праца над слоўнікам вучня павінна пачынацца з праверкі разуменьня тых слоў, якімі вучань уладае, калі прыходзіць у школу; далей ідзе паступовае павялічэньне самога запасу слоў, прывучэньне практычна карыстацца тымі словамі, якія ўдасканальваюць нашу мову, напр. словамі, якія выражаюць адносіны ў часе (сёньня, учора, заўтра, спачатку, потым), адносіны ў прасторы (бліжэй, далей, уверх, уніз, вышэй, ніжэй), адносіны колькасьці і якасьці (больш, менш, лепей, хутчэй).

Укладаньне слоўніка мае сваёй мэтай ня толькі ўзбагачэньне новымі словамі, але і непасрэднае нагляданьне за функцыяй слова, яго многазначымасьцю, сынонімамі, амонімамі, пераносным значэньнем слоў і г. д.

Элемэнтарныя паняцьці аб паходжаньні мовы, яе клясавым зьмесьце, аб клясавай барацьбе, якая адбываецца ў мове, лягчэй за ўсё паказаць пры працы над слоўнікам. Уважлівыя адносіны да слова павінны дапамагчы выкараненьню перажыткаў старога ў мове вучняў (бажба, блатныя словы, грэблівыя мянушкі), азнаёміць з словамі інтэрнацыянальнымі, з тымі словамі, якія зьявіліся пасьля Кастрычнікавай рэвалюцыі, як „калгасьнік“, „сацспаборніцва“, „ударнік“, „зарплата“, а таксама са зьменай сацыяльнай ацэнкі сэнсу слова ў параўнаньні з дарэвалюцыйным часам „бязбожнік“, „барын“, „эмігрант“ і г. д.

Укладаньне слоўніка дапаможа барацьбе з несьвядомым ужываньнем слоў у яго пераносным, мэтафарычным значэньні і г. д.

Увесь час ідзе праца па чытаньні. Спачатку ўвага зварачваецца пераважна на выпрацоўку тэхнікі чытаньня, правільнасьці вымаўленьня і адпаведнай элемэнтарнай інтанацыі. Праз працэс ціхага чытаньня, з абгаварваньнем прачытанага праца ідзе да чытаньня дзелавых навукова-папулярных артыкулаў, з вылучэньнем і перадачай галоўных думак, з знаходжаньнем у тэксьце адказаў на пытаньні.

У практыцы чытаньня ўвага вучняў зварачваецца таксама на асаблівасьці тэхнічнага афармленьня кнігі і газэты, загаловак, падзагаловак, зьмест кнігі (оглавление), уменьне знайсьці па зьместу патрэбны матар'ял.

## Разьвіцьцё пісьмовай мовы

Праца па разьвіцьцю пісьмовай мовы пачынаецца з невялічкіх заданьняў, як подпіс сваёй працы і малюнку, сьпісваньнем кароткіх простых сказаў з друкаванага і пісанага тэксту, прычым поруч ідзе работа над выпрацоўкай дзіцячага почарку (захаваньне вышыні і правільнай формы літар, адлегласьць паміж імі і г. д.) У IV групе мы маем складаньне пляну з пытаньняў, загалоўкаў і апавядальных сказаў, пісьмовы пераказ прачытанага па раней складзеным пляне, апісаньне экскурсій, уключаючы сюды і пісьмовую перадачу нагляданьняў у часе экскурсіі.

Па чацьвертай групе ў праграме паказан разьдзел-дзелавое пісьмо:

а) заметка ў насьценгазэту;

б) перапіска са школамі, замежнымі піянэрамі і палітзьняволенымі;

в) укладаньне пратаколаў;

г) сацумова;

д) уменьне запоўніць грашовы пераклад;

е) заява і росьпіска.

Усе паказаныя віды працы між іншым добра зьвязваюцца з працай па грама-

тыцы і даюць патрэбны матар'ял для раду граматычных практыкаваньняў па ўкладаньні сказу.

Трэба толькі адзначыць, што практыкаваць вучняў ва ўкладаньні дзелавых папер гэтага роду неабходна ў натуральных умовах, калі ў гэтым узьнікае рэальная патрэба. Напрыклад, калі школа арганізуе экскурсію на прадпрыемства, і вучням трэба зьвярнуцца да адміністрацыі з афіцыйнай заявай, дык у даным выпадку будзе зусім мэтазгодна, калі такая заява будзе прапрацавана і напісана ў час школьных заняткаў па мове. Таксама, калі школа шчыльна ўвязана з мясцовым насельніцтвам і вядзе сярод яго грамадзкую працу, яна павінна дапамагчы малапісьменным ва ўкладаньні лістоў, заяў, росьпісак, пераводаў. Такім чынам практыкаваньні на ўкладаньне дзелавых папер будзе для вучняў жывою карыснаю і цікаваю справаю.

## Граматыка

Сыстэматычныя заняткі па граматыцы пачынаюцца з 3-га году навучаньня, але элемэнты граматыкі даюцца ужо ў першым і другім годзе. На першым годзе дзеці падводзяцца да фонэтычных, марфалёгічных і сынтаксычных назіраньняў, але з апошніх ня робіцца пакуль што сыстэматызаваных тэарытычных вывадаў, бо па ўзросту дзеці яшчэ ня здольны да аналізу, неабходнага для работы па граматыцы; толькі з трэцяга году магчыма прыступіць да гэтай работы.

Новая праграма ў пабудове знаёмства з элемэнтамі граматыкі „кладзе ў аснову барацьбу з фармалізмам, але гэта ня трэба разумець, як поўнае адмаўленьне ад вывучэньня формы: выходнае ў мове гэта яе пазнаньне, сэнсавая функцыя. Замест адрыву формы ад зьместу, што зьяўляецца тыповым для старой граматыкі, павінен быць высунуты прынцып адзінства формы і зьместу, прычым у гэтым адзінстве вядучым зьяўляецца зьмест“ (паясьняльная запіска да праграмы ст. 14).

Пры знаёмстве з граматычнымі элемэнтамі ня трэба натасківаць вучняў на літучна-ізаляваных прыкладах па падручніку, трэба вывучаць гэтыя зьявы ў іх жывой злучнасьці, ва ўнутранай сувязі на практычна і значымым сэнсавым матар'яле. Вучні павінны быць знаёмы з асноўнымі правіламі граматыкі, але яны павінны дайсьці да іх самі ў сваёй працы, а таму трэба вучыць карыстацца „правіламі“ канкрэтна, у сувязі з думкай, якая выражаецца, у працілегласьць ранейшаму мэтафізычнаму і дагматычнам вучэньню аб трывалых непарушымых правілах.

Праграма дае такі шлях знаёмства з граматычнымі зьявамі: выдзяленьне складу, як смыславой адзінкі, аналіз тэксту, выдзяленьне слова, падзел яго на часткі, гук і літара, разбор сказу, знакі прыпынку, элемэнты правапісу.

Такім чынам рознастайная праца па мове на першай ступені, якая праходзіць у арганізацыі моўнай практыкі вучня, абагачэньні яго слоўніка, разьвіцьці тэхнічнай правільнасьці і сэнсавага разуменьня чытаньня, а таксама ў назіраньні над граматычнымі зьявамі— усё гэта дае вучню ўяўленьне аб жыцьці мовы.

Паясьняльная запіска да праграмы кажа:

„Нават дзецям 3-й групы можна даць зразуменьне, што мова разьвіваецца, што яна ня ёсьць нешта застылае: наяўнасьць у апавяданьнях такіх слоў, як „памешчык“, „ураднік“, „стараста“ і інш, і наадварот, адсутнасьць іх у апавяданьнях сучаснага жыцьця, дзе мы сустракаем новыя словы: „камсамол“, „піянэр“, „савет“, і г. д. пераконваюць дзяцей ў тым, што ў мове адны словы адміраюць, а другія зьяўляюцца. Паказваючы зьмены розных форм у зразумелых і цікавых для дзяцей вобразах, мы прышчэпліваем гістарычны падход да зьявішч у мове“.

## Практычнае ўжываньне ведаў па мове

Мы ўжо падкрэсьлівалі тую асаблівасьць праграмы, што на малодшай ступені палітэхнічнай школы вучань адначасова засвойвае пэўны круг сыстэматызаваных ведаў па мове і атрымоўвае належныя навыкі, праходзіць трэніроўку, каб умець ужываць гэтыя веды ў практычным карыстаньні.

Такім чынам у практыцы жыцьця, на вытворчасьці, у штодзённай працы трэба праверыць, наколькі тэарытычныя веды засвоены добра і грунтоўна. Апошні разьдзел праграмы—„практычнае ўжываньне ведаў па мове“ мае сваёй мэтай даць цыкль такіх карысных навыкаў арганізаваных паводзін, зьвязаных з моўнай практыкай, якія так патрэбны ў нашай сучаснасьці: запаўненьне анкеты, выступленьне на сходах, удзел у насьценгазэце, уменьне карыстацца тэлефонам, атрымаць тэлефанаграму і г. д. Разумела, што паказаныя навыкі ня маюць фармальнага абавязковага характару практыкаваньне не павінна пераходзіць у натаскваньне, надзвычайнае захапленьне, дзяляцтва. Мова ўвесь час захоўвае сваё значэньне як прадмет. Выкладчык павінен імкнуцца да таго, кабдзеці ўжо на першай ступені засвоілі тэхніку пабудовы сказу, маглі больш-менш сьвядома аднесьціся да сваёй і чужой мовы, навучыць вучняў скарыстоўваць кнігу, як адну з крыніц ведаў, навучыць знаходзіць у кнізе адказы на тыя запытаньні, якія ў іх узьнікаюць.

Новая праграма ўскладае вялікую адказнасьць на настаўніка, ад пэдагагічнай і мэтадычнай падрыхтаванасьці якога залежыць узровень ведаў вучняў і агульныя посьпехі справы.

Настаўнік павінен паасобныя моманты праграмы аб'яднаць у адзін гарманічны працэс, у сыстэматызаваную працу. Але нельга кожнага паасобку настаўніка ставіць у становішча Калюмба і прымушаць яго адкрываць Амэрыку.

Асьветніцкая грамадзкасьць павінна дапамагчы гэтай справе і тэрмінова арганізаваць брыгады для ўкладаньня рабочых кніжак па роднай мове для 1—IV гр. школ ФЗС і ШКМ, каб к пачатку 1932-33 н. г. было магчыма разгарнуць працу на сьвежым матар'яле.

Рабочая кніжка павінна даць адпаведным чынам пабудаваны матар'ял, канцэнтрацыю і пэўную ўвязку ведаў і навыкаў па прадмету, пэўную паступовасьць у накапленьні і прапрацоўцы матар'ялаў. Удала складзеная рабочая кніжка напоўніць праграму жывым зьместам, канкрэтызуе яе паасобныя моманты, надасьць магчымасьць зьнішчыць рэшткі бязсыстэмнасьці ведаў, а самому выкладчыку перабудаваць сваю працу ў адпаведнасьці з пастановай ЦК аб школе.

Яўна

## Да пытаньня аб фізычным выхаваньні ў дашкольных установах

Адным з набалеўшых пытаньняў у дашкольных установах у даны момант зьяўляецца пытаньне фізычнага выхаваньня. Недаацэнка яго заўважаецца ў цэлым радзе дашкольных установаў. Зьніжэньне гігіенічнага мінімуму, часам антысанітарны стан дзіцячага саду: рабочых пакояў, кухні, прыбіральні,—зьяўляецца даволі частым зьявішчам. Выключная няўважлівасьць да пытаньняў рэжыму, няправільнае выкананьне распарадку дню, запазьненьне сьнеданьня ледзь не на гадзіну, скарачэньне часу знаходжаньня на паветры, вельмі часта з-за таго, што дзеці заняты якой-небудзь работай. У першых выпадках мы наглядаем, што дзеці зусім не выходзяць у працягу васьмігадзіннага рабочага дня на вуліцу. Абсьледваньне некаторых установаў выявіла, што дзеці сьпяць у самых негігіенічных умовах: пакой для сна не праветрываецца, дзеці ўкладваюцца спаць ледзь не на сталах, пасьцель складаецца ў адну кучу, паветра ў часе сна не асвяжаецца. Зразумела, што ад такога сна можа быць толькі шкода. Наглядаўся рад выпадкаў няправільнага прышчапленьня культурна-гігіенічных навыкаў. Дзеці мыюць рукі бяз мыла, ня гледзячы на тое, што пры адсутнасьці яго ва ўстанове лёгка можна гэта

паправіць, прапанаваўшы кожнаму дзіцёнку прынесьці па кавалачку з дому. Звычайна гэта ўдаецца. Дзеці выціраюцца агульным ручніком нават пры наяўнасьці дастатковай колькасьці індывідуальных у дзіцячым садзе. На ўсіх гэтых момантах ня фіксуецца ўвага пэдагога і тэхпэрсаналу. Адсутнасьць дазіроўкі працы дзіцяці, а асабліва ў пагоні за выкананьнем заданьня, прыводзіць к таму, што пэдагог прымушае дзяцей працаваць, сталярнічаць гадзіны паўтары і больш. Даволі хворае месца гэта падрыхтоўка да сьвят у нашых садах, калі дзяцей бяз канца муштруюць так, што ўрэшце яны ўжо сядзяць бяз сіл. Калі мы паглядзім на рабочыя позы нашых дзяцей, у той час, як яны сагнуўшыся з гадзіны піляць ці доўга сядзяць у кутку, паклаўшы сшытак на крэсла і малююць,—відовішча ўнушае нам сур'ёзны непакой за стан здароўя і разьвіцьцё нашага будучага будаўніка сацыялізму. Нам патрэбна моцная здаровая фізычна, паўнацэнная зьмена. Зьмена фізычна загартаваная, вынослівая і ўстойлівая. У чарговых задачах у галіне дашкольнага выхаваньня у сувязі з пастановай ЦК УсеКП (б) аб пачатковай і сярэдняй школе гаворыцца, што трэба „дабіцца рашучага павароту ўвагі да справы фізычнага выхаваньня дашкольнікаў ня толькі з боку саміх дашкольных устаноў, але і органаў народнай асьветы і аховы здароўя. Пры пабудове работы дашкольных устаноў неабходна ўлічваць, што фізычнае выхаваньне зьяўляецца адной з асноўных задач дзіцяці дашкольніка“. Пэдагог павінен ведаць, што арганізм дашкольніка яшчэ ня зусім сфармаваўся. Ён няўстойлівы, супраціўляемасьць нязначная. Яго здароўе лёгка парушаецца пад уплывам дрэнных гігіенічных ўмоў, недастатковага або якасна няпоўнацэннага харчаваньня, недахопу паветра, цяпла, ва ўмовах недастатковага, нерэгулярнага сна.

Пастараемся разабрацца ў некаторых асаблівасьцях дашкольніка і зрабіць адпаведныя вывады адносна пабудовы нашай работы. У дашкольным узросьце энэргічна працягваюцца працэсы акасьцяненьня. Але яны яшчэ далёка не закончаны і касьцяк дзіцяці астаецца яшчэ вельмі пластычным, лёгка паддаецца як дэфармуючым (скрыўляючым, зьмяняючым форму) так і карэктуючым (выпраўляючым) узьдзеяньнем. Згібы пазваночніка замацоўваюцца пасьля 6-7 год. Сьпіна надзвычайна пластычная. Калі недастаткова зьвяртаць увагу на позы дзяцей ў часе сідзячых заняткаў, на іх постаць пры руху, то вельмі лёгка разьвіваюцца скрыўленьні хрыбетніка. Няправільна думаць, што скрыўленьні пачынаюцца толькі ў школе, там асабліва пры сядзячым жыцьці яны замацоўваюцца і могуць астацца на ўсё жыцьцё. Але пачатак гэтых скрыўленьняў у большасьці выпадкаў наглядаецца ўжо ў дашкольным узросьце. Дзеці ў старэйшай групе пачынаюць прыкметна сутуліцца. Абсьледваньні ўрача нам гавораць аб наяўнасьці сутулых дзяцей, дзяцей са скаліозам (адно плячо вышэй, другое ніжэй), як у сярэдніх і нават у малодшых групах. Зразумела, гэта адмоўна адбіваецца на разьвіцьці грудной клеткі, а разам з тым лёгкіх і сэрца.

Што-ж мы бачым у дзіцячым садзе? Як дзеці пілуюць? Пакладзе дзіця між двума крэсламі фанэру, само становіцца на гэта нагамі і, сагнуўшыся, да самай дошкі, пілуе. Ці ня лепш із'яць такога роду пілаваньне, ці ў што-б та ні стала паставіць ціскі, заціск і прымацаваць іх да стала, прыстасаваць сталярны станок. Пакуль гэтых прыстасаваньняў няма, ня трэба даваць дзецям пілачак, а можна часова даваць гатовыя дошчачкі, якія дзеці самі будуць скалачваць. Як нашы дзеці малююць? Крэсла значна адсунута ад стала, дзіця выцягнулася, сагнулася, каб дастаць да паперы, якая ляжыць на стале. Вельмі нізкі стол, неадпаведны ўзросту, прывучае дзіця нагінацца

Пэдагог павінен сачыць за позай дзіцяці за сталом, напомніць дзіцёнку паставіць зручней крэсла. А галоўнае, неабходна заказваць мэблю адпаведна росту дзяцей. Крэсла павінна быць такой вышыні, каб ногі дзіцяці прама стаялі на падлозе, ня віселі і не падгіналіся пад крэслам. Вышыня стала ў адносінах да крэсла бярэцца такім чынам, каб локці сідзячага дзіцяці маглі свабодна пад прамым вуглом ляжаць на стале. Глыбіня сядзеньня роўна даўжыні бядра. Сталы для маляваньня і іншых работ

павінны стаяць у найбольш сьветлай частцы пакою, каб сьвятло падала на работу дзіцяці з левага боку. Вельмі няправільна, калі рабяты малююць, седзячы сьпіной да сьвятла. Апрача таго, што пры гэтым ствараецца няправільная поза, гэта таксама садейнічае разьвіцьцю блізарукасьці. Для работы наогул трэба выбіраць больш сьветлыя пакоі. Можна прывесьці яшчэ цэлы рад прыкладаў недастатковай ацэнкі правільнай позы дзіцяці пры непрыставанасьці інструмэнтарыя. Так, лапата з вельмі кароткай палкай, мятла зусім бяз палкі, што даецца часта ў дзіцячых садох, усё гэта вельмі шкодна для дзіцяці. Ня трэба даваць дзецям пераносіць вялікіх цяжараў. Пры перанясеньні невялікага цяжару ў адной руцэ, напрыклад лейкі з вадой, мэтазгодна, каб дзіця пераносіла дзьве адразу, па аднэй ў кожнай руцэ. Пры частым перанясеньні цяжараў у аднэй руцэ ў дзяцяці можа зрабіцца адно плячо ніжэй, другое вышэй.

Пабачым цяпер, што прадстаўляе сабой дыхацельны апарат дашкольніка. Дзякуючы дыханьню кісларод паветра пранікае ў крывяносныя судзіны, якія пранізваюць тканку лёгкіх. Адначасова з гэтым вуглякіслы газ з крыві перадаецца ў паветра. Раствораны ў крыві кісларод разносіцца па ўсяму арганізму і снабжае ўсе тканкі цела. Наколькі важны газаабмен, які забясьпечваецца актам дыханьня, відаць з таго, што спыненьне дыханьня на 2-3 мінуты выклікае сьмерць. Адразьняльная асаблівасьць верхніх дыхацельных шляхоў (насавыя ходы, гартань, бронхі) у дзяцяці—гэта іх вузасьць, дзякуючы кволасьці і ранімасьці сьлізістай абалонкі, якая высьцілае іх, ствараюцца затруднёныя ўмовы для праходжаньня паветра, а часам і поўнае спыненьне ў выніку закаркаваньня гэтых вузкіх хадоў сьлізьзю (насмарк, ложны круп) У рэзультаце хранічнага захворваньня носа і зева ў дзіцяці ствараюцца разрашчэньні лімфаіднай тканi—адэноіды Згодна статыстыкі, большасьць хранічных захворваньняў верхніх дыхацельных шляхоў падае на ўзрост ад 5 да 10 год. У рэзультаце закрыцьця дыхацельных шляхоў рэзка зьніжаецца доступ паветра ў лёгкія і снабжэньне крыві кіслародам. Пры наяўнасьці іншых раздражняльнікаў хранічныя захворваньні насаглоткі (насмаркі, адэноіды, катары) могуць павесьці да цяжкіх вынікаў—малакроўе, абвастрэньне скрытага тубэркулёзу, павялічэньне лімфатычных залоз, агульнага ўпадку жыўленьня, упадку жыўленьня мозгу.

Грудная клетка ў дзіцяці пабудавана некалькі інакш, чым у дарослага, і толькі к 6—7 гадам набліжаецца да тыпу дарослага. Слабыя яшчэ грудныя цягліцы і дзякуючы гэтаму слабее размах груднай клеткі; выдыхаецца менш паветра. Неудасканаласьць нэрвовага апарату, які рэгулюе дыханьне, прыводзіць да няроўнамернасьці і парушэньня яго пульса, дзіця дыхае няроўнамерна, то хутчэй, то павальней. Само дыханьне дашкольніка павярхоўнае і больш частае, чым у дарослага. У рэзультаце ўсіх вышэйпералічаных асаблівасьцяў у дзіцяці адбываецца ня зусім роўнамернае і дастатковае вэнтыліраваньне лёгкіх.

Улічым яшчэ, што дашкольнік у пэрыядзе росту надзвычайна рухавы, траціць многа энэргіі, а значыць у яго павышаныя патрабаваньні да акісьляцельных працэсаў і да газаабменаў. Адсюль неабходна забясьпечыць прыток сьвежага паветра для лёгкіх дзіцяці. У сьвежым паветры ёсьць найвялікшая колькасьць кіслароду. Работа ў дашкольных установах летам павінна быць зусім вынесена на паветра. Што датычыцца зімы, то норма знаходжаньня на паветры будзе 3—4 гадзіны. Калі мы ўлічым пераход з дому ў сад і з саду дамоў, апрача таго, што частку часу дзіця пасьля саду можа быць на паветры (аб гэтым трэба праводзіць спэцыяльную работу з бацькамі), то ў дзіцячым садзе час прагулкі, павінен быць ня менш паўтары-дзьве гадзіны ў суткі. Зусім мэтазгодна так пабудаваць распарадак дню, каб рабяты два разы гулялі. Асабліва лёгка гэта правесьці ў ачаговых 8-гадзінных групах, дзе дзеці ня сьпяць. Другі раз дзеці выходзяць на двор пасьля абеда перад падвячоркам Ня трэба дзяцей выводзіць адразу пасьля абеду, а трэба даць ім некаторы час заняцца свабоднай дзейнасьцю ці правесьці спакойныя арганізаваныя заняткі, а пасьля павесьці на

двор. У халодныя дні ня трэба дзяцей прама са двара адпраўляць дамоў, а трэба пасьля прагулкі пусьціць у пакой пагрэцца. У сувязі з адкрыцьцём ва многіх садах вячэрніх пакояў і інтэрнатных груп, у рэжым дзяцей, якія астаюцца, абавязкова павінна ўвайсьці вячэрняя прагулка. Вопыт абсьледаваньня многіх садоў паказвае, што прагулкам удзяляецца вельмі мала ўвагі. Так ёсьць выпадкі, калі ў распарадак дню нават ня ўнесена прагулка, ёсьць выпадкі, калі дзяцей да 3 гадзін, г. зн. да пасьля абеду трымаюць у пакоі і потым толькі вядуць на прагулку. Пэдагогі ахвотна робяць адступленьні з-за пагоды: то халодна, то туманна, то вільготна. Трэба паставіць сабе за правіла, што дзяцей трэба выводзіць штодзённа да тэмпэратуры ў 15°. Што датычыцца дажджлівых дзён, то тут паўстае задача абсталяваньня спэцыяльнага навесу ці тэрасы пры дзіцячым садзе, дзе дзеці маглі-б гуляць і ў дажджлівае надвор'е.

Пэдагогі часта скардзяцца на нявыносьлівасьць некаторых дзяцей. Ім адразу робіцца халодна, нават калі яны добра і цёпла апрануты. Яны ня хочуць аставацца на двары. Але ў большай частцы гэта дзеці, якім не хапіла санак і не хапіла лапаты і якія на гэты раз наогул не знайшлі чым заняцца на двары. У сувязі з гэтым паўстае пытаньне аб адпаведным абсталяваньні двара, аб арганізацыі прагулкі наогул. Выпускаючы дзяцей на двор, неабходна ім даць якія-небудзь цікавыя цацкі, матар'ял. Дзіця, занятае катаньнем на санях, капаньнем сьнегу, ахвотна астаецца доўга на двары. Такім чынам пэдагог загадзя павінен прадумаць, чым сёньня займуцца дзеці ў часе прагулкі. У зімовы час павінна быць дастатковая колькасьць саней, лыж, лапат, мёцел, скрынак для возкі сьнегу. Колькасьць іх і арганізацыя пляцоўкі павінна быць такая, каб і больш слабыя і пасыўныя дзеці маглі імі карыстацца. Звычайна гэтыя рэчы пападаюць у рукі больш моцных дзяцей. Звычайнае з'явішча, што ў садзе ёсьць на 60-70 чал. дзяцей 7 саней і гэта ўсё абсталяваньне зімовай пляцоўкі. Зразумела, гэтага мала. Пры адсутнасьці іншых рэчаў колькасьць саней павінна быць каля 10, каб усе дзеці маглі імі карыстацца. Можна правесьці цэлы рад работ з сьнегу, як-та: рабіць домікі, загатаўліваць цаглінкі з сьнегу, афарбоўваць лёд і г. д. (гл. кніжку аб рабоце на зімовай дашкольнай пляцоўцы выд. Наркамасьветы РСФСР, арт. Пад'япольскага ў часоп. „Дошкольное воспитание", № 10 за 1930 г. „Работа на площадке в осенне-зимний период").

Набліжаецца вясна. Працягласьць прагулкі можна павялічыць. Частка работы можа быць ужо вынесена на паветра. На бліжэйшы час работа будзе праходзіць на гародзе, у палісадніку, у правядзеньні экскурсіі нагляданьні ў прыродзе. У маі, калі ўстановіцца надвор'е, можна ўжо ўсю работу сада вынесьці на пляцоўкі: гульня, праца, маляваньне, лепка, ежа—усё праходзіць на наветры.

У сувязі з гэтым кожная ўстанова загадзя павінна рыхтавацца да перанясеньня работы на пляцоўку. Установы, якія ня маюць адпаведнага двара ці сада, арэндуюць яго непадалёк у сваім раёне і там робяць летнюю пляцоўку, абсталяваўшы яе адпаведным чынам. Трэба ўстанавіць сталы, лаўкі, зрабіць навес, распланаваць пляцоўку, выдзеліўшы месца занятkaў для кожнай групы, агульную масавую пляцоўку, скрынку для пяску, месца для пяску, месца для гароду і палісадніка.

Побач з доўгім знаходжаньнем дзяцей на сьвежым паветры, неабходна зьвярнуць увагу на вэнтыляраваньне памяшканьняў; форткі, фрамугі абавязкова павінны адчыняцца зімой пры выхадзе дзяцей на двор, а летам яны ўвесь час адчынены. Спальня і калі дзеці сьпяць у пакоі, дзе працуюць і ядуць, павінна старанна праветрывацца перад сном. Пажадана, каб фортка была адчынена ў часе сна дзяцей. Гэта незаўсёды ўдаецца правесьці зімой, дзякуючы цеснаце нашых спален, калі некаторыя дзеці сьпяць каля акна. Значна зручней ў гэтых адносінах фрамугі. Прыгатаўленьне іх павінна быць устаўлена ў каштарыс нашых летніх рамонтаў. У цэлым радзе маскоўскіх установаў дзеці цэлы год сьпяць на адкрытай тэрасе. Зімой выносяцца да 12° холаду. Дзяцей адзяваюць у ватныя мяшкі з капюшонам. У такім выглядзе іх выносяць на загадзя расстаўленыя на

тэрасе ложкі. Рабяты вельмі добра сьпяць ад паўтары да дзьвюх гадзін. Аб карысьці сна на паветры гаварыць ня прыходзіцца. Мы павінны толькі падкрэсьліць, што сон у неправетраным, цесным і душным памяшканьні прыносіць дзіцяці толькі шкоду і зусім не садзейнічае яго аздараўленьню. На гэта павінны зьвярнуць увагу многія нашыя дашкольныя ўстановы і сумесна з доктарам вырашыць пытаньне, у якім пакоі лепш класьці дзяцей і наогул ці дапушчальны сон у жыльлёвых умовах данага дзіцячага саду. Ва ўсякім выпадку патрабаваньні адносна вэнтыляцыі пакою перад сном, выціраньне яго мокрай анучай абавязковы. Ня меншае значэньне для павялічэньня прытоку паветра ў арганізм можа мець гігіена верхніх дыхацельных шляхоў. Мы ўжо гаварылі, што вузасьць шляхоў, ранімасьць сьлізістых абалонак носу, гартані робіць дашкольніка схільным да насмарку і ў сувязі з гэтым да закаркаваньня дыхацельных шляхоў. Ня зусім спрыяюча абстаіць справа ў нашых установах, ніякай ўвагі не ўдзяляецца прышчапленьню дзіцяці навыка карыстаньня насавой хусткай. Тут пры ўмовах, калі дзіця бывае цэлы дзень у дзіцячым садзе, мы мала можам спадзявацца, што сям'я прышчэпіць яму гэты навык. У выніку дзіця працуе, есьць і зусім не рэагуе, што ў яго цячэ з носу. Дзіцячы сад павінен прышчапляць дзецям такі навык. У тых выпадках, калі ім не удаецца дабіцца, каб бацькі давалі дзецям хусткі, дзіцячы сад можа выдаваць іх дзецям на час знаходжаньня ў садзе. Трэба ўвесьці ў рэжым дня, асабліва ў малодшых групах, арганізаванае прачышчэньне носу перад ядой, перад сном, пры мыцьці рукі г.д. Трэба навучыць дзіця як гэта рабіць, прыціснуць платком адну наздру і так прачысьціць нос. На дзяцей, якія хворыя насмаркам, павінна быць зьвернута спэцыяльная ўвага пэдагога і доктара.

Спынімся на асаблівасьцях сардэчнай дзейнасьці дзіцяці і зробім адпаведныя вывады. Сэрца дзіцяці за ўвесь пэрыяд росту ўвесь час зьмяняецца як па форме, так і па вазе. Асаблівасьцю, на якую мы павінны зьвярнуць увагу, зьяўляецца хуткая стамляемасьць сэрца, якая адбываецца дзякуючы недасканальнасьці нэрвовага апарату, які рэгулюе яго. Блукаючы нэрв, які тармозіць дзейнасьць сэрца, недастаткова разьвіт, таму дзіцячае сэрца растрачвае свае сілы нерацыянальна. Пульс у дашкольніка значна больш паскораны, чым у дарослага. У 5 год-103 удары ў хвіліну, а ў дарослага 70—80. Рытм пульса лёгка парушаецца. Нязначнае напружаньне і хваляваньне выклікаюць у дзіцяці сэрцабіеньне, задышку і перабоі. Усе гэтыя асаблівасьці сэрдэчнай дзейнасьці дзіцяці павінны быць прыняты пад увагу пры пабудове заняткаў з імі. Дазіроўка працы і адпачынку, рэгуляваньне рухомай дзейнасьці, каб не даводзіць дзіцяці даператамленьня, мае вялікае значэньне. Неабходна дазіраваць даўжыню арганізаваных заняткаў:—для чатырохлетак-20 мін., пяцілетак—30 мін., сямілетак—40 мін. Пры правядзеньні арганізаваных рухавых гульняў трэба зьмяніць больш рухавыя спакойнымі і наогул адпачынкам. Доўгае хаджэньне на далёкія прагулкі стамляе рабят. Хаджэньне на экскурсіі для дзяцей ад 3 да 5 год не павінна перавышаць 15 мінут. Пасьля гэтага трэба дзяцям адпачыць.

Побач з гэтым вельмі не мэтазгодным зьяўляецца доўгае заседжваньне, доўгае стаяньне дзіцяці і наогул рэжым нярухомасьці. Пры доўгім сядзеньні і стаяньні адбываецца сьціскаваньне судзін у ніжніх частках цела, з прычыны, чаго яны горш снабжаюцца крывёю. Мы часта наглядаем у дзіцячых садох, што адразу пасьля сьнеданьня даецца лепка, маляваньне і іншыя заняткі, якія дзеці павінны праводзіць у сідзячым палажэньні. Кіраўніца, жадаючы папярэдзіць узбуджэньне, якое можа ўзьнікнуць, прапануе ня выходзіць з-за стала і чакаць раздачы матар'ялу. І так пасьля таго, як дзеці прасядзелі мінут 20-30 да сьнеданьня, ім прыходзіцца яшчэ столькі-ж, а часам і болей праводзіць у сідзячым палажэньні. Гэта няправільна. Трэба даць дзецям трошкі парухацца, устаць з-за стала і потым прыступіць да заняткаў. Разьвіццю рухаючага апарату дашкольніка павінна быць удзелена спэцыяльная ўвага. Культура рухаў дашкольніка займае цэнтральнае месца ў фізычным выхаваньні.

Павышаючы тэмп і глыбіню дыханьня, рухі адначасова ўзмацняюць сардэчную дзейнасьць, спрыяюць больш правільнаму разьмеркаваньню крыві і тым самым робяць спрыяючы ўплыў на агульныя працэсы абмену (лепшае ўсваеньне ежавага матар'ялу і энэргічнае вымываньне з тканак і выдаленьне з арганізму розных адкідаў і атрутных прадуктаў абмену).

Дашкольнік хоць і аўладаў асноўнымі рухамі—бег, хаджэньне, прыжкі, скачкі і г. д., аднак яны патрабуюць яшчэ ўдасканаленьня. Слаба разьвіты рухі сьвядомыя, якія патрабуюць саразьмеранасьці і дакладнасьці: напрыклад, пападаньне ў цэль, хаджэньне і бег па лініі, начэрчанай на падлозе, хадзьба парамі, трудавыя тэхнічныя ўменьні.

Асновы многіх важнейшых рухаў закладаюцца ў дашкольным узросьце, таму важна ў гэты пэрыяд стварыць у дзіцяці правільныя ўстаноўкі, дабіцца, каб рухі яго мелі правільны, чоткі і эканамічны характар. Ужо да канца дашкольнага ўзросту многія рухі дзіцяці набываюць прывычны аўтаматызаваны характар. Яны замацоўваюцца ў тым выглядзе, у якім дзіця карыстаецца ім у сваёй штодзённай дзейнасьці, і калі мы сваячасова шляхам сыстэматычнага рухацельнага выхаваньня не выпрацуем у дзіцяці правільных і дакладных разьмераных рухаў, выпраўляць ужо замацаваныя прывычныя рухі ў наступным (у школе) будзе вельмі цяжка. Між тым школе прыходзіцца пачынаць работу па фізвыхаваньню з таго, што яна павінна перавучваць дзіця, выпраўляць яго памылкі, змагацца з тымі неарганізаванымі рухамі і няправільнымі позамі, якія ўжо ў дашкольным узросьце, пры адсутнасьці сыстэматычнага фізвыхаваньня, сталі для дзіцяці прывычнымі. Практычнымі сродкамі рухальнага (маторнага) выхаваньня дашкольніка зьяўляецца:

а) арганізаваныя рухавыя гульні,

б) музыкальна-рыхтмічныя заняткі (арганізаваныя рухі з музычным акампанэмэнтам),

в) спартыўныя гульні і забавы (санкі, лыжы, канькі),

г) спэцыяльныя практыкаваньні: хаджэньне, бег, прыжкі, мятаньне, рухі з захоўваньнем роўнавагі; спэцыяльныя рухі тулава і канцавін у сыстэме зарадавай гімнастыкі,

д) свабодныя рухавыя гульні,

а) культура рухаў дзіцяці ў арганізаваных працоўных працэсах.

Некалькі слоў аб зарадавай гімнастыцы. Зарадавая гімнастыка складаецца з раду парадкавых вольных і натуральных рухаў. Асноўнай мэтай зарадкі— падрыхтаваць арганізаваць арганізм да работы, абудзіць рабочую энэргію стварыць бадзёрасьць, задорны настрой. Апрача таго, зарадка ў сувязі з агульным комплексам фізычных практыкаваньняў спрыяе агульнаму фізычнаму разьвіцьцю. Зарадка павінна праводзіцца з раніцы да сьнеданьня. Працягласьць яе ў старэйшай групе 3½—4 мінуты, у сярэдняй—2½ мінуты, у малодшай 2½ мінуты. Праводзіць яе лепш за ўсё на адкрытым паветры. У зімовы час можна праводзіць толькі ў добра вэнтыліраваным чыстым пакоі.

Рухі для зарадкі групіруюцца ў комплексы, якія складаюцца з пяці рухаў для старэйшай групы і з трох для малодшай групы. Штодзённа праводзіцца адзін комплекс, які паўтараецца 5—6 дзён, а потым прыступаюць да наступнага. Комплекс рухаў для зарадавай гімнастыкі складаецца прыблізна такім чынам: уводная маршыроўка і пастраеньне на гімнастыку, затым практыкаваньні на прапрацоўку верхняга плечавога пояса тулава, ніжніх канцавін, бег і заключнае—хаджэньне. Бег зьяўляецца лепшым сродкам для ўзмацненьня і ажыўленьня ўсіх фізыялёгічных працэсаў, а хаджэньне—супакойваючым практыкаваньнем. Падаем прыкладны комплекс для дзяцей 5—6 год:

1) Уводнае хаджэньне калёнай па аднаму і пастраеньне ў 4 зьвеньнявыя калёны.

2) Хлапкі прамымі рукамі, ногі розна, рукі ў бокі на шырыню плеч. Зрабіць хлапок прамымі рукамі на вышыні плеч і вярнуцца ў выходнае палажэньне. Пры хлапку сказаць „хлоп". Прарабіць 4—6 разоў.

3) Ногі розна, розныя выходныя палажэньні рук. Нагінаньне тулава ўніз і ўперад. Галава таксама апускаецца.

Пры нагінаньні дакрануцца падлогі рукамі, ня згінаючы кален. Пры згінаньні гаварыць „раз...“ прарабіць чатыры разы.

4) Поўнае прысяданьне з выцягваньнем рук уперад. Пры прысяданьні громка лічыць: раз, два, тры, чатыры... Прарабіць 3-4 разы.

5) Бег дзьвюма зьвёньневымі калёнамі побач з стаячымі. Абедзьве калёны бягуць вакол пляцоўкі да сваіх месц, затым бягуць іншыя дзьве. У часе бега стаячыя на месцы робяць крок на месцы. Пасьля бега зьвеньневыя калёны ідуць у затылак. Дабіцца дакладнасьці рухаў у дашкольніка цяжка, але патрабаваць каб уся група рабіла нагінаньні ў адзін бок, каб ва ўсіх была адна стойка, каб усе паднялі рукі ў бок, не ў гару—гэтага можна дабіцца.

З адстаючымі рабятамі можна прапрацаваць рухі ў другі час. Наогул у часе зарадкі не рэкамэндуюцца доўгія разгаворы і заўвагі аб няправільнасьці рухаў як асобных рабят, так і ўсёй групы з прычыны таго, што яны павялічваюць працягласьць зарадкі і зьніжаюць цікавасьць да яе. Затое трэба рухі без зарадкі прапрацаваць загадзя з дзецьмі па-за зарадкай ў другі час.

Перш чым мы прыступім да зарадкі, кіраўнік павінен грунтоўна вывучыць усе рухі. Непадрыхтаваны кіраўнік ня мае права прыступіць да зарадкі.

У мэтах азнаямленьня шырокіх колаў дашкольных работнікаў з зарадавай гімнастыкай, мы прапануем прапрацоўку гэтага пытаньня калектывам у гуртках па павышэньню кваліфікацыі і на курсах па падрыхтоўцы работнікаў. Заняткі павінны складацца з практычных лекцый па фізкультуры са спэцыялістам і з мэтадычнай прапрацоўкай гэтага пытаньня прыстасавальна да дашкольнага ўзросту.

Закранаючы пытаньне аб няправільнасьцях фізычнага выхаваньня ў нашых установах, мы павінны спыніцца таксама на мэтодыцы рэжымных момантаў у прыватнасьці ежы і ўмываньня. Для ілюстрацыі мы будзем спасылацца на матар‘ял Случынкінай і Чорнай, 6 ст. „Да рацыяналізацыі правядзеньня рэжымных момантаў“ у часопісі „Дошкольное воспитание“, № 8, за 1931 год.

Звычайнае зьявішча ў нашых садох: дзяцей ўсаджваюць за стол тады, калі яда яшчэ не гатова. Дзеці павінны сядзець і чакаць, пакуль на кухні закончаць рыхтаваць яду і нарэжуць хлеб. Чакаюць іншы раз да 15-20 мінут, затым абед альбо сьнеданьне, за якім дзеці праседжваюць больш гадзіны. Па дадзеных Случынкінай і Чорнай працяжнасьць падрыхтоўкі да ежы, працяжнасьць чаканьняў у прамежках паміж стравамі адымае 55 проц. усяго часу, які затрачваецца на абед. Часта прыходзіцца адзначаць значную стомленасьць дзяцей і ў сувязі з гэтым узбуджэньне. Некаторыя пэдагогі, каб падтрымаць дысцыпліну і парадак сярод дзяцей ў часе чаканьня, прапануюць ім закласьці рукі назад, каб яны ня пэцкалі місак. Зразумела, больш недарэчнага нельга ўжо і прыдумаць. Поза гэта ўжо ў вышэйшай ступені нязручная, ненатуральная і наўрад ці дапамагае арганізацыі дзяцей. У лепшым выпадку ўтвараецца вонкавая дысцыпліна. Але... дастаткова пэдагогу выйсьці з пакою, і стрыманасьць кампэнсуецца пасіленым узбуджэньнем.

Замест таго, каб накрыць стол загадзя (дзяжурныя могуць раней другіх дзяцей памыць рукі і накрыць на стол), у многіх установах гэта працэдура праводзіцца, калі большая частка дзяцей ўжо за сталом; чаканьне такім чынам працягваецца больш. Незаўсёды рацыяналізавана работа дзяжурных. Некаторыя пэдагогі патрабуюць, каб за дабаўкай для якога-небудзь дзіцяці абавязкова прыходзіў дзяжурны. У выніку дзяжурных часта адрываюць ад яды дзеля таго, каб яны аднесьлі прыбаўку ці разьнесьлі другую страву. Патрэбна ўтварыць дзяжурнаму спакойную абстаноўку для яды. За прыбаўкай можа прыходзіць кожнае дзіця само для сябе. Вопыт паказвае, што ніякай дэзарганізацыі і беспарадку гэта ня ўносіць. Але лепш загадзя раздаць ежу адпаведна апэтыту дзяцей і ня ўсім роўна. Гэта зьнішчыць неабходнасьць даваць прыбаўкі наогул. У 75 проц. выпадку пэдагог прапануе дзецям пачаць адначасова есьці. Калі ўлічыць папярэдняе чаканьне ежы 15-20 мінут, то зра-

зумела, якое напружаньне атрымаецца ў дзіцяці, асабліва калі каля яго стаіць ежа, і ён ня можа есьці. Да і дарэчы ежа стыне і робіцца менш смачнай. Трэба адмовіцца ад правіл, каб дзеці елі па сыгналу. Можна даць магчымасьць есьці як толькі атрымалі ежу, пры гэтым пэдагог павінен арганізаваць раздачу такім чынам, каб дзецям, якія ядуць павальней, раздаць у першую чаргу. У адносінах патрабаваньня цішыні і пакою таксама правільна прад'яўляць іх да сытага дзіцяці, а не да галоднага.

Выходзіць з-за стала дзеці могуць, калі частка дзяцей паела, асабліва ў старэйшых групах. Яны ідуць паласкаць зубы. Пры гэтым не ствараецца шуму і талкатні. Зусім лішняе чакаць пакуль паядуць усе дзеці да аднаго. Залішне таксама патрабаваць абсалютнай цішыні за сталом. Паеўшы, дзіця можа ціханька размаўляць са сваім суседам. Зразумела, такі навык трэба выхаваць у дзіцяці. Звычайнае зьявішча, калі пэдагог без канца робіць заўвагі дзецям. Запіс за адпаведнымі паводзінамі пэдагога паказвае, што на працягу 50-60 мінут робіцца да 50-60 заўваг. У рэзультаце дзеці нават перастаюць рэагаваць на гэтыя заўвагі, а некаторыя дзеці яшчэ больш узбуджаюцца, узьнікае канфлікт у часе ежы, дзіця перастае есьці, губляе апэтыт. Часты выпадкі высылак такога ўзбуджанага дзіцяці з-за стала, або перасаджваньне у часе ежы за асобны стол. Дзіця часта адмаўляецца есьці пасьля гэтага. Такія меры ўзьдзеяньня, вярней пакараньні, як пазбаўленьне ежы дзіцяці, бязумоўна недапушчальны. Наогул павінны быць унікнуты ўсякія канфлікты ў часе ежы. Калі мы адмовімся ад патрабаваньня абсалютнай цішыні, скарацім чаканьне дзяцей, паскорым працэс раздачы ежы, рацыянілізуем работу дзяжурных, мы гэтым самым даб'емся сьвядомай арганізаванасьці дзяцей.

Побач з рацыяналізацыяй працэсу ежы неабходна рацыяналізаваць і мыцьцё рук перад ежай. Мы павінны адмовіцца ад агульнапрынятай чаргі ў чаканьні мыцьця рук. Назіраньні паказваюць, што некаторым дзецям прыходзіцца чакаць да 20 мінут, пакуль даходзіць да іх чарга. Ясна, што дзіця ўзбуджаецца, а ў некаторых дзяцей ўзьнікае агіда да гэтай працэдуры. Як унікнуць чаргі? Дзіцячы сад павінен мець патрэбную колькасьць умывальнікаў ці кранаў, з разьліку адзін кран на 7—8 чал. Гэта зусім ня значыць, што кожная група павінна мець гэтую колькасьць. Калі ўмывальнікі ці краны знаходзяцца ў асобным пакоі, то трэба так рэгуляваць распарадак дня, каб адна група ішла мыцца раней, другая пазьней. Калі ўмывальнік знаходзіцца ў самай групе, то можна на час ўмываньня прыносіць іх з другой групы. Пры наяўнасьці ўмывальнікаў ці кранаў ў групах, дзеці ўвесь час падходзяць, адны ўбіраюць, другія канчаюць сваю работу. І тады няма патрэбы ні ў якай чарзе. Ва ўмовах ўмывальнага пакою можна па некалькі чалавек дзяцей, якія ўжо аўладалі навыкам, пасылаць самі, з астатнімі ідзе сама кіраўніца. Ва ўсякім выпадку чаргі не павінна быць. Яна не садзейнічае арганізаванасьці і разьвіцьцю калектыўных навыкаў, як думаюць некаторыя пэдагогі, а, наадварот, выклікае ператамленьне, пераўзбуджэньне рабят. Зрывы і бурныя рэакцыі ўзбуджэньня могуць адбыцца потым за ежай, перад сном, на прагулцы. Недарма найбольш трудныя ў выхаваўчых адносінах дзеці выяўляюць сваю труднасьць у рэжымныя моманты.

Мы ведаем цэлы рад адмоўных момантаў у жыцьці нашых дашкольных установу, намецілі некаторыя шляхі іх выпраўленьня. Бліжэйшая задача кожнага дзіцячага саду-прааналізаваць сваю работу па лініі фізычнага выхаваньня, выправіць існуючыя недахопы, фіксаваць сваю ўвагу на аздараўленьні дашкольніка і такім шляхам выканаць пастанову ЦК партыі аб палепшаньні якасьці работы. [illegible] зьліць, што фізычнае выхаваньне зусім ня трэба разумець, як асобныя моманты рэжыму дзіцячага саду. Момант фізычнага аздараўленьня павінен пранізваць усю пэдагагічную работу. Пытаньне рабочай позы, падбор заняткаў зьмена іх, арганізацыя,—усё гэта наша штодзённая плянавая работа, і яна павінна быць так арганізавана і праведзена, каб садзейнічаць фізычнаму разьвіцьцю дзіцяці, а не наадварот.

У заключэньне мы хочам падкрэсьліць, што ўсе гэтыя задачы могуць быць ажыцьцёўлены шляхам мобілізацыі ўвагі да гэтага пытаньня ўсіх супрацоўнікаў дзіцячага саду і бацькоў.

Некалькі слоў аб рабоце доктара. Мы ня можам сказаць, што работа яго ў дашкольных установах нас задавальняе. Нашы дактары ня ўлічваюць спэцыфічную работу дзіцячага саду. Цэлы рад упушчэньняў гігіенічнага харктару і недастатковай ўвагі фізычнаму выхаваньню мы мелі ва ўстановах, якія абслугоўваюцца дактарамі. Нашы дактары ў большай частцы абмяжоўваюцца аглядам дзяцей, запаўненьнем карткі-і выкананьнем прышчэпак.

Нямногія пэдагогі і бацькі знаёмы са станам здароўя кожнага дзіцяці паасобку. Неабходна, каб доктар паведамляў пэдагогу пасьля дэтальнага агляду ці пагоршылася здароўе дзіцяцей, ці прыбылі яны ў вазе. Гэта было-бы найлепшым улікам і праверкай нашай работы. Многім садом не ўдаецца ўзважыць дзяцей за адсутнасьцю вагі і дальнасьцю амбуляторыі. Мы-б прапанавалі адпаведным органам набыць 2-3 перасоўных вагі для перавозкі па меры патрэбы ў дашкольныя ўстановы. Мы лічым, што ўрач павінен удзяляць больш увагі ў сваёй рабоце: пытаньням выкананьня рэжыму, гігіены, прышчапленьня культурна гігіенічных навыкаў дзецям і г. д. Доктар павінен улічыць, што ў нашы ўстановы ўліліся кадры пэдагогаў з каротка тэрміновых курсаў, недастакова кваліфікаваныя, якія слаба разьбіраюцца ў гэтых пытаньнях. Урач павінен быць інструктарам па гэтай частцы і патрабаваць выкананьня сваіх прадпісаньняў па лініі гігіены дзяцей. Трэба мабілізаваць увагу нашых работнікаў да пытаньня аб выкананьні гэтых прадпісаньняў. Вялікім недахопам мы лічым адсутнасьць хоць бы некалькіх дактароў, спэцыяльна прымацаваных да дашкольнай ўстановы, якія-б цікавіліся іменна гэтай галінай і супрацоўнічалі-б з дашкольна-мэтадычнай сэкцыяй ДВС. Мы зьвяртаемся да таварышоў дактароў, каб яны выказаліся на старонках друку па ўсіх гэтых пытаньнях, выявілі існуючыя недахопы, а таксама тое, што тармозіць іх работу, намецілі-б далейшыя шляхі для сумеснай работы пэдагогаў і доктара, для выкананьня стаячых перад намі задач-выхаваньня здаровай, камуністычна накіраванай зьмены.

Г. Сагаловіч

## Да пытаньня аб мэтодыцы процантных вылічэньняў

У гэтым невялікім артыкуле хачу застанавіцца на адным пытаньні з нашай школьнай практыкі, якое, па маёй думцы, заслугоўвае ўвагі выкладчыкаў матэматыкі.

Пытаньне гэтае зусім простае, але многімі вучнямі, нават і такімі, якія з посьпехам вучацца па матэматыцы, разьвязваецца няправільна.

Няхай нам трэба вырашыць гэтае пытаньне:

На колькі процантаў скараціцца тэрмін выкананьня прамфінпляну фабрыкі, калі прадукцыйнасьць работы рабочых павысіцца на 25 проц.?

А калі гэтак, дык на колькі процантаў скараціцца тэрмін выкананьня прамфінпляну ад павышэньня прадукцыйнасьці на 50 проц.

Звычайна няправільны адказ вучняў— тэрмін выкананьня прамфінпляну скараціцца на 50 проц.

Ну, а калі прадукцыйнасьць работы будзе паднята на 100 проц., дык за які тэрмін будзе выканан плян?

Апошняе пытаньне яскрава паказвае вучням, што мэтад разьвязваньня вышэйпастаўленых пытаньняў ня верны.

Зараз возьмем гэткае пытаньне:—На колькі процантаў павысіцца выработка рабочага за дзень, калі ён пачаў траціць на выраб адзінкі прадукцыі на 25 проц. менш часу?

Звычайна вучні даюць наступны няверны адказ,—што калі рабочы пачаў траціць на выраб адзінкі прадукцыі на 25 проц. менш часу, дык ён за дзень дасьць прадукцыі на 25 проц. больш.

Альбо возьмем зараз гэткую задачу:

На колькі процантаў хутчэй будзе выканан прамфінплян фабрыкі, калі колькасьць рабочых фабрыкі павялічана на 25 проц. і прадукцыйнасьць работы рабочых павысілася на 25 проц.? Звычайны няверны адказ:—Ад павялічэньня колькасьці рабочых на 25 проц. і павышэньня прадукцыйнасьці на 25 проц., час выкананьня прамфінпляну скароціцца на 50 проц.

Урэшце возьмем яшчэ адну задачу:

На колькі процантаў павысіцца рэальная зарплата рабочага, калі намінальную яго зарплату павысім на 40 проц., і цэны на тавар зьнізім на 30 проц?

Звычайны няправільны адказ наступны: Ад павышэньня намінальнай зарплаты на 40 проц., і зьніжэньня цэн на 30 проц, рэальная зарплата рабочага павышаецца на 70 проц.

Зараз займемся высьвятленьнем таго, чаму гэтыя, на першы погляд, звычайныя задачы разьвязваюцца многімі нашымі вучнямі няправільна.

Вучні, да гэтага часу, калі яны пачынаюць разьвязваць падобныя пытаньні, павінны сабе ўявіць сутнасьць прапарцыянальнасьці дзьвёх вялічынь, як простай, так і адваротнай.

Тэрмін выкананьня пляну фабрыкі і прадукцыйнасьць работы рабочых-вялічыні адваротна прапарцыянальныя, а таму калі прадукцыйнасьць работы рабочых паднялася на 25 проц, альбо павялічылася ў $1^1/_4$ разы, дык і тэрмін выкананьня прамфінпляну павінен быць паменшан у $1^1/_4$ разы, гэта азначае, што тэрмін выкананьня множыцца на $^4/_5$, альбо скарачаецца на $^1/_5$, што адзначае 20 проц. І такім чынам, ад павялічэньня прадукцыйнасьці работы рабочых на 25 проц. тэрмін выкананьня прамфінпляну скароціцца толькі на 20 проц.

Ад павышэньня прадукцыйнасьці працы рабочых на 50 проц. альбо ў $1^1/_2$ разы, тэрмін выкананьня прамфінпляну паменшыцца ў $1^1/_2$ разы, г. з., што ён множыцца на $^2/_3$, альбо скарачаецца на $^1/_3$, што азначае 33 і $^1/_3$ проц., і такім чынам ад павышэньня прадукцыйнасьці работы на 50 проц., тэрмін выкананьня прамфінпляну скароціцца толькі на 33 $^1/_3$ проц.

Колькасьць прадукцыі, якую рабочы дае ў дзень адваротна прапарцыянальна часу, які рабочы затрачвае на выраб адзінкі прадукцыі, а таму, калі рабочы пачаў траціць на выраб адзінкі прадукцыі на 25 проц. менш часу, альбо $^3/_4$ ранейшага часу, дык колькасьць прадукцыі, якую рабочы дасьць за дзень павялічыцца ў $^4/_3$ разы, што дае павялічэньне на $^1/_3$, альбо $33^1/_3$ проц.

Такім чынам, на запытаньне—які ўплыў робіць на скарачэньне тэрміну выкананьня прамфінпляну фабрыкі павялічэньне колькасьці рабочых на 25 проц. і павышэньне прадукцыйнасьці працы на 25 проц., адказ павінен быць наступны:

Ад павышэньня колькасьці рабочых на 25 проц., альбо ў $1^1/_4$ разы, і ад павышэньня прадукцыйнасьці працы на 25 проц., альбо таксама $1^1/_4$ разы, тэрмін выкананьня прамфінпляну павінен зьменшыцца ў $1^1/_4 = {}^{25}/_{16}$ разы, а гэта азначае, што тэрмін множыцца на $^{16}/_{25}$, што дае скарачэньне на $^9/_{25}$, ці на 36 проц.

Урэшце разьвяжам апошнюю задачу. Які ўплыў робіць на павялічэньне рэальнай зарплаты павялічэньне намінальнай зарплаты на 40 проц. і зьніжэньне цэн на 30 проц?

Ад павялічэньня намінальнай зарплаты на 40 проц., альбо ў 1,4 разы і рэальная зарплата павялічыцца ў 1,4 разы, а ад зьніжэньня цэн на 30 проц., альбо ад множаньня цэн на 0,7, рэальная зарплата падзеліцца на 0,7, а таму рэальная зар-

плата ў канечным ітозе павялічыцца ў $\frac{1,4}{0,7} = 2$ разы, альбо на 100 проц.

І сапраўды, калі сёньня рабочы зарабляе 100 руб, можа набыць сабе 100 прадметаў па 1 рублю, дык зарабляючы на 40 проц. больш, г. зн. 140 р., і плоцячы за кожны прадмет на 30 проц. менш, г. зн. 70 кап., зможа сабе набыць 140 р. : 70 к. = 200 прадметаў, што дае павялічэньне рэальнай зарплаты на 100 проц.

Задачы, разьвязаныя намі вышэй, жыцьцём ставяцца даволі часта і школа, бязумоўна, павінна імі зацікавіцца.

# БІБЛІЯГРАФІЯ

## Таксама „прадукцыя“

(*Пра адзін падручнік*)

У зьнішчэньні карэннага недахопу школы, які „у даны момант заключаецца ў тым, што навучаньне ў школе не дае дастатковага аб'ёму агульна-адукацыйных ведаў і нездавальняюча вырашае задачу падрыхтоўкі для тэхнікумаў і для вышэйшай школы зусім пісьменных людзей, якія добра ўладаюць асновамі навук (фізыка, хэмія, матэматыка, родная мова, геаграфія ды інш.“ з пастановы ЦК УсеКП(б ад 5.IX. 1931),—не апошнюю ролю павінен адыграць падручнік. Для таго, каб ён мог выканаць сваю ролю, падручнік павінен даць патрэбны аб'ём навучальнага матар'ялу, выкладзенага даступна, але навукова, у марксыцкім асьвятленьні. Іначай замест дапамогі, якую падручнік павінен аказаць школе ў падрыхтоўцы ўсебакова разьвітых будаўнікоў сацыялізму, ён можа прынесьці толькі шкоду.

Да катэгорыі шкодных падручнікаў, якія пагражаюць не навучыць, а пакалечыць вучняў, і заблытаць неспрактыкаванага настаўніка, можна было-б аднесьці і „Рабочую кнігу па прыродазнаўстве для VII году навучаньня“, ч. I і II, напісаную групай настаўнікаў Магілеўскіх школ (Ф. Макарэня, Дунаева, Хамякова, Сокалава, Кандрацэнка, Валуска, Рунцо і Сянкевіч) Кажу, „можна было-б“ таму, што шкоднасьць гэтай кніжкі ў значнай ступені паралізуецца яе няпісьменнасьцю. Наўрад ці прыме яе ўсур'ёз настаўнік мала-мальскі кваліфікаваны.—(Хаця—раз знайшліся настаўнікі, якія маглі напісаць такую кніжку, дык могуць знайсьціся і такія, што карыстаюцца ёю бяз усякіх засьцярог і сумненьняў). Так ці іначай, але абыйсьці маўчаньнем факт зьяўленьня ў канцы 1931 г., пасьля пастановы ЦК УсеКП(б) аб сярэдняй і ніжэйшай школе, падобнага падручніка, нельга.

Задачу сваю як „рабочая“ кніжка ня выконвае і выканаць ня можа, бо хоць аўтары і лічаць, што „шмат практычных работ... можна зрабіць пры некаторых захадах з боку выкладчыка нават і ў недастаткова абсталяванай... школе“ (з прадмовы кніжкі), але даволі прагледзець рэцэптурную частку кніжкі, каб убачыць, што „недастаткова абсталяваная“ школа павінна мець шкілеты чалавека, кошкі, птушкі, мікроскоп, калекцыю гісталёгічных прэпаратаў, тэрмостат і г. д. Такога абсталяваньня масавая школа—сямігодка ў вялізарнай большасьці выпадкаў яшчэ ня мае, і з гэтым трэба лічыцца. Справа не вырашаецца так проста як гэта прадстаўляюць сабе аўтары: „некаторыя захады з боку выкладчыка“—і гатова.

Але з гэтым можна было-б яшчэ пагадзіцца, каб ня грубейшыя памылкі, шчодра рассыпаныя па старонках абедзьвюх частак кніжкі.

Вось, напрыклад, узор стылю: „У нашым целе заўсёды адбываюцца тыя ці іншыя рухі. З гэтых рухаў складаецца работа нашага цела, на якую патрабуецца значная частка энэргіі арганізму. З чаго-ж складаюцца ўсе гэтыя рухі. Яны складаюцца з рухаў нашых цягліц“... і г. д. На працягу 14 радкоў 7 (сем) раз паўтараецца слова „складаецца“, „складаюцца“, „складаюць“, „склад“. (ч. I, ст. 7). Бездапаможнасьць у карыстаньні словам, якую можна цярпець у вучня 5 гр, але не у аўтараў падручніка. Стыль усяе кнігі мала чым адрозьніваецца ад стылю паданай выпіскі. Яшчэ адзін прыклад: „прырода клапоціцца аб знадворнасьці ледзь настолькі, наколькі гэта зьнешнасьць карысна якой-небудзь істоце“ (ч. II, ст. 92; цытата з Дарвіна).

Правілы сынтаксычнага кіраваньня аўтараў не датычацца. У кніжцы можна сустрэць такія выразы, як „... два ніжніх рэбры...“ (ч. I, ст. 10), аьбо—„шчупак, сом, вокунь і акулу чалавек адносіць да групы (клясы) рыб“ (ч. II. ст. 81.). Ня рэдкасьць і сказы проста пазбаўлены ўсялякага сэнсу. Для прыкладу: „Зараз мы павінны ўявіць сабе значэньне колькасьці хромозом, вядомае пад назвай рэдукцыі хроматыну“ (ч. II, ст. 26). Або: „Утварэньне з аднае каморкі шматкаморкавае называецца драбленьнем“. (ч.II, ст. 31). Такіх прыкладаў можна навыпісваць дзесяткі.

Дайце, т. т. настаўнікі, такую кніжку вучням,—хай на іх дзейнічае аўтарытэт друкаванага слова. аўтарытэт аднаго з падручнікаў, напісаных спэцыяльна для савецкай палітэхнічнай школы. А пасьля шукайце прычын іх няпісьменнасьці, ламайце сабе галовы на пэдагогічных нарадах—якія меры трэба ужыць, каб вучні умелі ўладаць роднаю мовай.

З граматычнай няпісьменнасьці кніжкі лёгічна выцякае яе няпісьменнасьць прыродазнаўчая. Разлад аўтараў з элемэнтарнай граматыкай не дазваляе ім „дапамагчы і настаўніку і вучням у прапрацоўцы адпаведнага праграмнага матар'ялу“, што яны саманадзейна дэкляруюць у прадмове да свайго падручніка.

Вось прыклады для ілюстрацыі ўзроўню прыродазнаўчага матар'ялу кніжкі. На ст. 7, ч. 1, мы даведваемся, што „хрыбеткі падзяляюцца на асобныя часткі: шыйныя, грудныя, паясьнічныя, крыжавыя і хвастковыя“. Там-жа, на 41 й ст.—„малочныя зубы паступова зьмяняюцца сталымі, карэннымі зубамі“. Праўда, праз пару радкоў аўтары здаюць пазыцыі і прызнаюць, што пярэднія 4 зубы, зьверху і зьнізу, называюцца разцамі“. І гэта не спэцыяльна вышуканыя, рэдкія месцы ў падручніку. Можна прывесьці цэлыя параграфы падобнага зьмес-

ту. „Апрача кіслароду гэмаглёбін крыві злучаецца яшчэ з вуглякіслым газам і утварае з ім надзвычайна моцнае злучэньне. Дзеля гэтага самая малая колькасьць чаду, якая ёсьць у пакоі, атручвае арганізм і трэба асабліва даглядаць печы зачыняць іх, калі ў іх ня будзе ўжо сініх агенчыкаў над вуглямі. Калі сінія агенчыкі яшчэ ёсьць, гэта значыць, што згарае вуглякіслы газ. Адзін з атрутных газаў—фосген ($cocl_2$) таксама зьяўляецца злучэньнем вуглякіслага газу з хлёрам, фосген, злучыўшыся з крывёю, атручвае яе“.

З гэтай даволі доўгай выпіскі (цэлы параграф, пад назваю „Зьмена складу крыві пры яе атручваньні“, ч. І, ст. 61, падкрэсьлена мною—А. М.) цяжка зразумець, ці аўтары сур'ёзна думаюць, што „вуглякіслы газ“ і „чадны газ“ сынонімы, ці яны проста ня маюць паняцьця аб тых працэсах, якія так адважна імі апісваюцца. Мова „падводзіць“, ці проста „легкость необычайная в мыслях?“

Не дадуць адказу на гэтае пытаньне і практычныя работы, якія прапануюцца „рабочай кнігай“. Так, на ст.38, ч. І. зьмешчана „Работа 7. Дасьледваньне этару і бэнзыны“. З апісаньня работы відаць, што справа ідзе не пра этар, а пра выяўленьне тлушчаў у муцэ, пры дапамозе этару і бэнзыны. Яшчэ адна: „Работа 18. Дальтонізм. Для гэтага трэба мець шпагат, шпульку, чорную і белую паперу, нажніцы, клей, сантымэтравую істужку і кутамер“ (ч. І, ст. 118). Можна яшчэ мець дзіцячую калыску, апэндыцыт, вянок цыбулі і, нарэшце, зайчыкі ў галаве, але зусім ня мець дальтанізму. І наогул, дальтанізм—прыроджаны недахоп і выклікаць яго экспэрымэнтальна нельга. У кожным выпадку—непажадана. Гэта і ня трэба, не палохайцеся: ў рабоце 18-й пра дальтанізм няма ні слова.

Ну, а ніжэй вось паданыя выпіскі, „зразумелы“ і без камэнтараў.

„У тых жывёл, дзе бацькі не клапоцяцца аб дзецях і умовы разьвіцьця мала выгадныя саміцы адкладваюць яйкі“ (ч. ІІ, ст. 25).

Паводле Мэндэлееўскай тэорыі адзін прызнак бацькоў можа быць мацнейшым за другі, а дзеля гэтага мацнейшы не дае магчымасьці выявіць сябе нароўні з першым. Дзякуючы гэтаму палажэньню гібрыд бывае падобны з адным якім-небудзь з прызнакоў бацькоў“ (ч. ІІ. ст. 51).

Аўтары працягваюць выпісваць дзівосы і там, дзе ім удаецца ўнікнуць відавочных канфліктаў з граматыкай.

На ст. 45, ч. ІІ знаходзім аўтарытэтнае сьцьверджаньне: „Усе ангельскія сьвіньні называюцца ёркшырскімі“. Там-жа, на ст. 79, ёсьць запытаньне: „З якіх арганізмаў складаюцца дрэўныя лішаі? Хто з іх смокча сокі дрэва і хто жывіцца з паветра?“ Лішай прадстаўляе сабою сужыцьцё (сымбіоз) грыба і вадароста, прычым ні грыб, ні вадарост ня „смокчуць сокі дрэва“. Лішай як цэлае, ёсьць арганізм, які жыве „за свой кошт“ (аўтатрофны), і ня мае патрэбы ў субстраце як у крыніцы жыўленьня. Гэтая ісьціна выкладаецца на старонках любога падручніка батанікі, але што да гэтага аўтарам.

Там, дзе аўтары бяруцца крытыкаваць буржуазныя плыні ў біалёгіі,—таксама атрымліваюцца жалю годныя вынікі. На ст. 95, ч. ІІ, аўтары прыводзяць погляды антыдарвіністаў Бэрга і Собалева: „Мэтазгоднасьць, яны кажуць (Бэрг і Собалеў), закладзена ў кожную жывую істоту“. З гэтага робіцца правільны вывад, што „Бэрг і Собалеў сваімі разважаньнямі даюць мажлівасьць рэлігійнікам рабіць спробы ўвязкі „Эволюцыі з верай“. Вернемся на старонку 18 гэтай-жа ІІ ч. кніжкі, і прачытаем: „Кветкі, якія апылкоўваюцца казюлькамі (так аўтары часам называюць шасьціножак. А. М.) для таго каб іх прывабіць да сябе, маюць прыгожую афарбоўку, прыемны пах і салодкі сокнэктар“. (падкрэсьлена мною: А. М.) Тэлеолёгія нічым ня горшая за Бэргаўскую, толькі выказаная ў грубейшай форме.

З Энгельсам аўтары ўхітрыліся зрабіць такі фокус: бярэцца правільнае палажэньне, падмацоўваецца цытатаю з „Дыялектыкі прыроды“, і ў выніку атрымліваецца.. тая-ж тэлеолёгія.

„У прыродзе разьвіцьцё ідзе дыялектычна ізьяўляецца сынтэзам зьмяняльнасьці і спадчыннасьці. Дыялектычную пастаноўку гэтага пытаньня мы сустракаем (!) у Ф. Энгельса“. Далей прыводзіцца цытата з „Дыялектыкі прыроды“ (паміж іншым, з пропускамі, ніяк не адзначанымі), дзе разглядаецца змаганьне спадчыннасьці і прыстасаваньня. („Д. П“., ст. 43). З цытаты робіцца вывад: „Гэта ўсё падкрэсьлівае, што зьмянялынасьць і спадчыннасьць—дзьве родныя сястры адзінага эволюцыйнага працэсу і знаходзяцца ў гэтым працэсе неразлучна і зьвязна паміж сабой і неразрыўна адна з адною. Зьмянялынасьць і спадчыннасьць—вынік скрыжаваньня“.(!) (ч. ІІ, ст. 35 пакрэсьлена ўсюды мною. *А. М.*) Апошняе сьцьверджаньне ёсьць відавочная бязглуздзіца, і таму мы пакідаем яго без увагі, таксама як і параўнаньні з „роднымі сёстрамі“. Тут справа ў тым, што аўтары, з уласьцівай ім лёгкасьцю, ставяць знак роўнасьці паміж паняцьцямі „прыстасаваньне“ і „зьмянялынасьць“. Іначай кажучы, зьмянялынасьць арганізмаў накіравана, паводле аўтараў, у бок найлепшага прыстасаваньня. А гэта вымагае прызнаньня ў арганізьме ўнутранай сілы, якая абумоў, лівала-б успомненую мэтазгодную накіраванасьць. У суме—тэлеолёгія і папоўшчына псыхолямаркістаў, супроць якіх на 94 ст. гэтай-жа кніжкі выступаюць аўтары.

Нават рысункі, трапіўшы ў рукі аўтараў, зацямняюць, а не паясьняюць і без таго непрагляднны тэкст. На ст. 24, ч ІІ, рыс. 30 мае надпіс: „сьвежае яйка курыцы (ў разрэзе)“. Гэты-ж рысунак паўтараецца там-жа на ст. 31, пад другім № і другою назвай—„рыс. 42. Зародак наседжанага курынага яйка“. Якое-ж гэта, урэшце, яйка—сьвежае ці наседжанае? Да аднаго з рысункаў ёсьць такое тлумачэньне ў тэксьце: „на рыс. 34 схэматычна паказаны працэс дасьпяваньня жывучкаў у аскарыды“. Жыўчыкі—гэта мужчынскія родавыя каморкі (спэрматазоіды). А пад самым рысункам надпіс: „Рыс. 34. Схэма рэдукцыі жаночага хроматыну ў конскай аскарыды“ (ч. ІІ, ст 26, падкрэсьлена мною. *А. М.*).

Для большай паўнаты малюнку спынімся яшчэ на тэрміналёгіі, якая ўжываецца ў кніжцы. Пасьля таго, як мы былі сьведкамі расправы аўтараў з фактамі, некаторая „нядбайнасьць“ да тэрміналёгіі не павінна нас зьдзіўляць. І так: цягліцы называюцца „палосчатыя“, і праз радок—„паскаватыя“, эргограф упарта пазываецца „эрограф“, шасьціножкі—„шасьціножкі“ і „казюлькі“, кала-

сковыя—„каласьняковыя“, ляшчына—„ляшчэвіна“ і „ляшчэўнік“, таполя—„тополь“ і „топаль“ і г. д.

Праўда, што беларуская навуковая тэрміналёгія яшчэ не устаноўлена канчаткова (і на гэтай падставе ў навуковай і навучальнай беларускай літаратуры, у прыватнасьці ў школьных праграмах НКАсьветы, бушуе тэрміналёгічная „свистопляска“), — але пільнаваліся-б аўтары, хоць у межах аднэй кніжкі, аднастойных тэрмінаў, хай сабе самых няўдалых створаных па прынцыпе „тяп-ляп, вот и корап“. Ілюстрацыяй такога прынцыпу ў „Рабочай кнізе“ зьяўляецца пераклад тэрміну Mammalia (парасійску „млекопитающие“) словам „млекоядныя“. Гэта ужо выходзіць за межы нядбайнасьці да тэрміналёгіі. Сысуны (беларускі тэрмін, роўназначны расійскаму „млекопитающие“) атрымалі сваю назву затое, што іх дзеці ссуць малако сваіх матак (г. ё. маткі „питают“ сваіх дзяцей малаком), а не затое, што яны самі „ядуць малако“. Пасьля „млекаядных“ ня робіць асаблівага ўражаньня і такая заява: „З ікрынкі (жабінай), па сканчэньні зародкавага разьвіцьця, атрымліваецца вусень (!) які добра ўсім вядомы пад назвай галавасьціка“ (ч. II, ст. 33.).

Скончым на гэтым выпісваньне прыкладаў, бо інакш прышлося-б перапісаць амаль усю кніжку. Яшчэ толькі адно. Цяжка ўтрымацца, каб не адзначыць, што, нарэшце, ужо пад канец кніжкі аўтары дапісаліся да „бясхрыбетнікавых расьлін“.

У прадмове да кніжкі аўтары пішуць наступнае: „Пры складаньні „Рабочай кнігі па прыродазнаўстве для сёмае клясы школы ФЗС і ШКМ“ мы ставілі сваёй задачай даць вучням патрэбны матар'ял, пасьля прапрацоўкі якога яны змаглі-б правільна зразумець прынцыпы арганізацыі працы, а таксама выпрацаваць дыялектычна-матэрыялістычнае (марксысцкае) разуменьне прыроды, месца і ролю працоўнага чалавека ў гэтай прыродзе“. І далей—„Мы ведаем, што складзеная намі кніга мае шмат недахопаў... Але ўсё-ж такі мы лічым, што гэта кніга ў значнай ступені (!) можа дапамагчы і настаўніку і вучням у прапрацоўцы адпаведнага праграмнага матар'ялу“ (!!) (падкрэсьлена мною. А. М.)

Такая дэкларацыя абавязвае даць сапраўды каштоўны матар'ял. Як гэты абавязак аўтарамі выкананы—мы бачылі. Але адказнасьць за зьяўленьне на сьвет гэтай нясусьветнай мазьні нясуць ня толькі аўтары. Большая доля адказнасьці павінна легчы на тых, хто дапусьціў да друку такую „прадукцыю“. Інакш кажучы, на тых работнікаў Мэтадкому, і Дзярж. Выд. Беларусі, праз рукі якіх праходзіў рукапіс. На тытульнай старонцы першай часткі падручніка красуецца віза: „Навукова-мэтодолёгічным камітэтам пры НКАБ дапушчана ў якасьці падручніка для VII году навучаньня ў ФЗС, КС і ШКМ“. Дзе былі вочы ў Навукова-мэтадолёгічнага камітэту, калі ён клаў гэтую візу? Прыходзіцца дапусьціць адно з двух: альбо паданыя вышэй пасулы аўтараў даць каштоўны марксысцкі матар'ял настолькі заваражылі рэдактару Мэтадкому, што яны падпісалі рукапіс да друку не пасьпеўшы яго прачытаць, альбо—што кваліфікацыя рэдактароў не перавышала кваліфікацыі аўтараў. Узровень „кваліфікацыі“- стыль рэдактара і карэктара ДВБ (на адвароце тытульнай старонкі ІІ-й часткі кнігі паказаны прозьвішчы: „Літ. праўка—Бяльковіч, карэктар Шапіра“) ёсьць відавочны. Чытач можа застацца ў непаразуменьні толькі наконт таго, якая доля стылістычных дзівосаў кніжкі павінна быць аднесена не за кошт аўтараў, а за кошт „літаратурнай“ праўкі ў Дзярж. Выд. Беларусі?

Як бы ні было, але факт выхаду з друку (тыраж 15 тысяч!) макулятуры, пад гучнаю назвай „Рабочая кніга па прыродазнаўстве для VII году навучаньня“, застаецца фактам, з усімі з гэтага вывадамі. Дзяржаўныя сродкі затрачаны на тое, каб на кніжны рынак і ў школы трапіла замест падручніка, так патрэбнага школе, шкодная мазьня.

Вывады з гэтага факту напрошваюцца самі:

1. Кніжку трэба зьняць з продажу.

2. Работнікі, па віне якіх яна была надрукавана, павінны панесьці адказнасьць.

3. Дзяржаўны Вучоны Савет. і Дзярж. Выд. Беларусі павінны яшчэ больш завастрыць увагу на якасьць навучальнай літаратуры, якая імі выпускаецца. За адзін год гэта ужо другі выпадак выпуску нягоднага падручніка (першы меў месца з падручнікам Бляхера „Неарганічная хэмія“). Далейшае паўтарэньне падобных выпадкаў было-б недапушчальным. Савецкая палітэхнічная школа мае права і павінна атрымаць такі падручнік, які сапраўды мог дапамагчы ёй у справе выкананьня пастановы ЦК УсеКП(б) аб сярэдняй і ніжэйшай школе. Стварэньне такога падручніка ёсьць задача, у першую чаргу, ДВС і ДВБ. Павышэньне адказнасьці ДВС і ДВБ за якасьць сваёй прадукцыі, ня зьнімае абавязку і з шырокіх мас настаўніцтва—сваячасова выкрываць і даваць рашучы адпор усім спробам працягнуць у савецкую школу няпісьменную мазьню, прыкрываючы яе „марксысцкай“ фразэалёгіяй.

**А. Мацейчык.**

---

### П. Буйвалінскі „З богам і мячом“.

З-пад пяра маладога беларускага вайсковага пісьменьніка Пятра Буйвалінскага вышла ў сьвет невялікая па аб'ёму, але цэнная па зьместу брашура, пад назвай „З богам і мячом“. Брашура выдадзена Дзяржаўным выдавецтвам Беларусі (сэктарам вайсковай літаратуры) у ліку 5000 экзэмпляраў.

Мэта, якую паставіў перад сабою аўтар брашуры, дасягнута. Аўтар каротка і выразна адлюстраваў перад чытачом найбольш яскравыя часткі „духоўнага“ абману, адбіў характэрнейшыя віды спрыту духавенства паасобных колераў і сэктаў, яшчэ раз напомніў, як гэта чорная свора лгуноў і атуманіцеляў працоўных, праз увесь час свайго існаваньня наносіла і наносіць нязьмерную шкоду працоўным усяго сьвету і дае параду, як з гэтым злом змагацца. Асабліва-ж выпучана шкадная дзейнасьць духавенства сярод войск капіталістычных краін і гэта зрабіць было неабходна, бо капіталістычная сыстэма адрэлігійнага дурману добраволька

ніколі, не адмовіцца. Гэта-ж яе апора і з гэтым злом працоўным усяго сьвету неабходна змагацца.

Апранутыя ў салдацкія шынэлі працоўныя масы, прыгнечаныя камандваньнем свайго заклятага ворага, буржуазнага афіцэрства, пад пагрозай суровай ваеннай дысцыпліны, пад апекай чорнае рэлігійнае своры-духавенства, яны пазбаўлены магчымасьці бачыць сьвет, бачыць праўду. Перад імі стаіць нялёгкая задача разьбіць усё гэта, стары мір зьніштожыць, зьняць з сябе апеку чорных воранаў і пачаць жыць па-новаму, пачаць жыць па-бальшавіцку.

І тут у дапамогу працоўным масам у капіталістычных атуманеных рэлігіяй краёх, у дапамогу ўзброеным, паходзячым з працоўных мас элемэнтам, Буйвалінскі кідаецца са сваёй маладой пачынаючай сілай, сьпяшыцьз растлумачальным словам, вучыць як змагацца, як жыць.

Апрача таго, кожнаму з нас вядома, што сярод некаторай часткі нашага вясковага і мястэчкавага сэктару, сярод усіх існуючых на тэрыторыі Савецкага саюзу нацый і рэлігій і да сёньняшняга дню ящчэ ёсьць нязначная частка насельніцтва, якая ящчэ не магла вызваліцца ад рэлігійнага „духоўнага“ чаду.

Каб разьбіць рэшткі гэтых уплываў чарнасоценнага духавенства ўсіх масьцей і колераў, і каб выявіць сапраўдны твар яго жыцьця, яго хлусьні, каб дапамагчы працоўным дакладней разьбірацца, ў „сьвятасьці“ бога і яго „духоўных айцоў“, праца Буйвалінскага і тут, на гэтым вучастку, зьяўляецца магутнай зброяй, неабходным аружжам.

З брашурай неабходна пазнаёміцца, як паасобнаму слухачу, так і кожнаму чытачу. Як надзвычайна цэнны і ўмела падабраны матар'ял, яна павінна быць выкарыстана пры ўсякага роду групавых чытках, пры антырэлігійных лекцыях, пры выступленьні на бязбожніцкіх пытаньнях.

Брашура лёгкая для чыткі кожнаму, нават, малапісьменнаму чытачу. А гэта таксама зьяўляецца яе плюсам.

З недахопаў брашуры трэба адзначыць: месцамі няўдалыя беларускія выразы, як „боскай лухтай“, начальніцтва, умацуюць мець, іхнія“. і недапушчальна грубы карэкгарскі недагляд, як „надалеп“, замест надай, Уладзімір—Уладзімір, бацішкі—бацюшкі, зады-з гады, к нкрэкпыі -канфэрэнцыі, ахтыўнага-актыўнага, імкуцца-імкнуцца і „шмат іншых, але ўсё гэта нічуць не ўмаляе вартасьці брашуры, бо яе форма ў ёй галоўнае, а зьмест, які як ужо адзначалася вышэй, аўтарам вытрыманы і дасягнуты.

Неабходна падбаць Дзяржвыдавецтву, каб брашура т. Буйвалінскага была даведзеца да масавага чытача, як да чырвонаармейца, так і да рабочага-калгасьніка, саўгасьніка і аднаасобніка.

М. Бурсэвіч

# ХРОНІКА

## Палажэньне аб кіраўніцтве школ, правах і абавязках загадчыка, яго намесьніка ды інш. працаўнікоў школы

### Агульная частка

„НКА саюзных рэспублік забясьпечыць ажыцьцяўленьне адзінаначальля ў кіраўніцтве школай. Прафсаюзным аргачізацыям аказаць у гэтай справе неабходную дапамогу органам народнае асьветы“.

У адпаведнасьці з дырэктывай ЦК партыі аб устанаўленьні адзінаначальля ў кіраўніцтве школай і строгай, выключаючай абязьлічку, адказнасьці за даручаную працу, НКА БССР устанаўляе наступнае разьмеркаваньне функцый у адзінай працоўнай савецкай палітэхнічнай школе.

### Загадчык школы, яго правы і абавязкі

1. Загадчык школай кіруе ўсім вучэбным, выканаўчым і адміністрацыйна-гаспадарчым жыцьцём школы і нясе на аснове адзінаначальля поўную адказнасьць за пастаноўку і становішча працы школы.

2. Загадчык школы прызначаецца гарадзкім або раённым Аддзелам народнае асьветы, у веданьні якога знаходзіцца школа.

3. Загадчык школы мае права:

а) прызначаць і звальняць намесьнікаў загадчыка і выкладчыкаў па ўзгадненьню з аддзелам Народнае Асьветы, прымаць на працу тэхнічны пэрсанал, звальняць тэхнічных працаўнікоў у даручанай яму школе;

б) зацьвярджаць гадавыя вытворчыя пляны і ўсе рабочыя пляны, устанаўляць належны кантроль за іх выкананьнем;

в) заключаць ад імя школы ўмову з прадпрыемствамі ды іншымі ўстановамі;

г) зацьвярджаць пастановы школьнага савету і ў выпадку свае нязгоды з яго пастановамі супыняць правядзеньне іх у жыцьцё.

д) устанаўляць правілы ўнутранага распарадку школы і накладаць на працаўнікоў школы пакараньні за парушэньне імі працоўнай дысцыпліны;

е) распускаць асобныя камісіі і вучнёўскія гурткі, калі апошнія сваёй працай не адпавядаюць, а супярэчаць вучэбна-выхаваўчым мэтам школы.

ж) устанаўляць адпавядаючыя канкрэтным умовам школы формы і мэтады вучэбнай і выхаваўчай працы, калі яны папярэдня правераны на практыцы і калі яны выходзяць з рашэньняў партыі і дырэктыў НКА;

з) непасрэдна распараджаецца ўсімі крэдытамі школы, як бюджэтамі, гэтак і спэцыяльнымі, у межах існуючых законапалажэньняў.

4. На загадчыка ўскладаецца адказнасьць:

а) За сваячасовы пачатак навучальнага году, за сваячасовае і поўнае ўкамплектаваньне школы вучнямі, поўны ахоп дзяцей школьнага ўзросту, якія жывуць у раёне школы і за акуратнае наведваньне вучнямі школы.

б) За падбор і мэтазгоднае скарыстаньне працаўнікоў школы (настаўнікаў і тэхпэрсаналу).

в) За сваячасовую прапрацоўку, аб'ем і якасьць усяго праграмнага матар'ялу па кожнай групе і ўсёй школе ў цэлым, за поўнае і цьвёрдае засваеньне вучнямі ўсяго аб'ёму ведаў, якія ўстанаўляюцца праграмамі НКАсьветы БССР.

г) За арганізацыю вытворчага навучаньня і грамадзкай працы вучняў на аснове падначаленьня грамадзка—вытворчае працы вучэбным і выхаваўчым мэтам школы і за поўную рэалізацыю ўмовы паміж школай і прадпрыемствам.

д) За складаньне і прапрацоўку гадавога вытворчага пляну школы, за прыняцьце мер, якія забясьпечваюць выкананьне пляну, за праверку працы пэдагогаў шляхам асабістага наведваньня вучэбных заняткаў у клясах, майстэрнях, працоўных пакоях, лябораторыях, габінэтах і на прадпрыемствах.

е) За арганізацыю працы школьнага саветупрыцягненьне рабочай грамадзкасьці да ўдзелу ў працы школы, арганізацыю, пры апоры на камсод, працы з бацькамі і вядзеньне праз школу сярод рабочых прадпрыемства, калгасьнікаў і працоўнага насельніцтва пэдагагічнай прапаганды.

ж) За становішча і працу вучнёўскіх арганізацый.

з) За становішча ў школе працоўнай дысцыпліны вучняў і выкладчыкаў.

і) За арганізацыю спрыяючых ўмоў працы для дзяцей рабочых, калгасьнікаў і бяднейшых пластоў працоўнага насельніцтва, забесьпячэньня ім дапамогі і ўвагі з боку ўсяго пэдкалектыву.

к) За пастаноўку камуністычнага выхаваньня ў школе і правільную арганізацыю актыўнага ўдзелу школы ў сацыялістычным будаўніцтве.

л) За забесьпячэньне ўмоў для павышэньня кваліфікацыі пэдагогаў і арганізацыю перападрыхтоўкі настаўніцтва школы.

м) За сваячасовае і мэтазгоднае разьмеркаваньне і скарыстаньне сродкаў, становішча грашовых і матар'яльных кніг, прыхода-расходных дакумантаў і ўсяго фінансава-матар'яльнага вучоту.

н) За выкананьне ўстаноўленага рэжыму ў школе унутранага распарадку і нагрузку дзяцей на падставе пастаноў ураду і НКА БССР.

о) За сваячасовае абсталяваньне школы вучэбным і клясным інвэнтаром, прыладамі, інструмантамі, падручнікамі, вучэбнымі дапаможнікамі за матар'яльны стан школьных будынкаў, сваячасовае правядзеньне рамонту, снабжэньне школе апалам і падрыхтоўку шко ы да заняткаў.

п) За становішча інтэрнату і вучнёўскай сталовай, арганізацыю снабжэньня вучняў вопраткай, абуткам і гарачым сьнеданьнем.

р) За санітарыю ў школе і гігіену вучняў.

5. Загадчык школай, пры садзейнічаньні піянэрарганізацый, уцягвае праз агульна вучнёўскія арганізацыі ўсю масу школьнікаў у вучэбна-вытворчую і грамадзка-палітычную працу школы, арганізуючы вучняў на барацьбу за якасьць вучобы і палітэхнізацыю школы, за сьвядомую дысцыпліну, беражлівыя адносіны да школьнае маемасьці і за санітарна-гігіенічны стан школы.

6. Загадчык школай, праводзячы ўсе неабходныя мерапрыемствы па ўзмацненьні працы школы, павышэньні вытворчай дысцыпліны, павінен у тойжа час дапасаваць усю сваю арганізацыйна-адміністрацыйную дзейнасьць і кіраўніцтва з разьвіцьцём творчага пачыну, ініцыятывы і самадзейнасьці самых пэдагогаў і другіх працаўнікоў школы, у максымальнай меры чула адносіцца да паказаньняў працаўнікоў школы па арганізацыйных, мэтадычных і гаспадарчых недахопах школы і меры для іх ліквідацыі.

7. Загадчык школы ўсямерна дапамагае ў працы вытворчых нарад, праводзіць у жыцьцё тыя пастановы вытворчых нарад, якія зьяўляюцца карыснымі для школы.

8. Загадчык школы дапамагае разгортваньню сацспаборніцтва і ўдарніцтва ўнутры школы, з прадпрыемствам ды іншымі школамі.

9. Загадчык школы праз камсод мабілізуе бацькоў дзяцей на ажыцьцяўленьне і кантроль за выкананьнем пастаноў партыі і ўраду па правядзеньню ўсеагульнага абавязковага навучаньня, палітэхнізацыі школы, склікае бацькоўскія сходы, вядзе азнаямленьне бацькоў з праграмамі, плянамі і мэтадамі працы школы, арганізуе азнаямленьне з вынікамі працы вучняў і абгаварэньне мерапрыемстваў па ўтварэньні спрыяючых умоў у сям'і для працы вучняў; прымае разам з камсодамі меры па адшуканьні дадатковых да бюджэту грамадзкіх сродкаў, неабходных для правядзеньня мер па палепшаньні ўнутры-школьнага быту (гарачыя сьнеданьні, гарбата, арганізацыя клюбнай працы, разумны адпачынак і г. д.), абсталяваньне габінэтаў, майстэрняў-працоўных пакояў, набыцьцё дапаможнікаў і школьных прылад.

10. Загадчык школай арганізуе пэрыядычную справаздачу школы аб яе працы ў цэлым ці па асобных разьдзелах перад дзяржаўнымі ўстановамі, грамадзкімі арганізацыямі і шырокай пралетарскай грамадзкасьцю, асьвятляе працу школы ў агульным і спэцыяльным друку.

## 2. Намесьнік загадчыка школы

1. Намесьнік загадчыка школы па вучэбнай частцы нясе адказнасьць перад загадчыкам школай за становішча вучэбна-вытворчай, праграмнамэтадычнай і выхаваўчай працы, сталы расклад працы, складае плян вучэбна-вытворчай працы і арганізуе праграмна-мэтадычную працу праз школьнае мэтадычнае бюро, цыклавыя і групавыя мэтадычныя камісіі, наладжвае працу выкладчыкаў па складаньні імі арыентыровачных і рабочых

плянаў па дысцыплінах, групах, складае цьвёрды расклад занятк ў, правілы ўнутранага распарадку ў габінэтах, лябар торыях, майстэрнях і інш., арганізуе вытворчае навучаньне на прадпрыемствах, у калгасе, саўгасе, на вопытным вучастку і г. д. арганізуе вучот працы вучняў, дапамагае ім у плянаваньні працы, разгортваньні сацыялістычнага спаборніцтва і ударніцтва, арганізуе і вядзе вучот школьнай, вучэбна-вытворчай працы, як колькасны, гэтак і якасны, па асобных канцэнтрах і па ўсёй школе, кіруе працай групаводаў.

2. Намесьнік загадчыка школай па вучэбнай частцы:

а) Арганізуе пазашкольную працу вучняў, выходзячы з устаноўленых норм нагрузкі вучняў, ажыцьцяўляе сувязь з камсамольскімі, піянэрскімі і вучнёўскімі арганізацыямі школы па ўсіх пытаньнях вучэбна-выхаваўчай працы школы.

б) Арганізуе абсталяваньне габінэтаў, лябараторый, бібліятэк, майстэрняў, рабочых пакояў і г. д.

в) Разьмяркоўвае вучняў па групах, падрыхтоўвае пытаньне выпуску і пераводу вучняў у наступныя групы, уносячы свае прапановы па гэтых пытаньнях у школьны савет і загадчыку школы.

г) Арганізуе працу па азнаямленьні пэдагогаў з асновамі вытворчасьці, праводзячы вытворчыя экскурсіі (фабрыкі, заводы, саўгас, калгас) і сыстэматычнае вывучэньне вытворчасьці, складае плян пэдагагічнай прапаганды сярод рабочых, калгасьнікаў, інжынэрна-тэхнічнага і аграномічнага складу і ажыцьцяўляе гэты плян сіламі школы.

д) Інструктуе пэдагогаў па пытаньнях арганізацыі пэдпрацэсу, ужываньня асобных, спрабаваных на практыцы, мэтадаў працы, вядзеньня выхаваўчай работы і па ўсіх астатніх пытаньнях вучэбна-выхаваўчай працы школы.

## 3. Намесьнік загадчыка школы па вытворчых нарадах

1. Намесьнікам загадчыка школай па вытворчых нарадах вылучаецца кіраўнік вытворчых нарад у школе і працуе на падставах сацсаўмясьціцельства. У яго абавязкі ўваходзіць:

а) Пры садзейнічаньні шырокай пралетарскай і калгаснай грамадзкасьці і адміністрацыі школы вывучаць і распрацоўваць усе прапановы па палепшаньні вучэбна-выхаваўчай працы школы, якія ўносяцца працаўнікамі школы і грамадзкасьцю.

б) Ажыцьцяўляць праз адміністрацыйны апарат школы прапановы вытворчых нарад і асобных працаўнікоў, арганізоўваць кантроль за дакладным выкананьнем прынятых адміністрацыяй прапаноў.

в) Вывучаць эфэктыўнасьць усіх прапаноў.

г) Дабівацца прэміраваньня працаўнікоў за лепшыя прапановы і лепшую арганізацыю працы і яе эфэктыўнасьць.

д) Перадача лепшых, апраўдаўшых сябе на вопыце, прапаноў для скарыстаньня іх іншымі школамі.

е) Арганізацыя дапамогі ў працы вытворчых нарад, рацыяналізатарскіх груп і брыгад.

ж) Арганізацыя працы па пэдагагічнай і тэхнічнай прапагандзе сярод працаўнікоў школы і сярод рабочых, калгасьнікаў і працоўнага сялянства.

2. Усе свае мерапрыемствы нам. загадчыка па вытворчых нарадах праводзіць з ведама і пасьля зацьверджаньня загадчыкам школы.

## 4. Настаўнікі

1. Настаўнікі школы нясуць адказнасьць:

а) За выкананьне вучэбных плянаў і праграм школы ў групе і па сваёй дысцыпліне.

б) За якасьць навучаньня і выхаваньня вучняў іх групы.

в) За пасьпяховасьць па вучэбных дысцыплінах, якія яны выкладаюць.

г) За правільна арганізаваную сыстэму камуністычнага выхаваньня дзяцей ў групе.

д) За вывучэньне сацыяльна-бытавых умоў жыцьця вучняў.

е) За вядзеньне вучоту ведаў, грамадзкай нагрузкі вучняў, у адпаведнасьці з існуючымі правіламі і дырэктывамі.

ж) За разгортваньне сацспаборніцтва і ўдарніцтва ў групе.

2. Кожны настаўнік абавязан:

а) складаць на паўгода вытворчы плян і на дэкаду рабочы плян.

б) Вывучаць вытворчасьць, да якой прымацавана школа, і скарыстоўваць для прадукцыйнай працы групы кінопераcоўкі, музэі, выстаўкі ды інш.

в) Праводзіць бацькоўскія сходы.

г) Дапамагаць у правядзеньні плянавай працы ворганаў дзіцячага самакіраўніцтва ў групе.

д) Праводзіць агульна-школьныя мерапрыемствы (рэалізацыя пазык, правядзеньне кампаній і г. д.)

е) Наладзіць унутраны распарадак у школе, ашчадныя адносіны да школьнай маёмасьці, пасільную нагрузку вучняў.

ж) Сачыць за санітарным становішчам у клясе і гігіенай вучняў.

з) Арганізаваць дапамогу адстаючым вучням.

## 5 Школьны доктар

Школьны доктар абавязан:

1. Праводзіць асабіста ці праз мясцовыя лячэбна-санітарныя ўстановы пэрыядычныя мэдыцынскія агляды дз цей, але ня менш як два разы ў год: у пачатку (верасень-лістапад) і ў канцы навучальнага году.

2. Нагляд за станам здароўя вучняў.

3. Ажыцьцяўляць непасрэдна, або праз адпаведныя лячэбныя ўстановы кантроль над заняткамі фізкультурай.

4. Кіраваць працай школы па аздараўленьні абкружаючага школьнага асяродку і ўмоў хатняга быту вучняў.

5. Арганізаваць прафіляктычныя мерапрыемствы па ахове школы і дзяцей ад інфэкцыйных захворваньняў.

6. Прымаць удзел ва ўсёй працы школы па ўрэгуляваньню рэжыму (праца і адпачынак дзяцей, вучэбная і грамадзкая нагрузка).

7. Ажыцьцяўляць непасрэднае кіраўніцтва ўсімі аздаравіцельнымі мерапрыемствамі.

8. Праводзіць кантроль над працай дзяцей ў майстэрнях, рабочых пакоях, на прадпрыемствах, саўгасах і калгасах.

9. Прымаць удзел у складаньні рацыянальнага „мэню" для вучняў і назіраць за становішчам школьнай кухні, сталовай і за якасьцю яды.

10. Весьці рэгулярную працу з бацькамі шляхам арганізацыі лекцый, гутарак, кансультацый ды інш.

11. Арганізаваць і весьці сярод дзяцей школы прапаганду за санітарыю, гігіену і здаровы быт у школе і сям'і.

## 6. Загадчык гаспадаркі

1. Адказвае перад загадчыкам школы за ўзорнае становішча ўсяе школьнае гаспадаркі, школьных будынкаў, школьнага двара, мэблі інвэнтара, за санітарны стан школьных памяшканьняў.

2. Праводзіць абсталяваньне школьных майстэрняў па зацьверджаных загадчыкам школы плянах, праводзіць закупку дапаможнікаў, вучэбных прылад, школьнай мэблі і г. д.

3. Наладжвае снабжэньне школы вадою, апалам і асьвятленьнем і адказвае перад загадчыкам школы за нармальную тэмпэратуру ў школе і нармальнае асьвятленьне клясных пакояў, габінэтаў, майстэрняў.

4. Арганізуе забесьпячэньне дзяцей абуткам, вопраткай, гарачымі сьнеданьнямі, прыцягвае грамадзкую ўвагу і ініцыятыву ў гэтай справе, вядзе ўсю працу ў цеснай сувязі і пры канкрэтным удзеле камсоду.

5. Праводзіць інвэнтарызацыю школьнай маёмасьці і сочыць за яе аховай, праводзіць рамонт і дабудову.

6. Расстаўляе сілы тэхнічных працаўнікоў, разьмяркоўвае працу між імі і ўстанаўляе распарадак дню тэхпэрсаналу.

Увага. У тых школах, дзе няма загадчыка гаспадаркі або камэнданта, усе функцыі яго выконвае загадчык школы сваімі сіламі, або праз адпаведны тэхнічны пэрсанал школы.

## 7. Тэхнічны пэрсанал

1. Падрыхтоўвае школу да заняткаў: падмятае і мые падлогу, паліць печы, кіпяціць ваду, праветрывае клясы, прыводзіць у парадак памяшканьне клясаў пасьля заняткаў, адказвае за парадак на двары, каля школы.

2. Сочыць за парадкам і аховай маёмасьці, дае званкі і выконвае асобныя даручэньні загадчыка школы, або загадчыка гаспадаркі, выходзячы з устаноўленага распарадку дню для тэхпэрсанала.

## 8. Камсод

1. Камсод складаецца з выбраных бацькоў вучняў па 1 2 прадстаўнікоў ад кожнай групы, прадстаўнікоў прадпрыемства, да якога прымацавана школа, мясцкому, або селькому саюзу працасьветы, мясцовага савету і загадчыка школы, або яго намесьніка.

2. Камсод выконвае наступную працу:

а) арганізуе бацькоў на дапамогу школе па правядзеньні ўсеагульнага абавязковага навучаньня павышэньні якасьці вучобы і сьвядомай дысцыпліны, арганізацыі лябараторый, майстэрняў, рабочых пакояў, ды інш, мерапрыемстваў па палітэхнічнай падрыхтоўцы вучняў і іх камуністычным выхаваньні;

б) клапоціцца аб матар'яльнай дапамозе вучням, іх культурным і бытавым абслугоўваньні, арганізацыі харчаваньня вучняў, дапамагае ў правядзеньні аздараўленчых мера'прыемстваў. З гэтай мэтай камсод адшуквае сродкі дадаткова да бюджэту для ўзмацненьня якасьці ўсіх відаў школьнай працы;

в) аказвае дапамогу ў выкананьні вучнямі правіл унутранага распарадку ў школе, арганізуе дзяжурствы культармейцаў у дапамогу пэдагогам для ўдзелу ўва ўсіх школьных мерапрыемствах;

г) вылучае сваіх прадстаўнікоў ўва ўсе школьныя арганізацыі (школьны савет, вучком, групавыя і цыклявыя мэтадычныя камісіі, вытворчыя нарады і інш);

д) дапамагае праводзіць агульна—школьныя і групавыя сходы бацькоў. На сваіх пленумах заслухоўвае справаздачы пэдагогаў і членаў камсоду аб пасьпяховасьці, вытворчым навучаньні вучняў, іх грамадзка-палітычным выхаваньні, матар'яльна-бытавым абслугоўваньні ды інш;

е) усе сродкі, сабраныя камсодам, зьяўляюцца сродкамі школы і расходуюцца загадчыкам школы па складзенаму камсодам пляну, зацьверджанаму загадчыкам школы.

## Т.т. асьветнікі і навуковыя працаўнікі

У пэрыяд пасьпяховага сацыялістычнага будаўніцтва і набліжэньня новай эпохі канчатковага зьнішчэньня капіталістычных элемэнтаў і набліжэньня новай эпохі пабудаваньня бясклясавай сацыялістычнай грамады, наша партыя і савецкі ўрад паставілі адной з сваіх практычных задач усямернае разгортваньне культурнай рэвалюцыі, пашырэньне масавае народнае асьветы ў краіне.

Але, справа культурнага фронту—вырашэньне такіх пытаньняў, як ліквідацыя няпісьменнасьці і малапісьменнасьці, усеагульнае абавязковае навучаньне, будаўніцтва новай палітэхнічнай школы, падрыхтоўка пэдагагічных і тэхнічных кадраў,—ня толькі справа партыі і ўраду, а і ўсяе савецкае грамадзкасьці.

Адным з важнейшых сродкаў уцягненьня шырокіх працоўных мас у сацыялістычнае будаўніцтва і мабілізацыі іх увагі навакол пытаньняў культурнае рэвалюцыі зьяўляецца друк, у прыватнасьці пэдагагічны.

Ва ўмовах БССР гэтую ролю павінны выконваць цэнтральныя і раёныя газэты і ў першую чаргу часопіс „Камуністычнае Выхаваньне“.

Часопіс „Камуністычнае Выхаваньне“ зьяўляецца органам НК і ЦП Саюзу працасьветы і ставіць перад сабою наступныя задачы:

а) весьці барацьбу на два фронты, у галіне марксыцка-ленінскай пэдагогікі, рашуча змагацца з рознымі ўхіламі і скажэньнямі, за генэральную лінію партыі ў пытаньнях тэорыі і практыкі пэдагагічнага працэсу;

б) рашуча змагацца з размаітнымі скажэньнямі ленінскай нацыянальнай палітыкі і адхіленьнямі ад правільнага яе ажыцьцяўленьня ў галіне эканамічна-культурнага будаўніцтва;

в) асьвятляць працу цэнтральных і раённых органаў нарасьветы і прафсаюзных арганізацый, адбіваць (абагульняць) вопыт масавых школ, тэхнікумаў, рабфакаў, ВНУ, весьці барацьбу за рэалізацыю пастановы ЦК УсеКП(б) аб школе;

г) дапамагаць нізавому настаўніцтву ў падвышэньні яго мэтадалёгічнай і мэтадычнай кваліфікацыі, арыентуючы ў важнейшых пытаньнях будаўніцтва новай палітэхнічнай школы.

З ўсімі гэтымі задачамі часопіс „Камуністычнае Выхаваньне“ сіламі аднае рэдкалегіі і рэдакцыі справіцца ня зможа.

Неабходна Ваша практычная дапамога. Часопіс „Кам. Выхаваньне“ стане сапраўды баявым кіруючым органам Наркамсьветы і Саюзу працасьветы у тым разе, калі Вы прымеце жывы, актыўны ўдзел у яго працы.

## Т.т. асьветнікі і навуковыя працаўнікі!

Стварайце на мясцох карэспандэнцкія пасты „Кам. Выхаваньня“. Станавецеся ў шэрагі актыўных карэспандэнтаў часопісу. Пішэце аб працы ня толькі свае школы, тэхнікума, ВНУ, але і Вашага с/савету, раёну, рэспублікі. І гэтым Вы ня мала зробіце ў нашай агульнай вялікай справе, народнай асьветы—камуністычнага выхаваньня падрастаючага пакаленьня.

НКА і рэдакцыя „Кам. Выхаваньня“ спадзяюцца, што першым практычным крокам Вашага ўдзелу ў часопісу будуць дописы аб выніках тэй працы, якую Вы правялі па рэалізацыі 6-ці ўмоў і ліста т. Сталіна па выкананьні пастановы ЦК УсеКП(б) аб школе.

Не адкладвайце гэтай работы на летні час, час Вашых вакацый, а пішэцэ зараз, падагульняючы сваю гадавую працу на настаўніцкіх раённых нарадах і канфэрэнцыях.

Нам. Наркома асьветы БССР (*Вальфсон*).

Нам. адказн. рэдактара „Кам. Выхаваньня“ (*Хомо*)

*Рэдкалегія*—Брыгневіч Г. М., Вольфсон С. Я., Гайдук С. Е., Зарэмбоўскі К. П., Некрашэвіч А. Я., Панкевіч П. Е., Царт Л. А.

*Адказны рэдактар* С. Е. Гайдук.

